

# Беларускі скаўтынг





Алесь ЛОЗКА

Беларускі




скаўтынг





УДК 329.78(476)
ББК 66.75(4Беи)
Л72

Рэцэнзенты:
**В. В. Акімаў, В. В. Кліманові́ч, Л. Я. Кулажанка**

У афармленні выдання выкарыстаны фотаздымкі **А. П. Дрыбаса**, а таксама — з архіваў **А. Ю. Лозкі** і **В. В. Сугойдзя**

ISBN 985-07-0213-3



## Ад аўтара

Выхаванне дзяцей заўсёды непакоіла і непакоіць чалавецтва, таму што гэта праблема яго духоўнасці, дастатку і будучыні. Якімі ж шляхамі ісці да абранай мэты?

Сёння спецыялісты і аматары настойліва шукаюць і ствараюць новыя дзіцячыя арганізацыі і рухі, рэфармуюць ранейшыя. Пры аналізе іх статутаў, праграм і метадаў можна заўважыць:

яўную ці фармальную перабудову раней існуючых арганізацый;

выкарыстанне сусветнага і айчыннага прагрэсіўнага вопыту;

стварэнне новых методык і на іх аснове дзіцячых фарміраванняў.

Першае прадугледжвае аднаўленне аджыўшага, трэцяе — зусім новае, невядомае, што побач з іншым мае на мэце праверку, эксперымент. Эксперымент на дзецях — вельмі непажаданая, небяспечная з'ява, і менавіта другая тэндэнцыя пазбягае яго. Яна ляжыць у аснове скаўтынгу.

Перавага скаўцкага метаду ў тым, што ён апрабаваны, правераны часам, гісторыяй. Нацыянальныя арганізацыі скаўтынгу паспяхова дзейнічаюць больш чым у 215 краінах свету. Ён налічвае ў сваіх шэрагах болей 25 мільёнаў сяброў. Заснаваны ў 1907 годзе, гэты рух развіваўся таксама ў царскай і савецкай Расіі. Затым па ініцыятыве Н. К. Крупскай было вырашана перавесці недзяржаўныя і непалітычныя арганізацыі на партыйныя рэйкі і ўзяць іх у свае рукі, часткова выкарыстаўшы многія ідэі скаўтынгу. Так з'явілася піянерыя.

Беларускія педагогі бяруць на ўзбраенне сусветнавядомыя методыкі, цікавяцца ўсім новым у выхаванні і навучанні, маюць свой немалы вопыт у гэтай далікатнай чалавечай дзейнасці. Ды вось толькі дагэтуль амаль нічога не ведаюць пра скаўцкі рух, які шырока выкарыстоўвае самыя эфектыўныя педагагічныя сродкі: гульню, працу, прыроду. Па згаданай тэматыцы ў нас няма педагогаўнавукоўцаў, мала публікацый, адсутнічае спецыяльная літаратура. Невялікія скаўцкія фарміраванні, што пачалі ўзнікаць у пачатку 90-ых гадоў, варацца, як кажуць, у сваім саку. З-за адсутнасці жадаемай колькасці кваліфікаваных і нацыянальна свядомых кадраў у Беларусі ў параўнанні з іншымі краінамі СНД значна менш дзяцей, што працягваюць сапраўды нацыянальныя традыцыі скаўтынгу. Агульнанародная цяга да інтэграцыі ў міжнародную цывілізаваную супольнасць патрабуе далучэння краіны да прагрэсіўных форм дзейнасці, якім з'яўляецца сусветны скаўцкі рух, што адзначыў сваё дзевяностагоддзе.

Скаўцкі рух не прэтэндуе на замену ўсяго іншага хаця б па той прычыне, што не разлічаны на масавасць. Як паказвае вопыт, ён здольны да супрацоўніцтва, хоць і з'яўляецца незалежным. Скаўцкія фарміраванні знаходзяцца па-за школай, за працу ў іх дарослыя не атрымліваюць зарплату. Але лідэрамі, безумоўна, могуць быць школьныя педагогі, якія гатовы аддаць дзецям свой вольны час. Сапраўды, з дзецьмі зручней займацца менавіта педагогу, рыхтаваць добраахвотнікаў (не ўвесь клас) да ўступлення ў скаўты, выкарыстоўваць часам для гэтай мэты школьныя памяшканні, калі ёсць згода з адміністрацыяй. Звычайна ва ўсіх краінах улады падтрымліваюць гэты сусветны рух рэальнай матэрыяльнай дапамогай.

Разлічваючы на завадатараў, якія хочуць пачаць займацца скаўтынгам, мы ў дадзенай кнізе



больш увагі ўдзялялі ранняму школьнаму ўзросту, прывялі дзеля ўзору «Скаўцкі рэгулямін» (1947), якім карысталіся самыя малодшыя сябры Згуртавання беларускіх скаўтаў на чужыне (эміграцыі).

У чым жа сутнасць, прынцыпы, выхаваўчы метад сусветнага руху? Аб гэтым кніга. Скажам толькі, што прынцыпы скаўтынгу трымаюцца на трох «кітах». Першы — абавязак перад Богам. Тут у нас шмат працы, бо з піянераў выхоўвалі ваяўнічых атэістаў. Але нельга думаць, што адраджаемы рух чыста рэлігійны. Сутнасць абавязку заключаецца ў тым, каб дапамагчы моладзі і дзецям, спасцігаючы матэрыяльны свет, зразумець, у чым духоўныя каштоўнасці жыцця.

Другі прынцып — абавязак перад іншымі — азначае «Вернасць Бацькаўшчыне ў гармоніі з развіццём свету, узаемаразуменне і супрацоўніцтва на тутэйшым, нацыянальным і сусветным узроўнях»*.

Трэці прынцып грунтуецца на абавязку ў адносінах да сябе, г. зн. на адказнасці за асабістае развіццё, удасканаленні сваіх здольнасцей, раскрыцці асобы.

Сутнасць скаўтынгу найлепш спасцігаць не тэарэтычна, а практычнымі сродкамі: у працы з дзецьмі, у скаўцкіх летніках. Неабходна зазначыць, што скаўты займаюцца любой карыснай для сябе і грамадства справай. Па-сутнасці, скаўтынгам можна назваць дзейнасць некаторых гурткоў па інтарэсах, дзе дзеці жывуць згодна з Прыраэннем, Правам і кіраўнікі іх карыстаюцца спецыяльнай методыкай, дзе важнае месца адведзена вучобе праз справу, працы ў малых групах, навучанню на прыродзе і гульні.

Першыя два раздзелы найбольш датычаць гісторыі і тэорыі, раскрываюць аснову разумення

* Сборник документов Всемирной организации скаутского движения. М., 1991. С. 10.

класічнага і беларускага скаўтынгу, бо рух існаваў не толькі ў Расіі, Прыбалтыцы і на Украіне*, а і ў нас. **Беларускі скаўтынг мае сваю гісторыю і асаблівасці.** Якраз на гэтыя асаблівасці, без якіх беларускі нацыянальны скаўтынг не мае сэнсу, у прыватнасці, і звяртае ўвагу кніга. У скаўтаў усіх краін святым абавязкам з'яўляецца выхаванне любові да роднай Бацькаўшчыны, веданне яе гісторыі, традыцый, мовы, нацыянальна-гістарычных сімвалаў. Мне як аўтару ўсцешна, што тую акалічнасць зразумелі ўсе, хто меў зацікаўленасць у выхадзе кнігі.

Не менш важным і значным з'яўляецца трэці раздзел кнігі «Дакументы. Дапаможны матэрыял». Тут прадстаўлены статутныя, метадычныя і дапаможныя матэрыялы ў выглядзе дакументаў Сусветнай арганізацыі скаўцкага руху (САСР), распрацоўкі некаторых заняткаў былых і сучасных беларускіх арганізацый, прыведзены асобныя скаўцкія песні, літаратура. Многія матэрыялы ўяўляюць архіўную і гістарычную каштоўнасць. Каб захаваць тагачасны дух, прывучыць сучаснага пачынаючага даследчыка працаваць з рознымі дакументамі і паважаючы выбар іншых (беларускіх эмігрантаў), мы прынцыпова некаторыя тэксты падавалі ў той рэдакцыі, у якой яны дадзены ў арыгінале.

Гэтая кніга — яшчэ адна невядомая і цікавая старонка гісторыі роднай Беларусі. Спадзяёмся, што яна не толькі зацікавіць вас, але і стане дапаможнікам у справе адраджэння беларускага скаўцтва. Жадаем на гэтым шляху поспехаў.

Мы ўдзячны ўсім тым, хто мае дачыненне да выхаду ў свет гэтага няпростага, але вельмі патрэбнага выдання, да папулярызацыі і практычнага ўвасаблення ў Беларусі сусветнавядомай методыкі. Асаблівая падзяка былым скаўтам, якія зрабілі карысныя заўвагі па ўдасканаленні рукапісу, а таксама тым, хто прадставіў беларускім скаўтам неабходную літаратуру,— Сусветнаму скаўцкаму бюро, у прыватнасці дырэктару спецыяльных мерапрыемстваў і сувязей Жану Касіньё, кіраўніку 6-га рэгіёна Аляксандру Бондару, а таксама Беларускай бібліятэцы і музею імя Ф. Скарыны ў Лондане, Беларускаму інстытуту навукі і мастацтва ў Нью-Йорку і Міністэрству адукацыі Рэспублікі Беларусь за падтрымку і разуменне важнасці справы.

* Скаутинг в СССР. Женева. 1991. С. 6.

## З ГІСТОРЫІ СКАЎТЫНГУ

### Што такое «скаўтынг»?

Назву «скаўт» падарыла свету Англія. Па-англійску scout азначае разведчык, даследчык прыроды, жыцця, выведвальнік таямнічага; «гёрл-скаўты» — дзяўчаты, «бой-скаўты» — скаўты-хлопцы. Увядзенне ў шырокі ўжытак гэтага паняцця сярод дзяцей і моладзі належыць англійскаму лорду Роберту Бадэн Пауэлу. Несучы нялёгкую і поўную рамантыкі армейскую службу сярод дзікай прыроды Індыі і Афрыкі, англійскі генерал-маёр у пачатку XX стагоддзя стварыў стройную праграму выхавання моладзі. Яна засноўваецца на любові да Бога і Бацькаўшчыны, удасканаленні асобы. Мэта выхавання дзяцей дасягаецца працай з малымі групамі ў цеснай лучнасці з прыродай і шляхам стварэння гульнёвых сітуацый.

Менавіта гульні адводзіцца вялікая роля: дзеці гуляюць у жыццё, спасцігаючы цяжкасці, рыхтуюцца да выпрабаванняў. Найбольш пашыранымі з'яўляюцца доўгія гульні ў рабінзонаў, паляўнічых, следапытаў, разведчыкаў, рыцараў і г. д. Праводзячы вольны час у вандроўках, жывучы ў намётах (палатках), шалашах у лесе, гарах або ля возера, дзеці вучацца здабываць і рыхтаваць ежу, чысціць і даглядаць сваю вопратку, аказваць першую медыцынскую дапамогу, абараняць сябе і сяброў ад нечаканасцей прыроды, выпрацоўваць смеласць і мужнасць, загартоўваць характар. Усё гэта патрабуе ад іх набыцця самых розных ведаў і навыкаў такіх, як валоданне шыфраваным пісьмом, следачытанне, вязанне вузлоў і іншага.

У 1908 годзе Р. Бадэн Пауэл напісаў кнігу



«Scouting for Boys» («Скаўтынг для хлопчыкаў»), у якой выклаў прынцыпы новага метаду. Яна мела вялікі поспех. Па прыкладу аўтара ўтвараліся скаўцкія арганізацыі не толькі на яго радзіме, у Англіі, але і ў многіх краінах Еўропы, Амерыкі і Азіі. Пачаў разгортвацца сусветны скаўцкі рух, які ўпершыню арганізацыйна аформіўся на міжнароднай скаўцкай канферэнцыі. Гэта адбылося ў 1922 годзе ў Парыжы. Тады ў Францыю з'ехаліся прадстаўнікі нацыянальных скаўцкіх арганізацый, прынялі неабходныя дакументы, стварылі Выканаўчы камітэт і Сакратарыят.

У Канстытуцыі Сусветнай арганізацыі скаўцкага руху (САСР), якой кіруюцца цяпер усе скаўты зямлі, дадзена паняцце скаўтынгу: «Скаўцкі рух з'яўляецца добраахвотным, непалітычным выхаваўчым рухам для маладых людзей, які адкрыты для ўсіх незалежна ад іх паходжання, расавай прыналежнасці або веравызнання, у адпаведнасці з мэтай, прынцыпамі і метадамі, распрацаванымі заснавальнікам Руху». Мэтай яго з'яўляецца садзейнічанне развіццю маладых людзей дзеля дасягнення поўнага інтэлектуальнага, грамадскага і духоўнага патэнцыялу, як асобы (індывідума), як адказных грамадзян і як членаў мясцовых, нацыянальных і міжнародных згуртаванняў.

### Хто ж ён – Бі Пі?

Заснавальніка скаўцкáга руху Роберта Бадэн Пауэла ў сваіх кругах коратка і любоўна называюць Б. П. ці Бі Пі. Дзень нараджэння яго, 22 лютага 1857 года, адзначаюць ва ўсім свеце.

Роберт Стэфенсан Сміт Бадэн Пауэл паходзіў з сям'і, вядомай не толькі ў Лондане і Вялікабрытаніі. Яго прадзед Джордж Стэфенсан — вынаходнік паравоза. Праўнук не менш знакаміты: пасля англа-бурскай вайны генерал-маёр стаў нацыянальным героем Вялікабрытаніі, а, стварыўшы новы метад дзіцячага выхавання, лорд Бадэн Пауэл атрымаў званне Галоўнага скаўта свету.

У школе Роберт не вучыўся выдатна, але быў

дапытлівым і здольным: іграў на піяніна і скрыпцы, удзельнічаў у драматычных спектаклях, арганізоўваў цікавыя гульні і падарожжы. Дзяцінства яго праходзіла ў сельскай мясцовасці, таму вольны час ён праводзіў з сябрамі на прыродзе: у палатцы, у шлюпцы, шукаючы прыгодаў у падарожжах па рацэ і моры. Пасля заканчэння ваеннага вучылішча быў кавалерыстам, навучаў жаўнераў і служыў у Індыі, на Балканах, удзельнічаў у вайне ў Паўднёвай Афрыцы, дзе здабыў славу героя.

Нялёгкая служба сярод дзікай і чужой прыроды ўзбагаціла жыццёвы вопыт, які ён, бескарыслівы чалавек, вырашыў перадаць маладому пакаленню. У 1907 годзе Бадэн Паўэл у Англіі на востраве Браўнсі сабраў у намётах 20 хлопчыкаў, якія ў лясных умовах вучыліся вынослівасці і ўзаемавыручцы, назіральнасці і кемлівасці, дысцыпліне і самаабслугоўванню. Усё гэта набывалася праз гульню. Выпрацоўвалася методыка скаўтынгу, яго атрыбутыка: законы, дэвіз, форма, хусцінка і г. д.

У 1910 годзе Алаў Соумс Бадэн Паўэл, жонка Бі Пі, пачала працаваць з дзяўчынкамі — гёрл-скаўтамі, гёрл-гайдамі (з англ. guide — праваднік, гід, разведчык). Яна стала іх сусветным кіраўніком. У 1928 годзе была створана Сусветная асацыяцыя гёрл-гайдаў і гёрл-скаўтаў, штаб-кватэра якой і цяпер знаходзіцца ў Лондане.

У развіцці руху таксама важнае значэнне належыць канадскаму пісьменніку-анімалісту Сэтану-Томпсану (1860—1946).

Памёр Р. Бадэн Паўэл 8 студзеня 1941 года. У апошнія дні жыцця ён звярнуўся да скаўтаў са словамі, якія лічацца яго запаветам:

«...Я веру, што Бог змясціў нас у гэтым цудоўным свеце для нашага шчасця, каб атрымліваць асалоду ад жыцця. Шчасце — гэта не багатая маёмасць, не поспех у кар'еры і не паблажлівасць да сябе.

Адчуваючы моц, ты можаш быць карысным, і такім чынам цешыцца жыццём. Прырода пакажа





*Лорд Роберт Бадэн Паўэл (1857—1941) — Галоўны скаўт свету*

табе, якімі цудамі і прыгажосцю яна напоўнена ўсім на радасць. Будзь задаволены тым, што маеш і выкарыстай гэта найлепшым чынам. Глядзі на светлы бок рэчаў, а не на цёмны.

А сапраўдны шлях да шчасця — даваць шчасце іншым людзям. Старайся пакінуць гэты свет лепшым, чым ты знайшоў яго. І калі прыйдзе час паміраць, ты можаш быць шчаслівым, адчуваючы, што ва ўсякім выпадку ты не марнаваў дарэмна час, а стараўся зрабіць усё, што ў тваіх сілах.

«Быць напагатове» — гэта шчаслівa жыць і

шчаслівым памерці ў шэрагах скаўтаў. Абяцай «быць напагатове» заўсёды, нават калі вырасцеш.
Хай дапамагае табе Бог».

### Лёс скаўтынгу ў Расіі

Скаўтынг у Расію прыйшоў не на пустое месца. Яшчэ ў пачатку 1870-ых гадоў у Паўлаўску была спроба стварэння «пацешнага палка», а ў 1908 годзе з'явіўся рух пацешных у памяць хлопчыкаў, з якімі ў дзяцінстве Пятро Вялікі гуляў у вайну і затым стварыў на іх аснове Прэабражэнскі і Сямёнаўскі гвардзейскія палкі.

30 красавіка 1909 года лічыцца днём утварэння першага атраду расійскіх скаўтаў у Паўлаўску ля Царскага Сяла, цяпер Пушкіна. Яго заснавальнікам стаў штабс-капітан Алег Іванавіч Панцюхоў. У тым жа годзе па жаданні самадзержца Мікалая II у перакладзе выйшла кніга Бі Пі «Scouting for Boys» (якая ў рускім варыянце мела назву «Юный разведчик»). Асабістая зацікаўленасць цара стымулявала развіццё скаўтынгу. У 1914 годзе ў Петраградзе было створана таварыства дапамогі юным разведчыкам «Русский скаут», а ў наступным — у Маскве быў адкрыты «Музей по скаутизму». Юным разведчыкам стаў у 1915 годзе і цэсарэвіч Аляксей.

Да 1917 года арганізацыі разведчыкаў існавалі ўжо ў 143 гарадах Расіі. На Украіне скаўтаў называлі пластамі. Першыя пластовыя групы ўзніклі ў 1911 годзе па ініцыятыве студэнтаў Пятра Франка і Івана Чмолы. Найбольшае пашырэнне рух атрымлівае ў гарадах Львоў і Кіеў.

Развіваўся скаўцкі рух і ў іншых рэгіёнах царскай Расіі. Звычайна ён меў два накірункі: мацнейшую плынь прадстаўляла расійска-шавіністычнае крыло і пачыналі прабівацца нацыянальныя. У 1915 годзе ў Гомелі дзейнічалі некалькі рускіх, польскіх і яўрэйскіх атрадаў бой- і гёрл-скаўтаў, а ў 1917 годзе была створана вялікая зграя ваўчанятаў у дачыненні да дзяцей малодшага ўзросту. У Магілёве таксама арганізавана дружына скаўтаў.



Скаўты неслі вартавую і разведвальную службу. Разам з адступаючай белай арміяй за мяжу прыйшлося пайсці і скаўцкаму атраду, каб пазбегнуць праследу бальшавікоў. У Заходняй Беларусі дзейнічала ў гарадах некалькі скаўцкіх арганізацый пры рускіх гімназіях.

Першы з'езд па скаўтынгу быў сабраны ў Петраградзе ў 1915 годзе, другі — у 1917-ым. У 1919 годзе ў Навачаркаску праходзіў з'езд, на якім А. І. Панцюхова абралі пажыццёвым старшым рускім скаўтам. У тым жа годзе другі з'езд Расійскага камуністычнага саюзу моладзі сваім рашэннем забараніў скаўцкія арганізацыі. Да гэтага пытання вярталіся на трэцім і чацвёртым з'ездах. Затым многія кіраўнікі скаўтаў былі рэпрэсіраваны і расстраляны. Калісьці папулярны дзіцячы рух пераносіцца за межы Савецкай краіны: у Латвію, Эстонію, Турцыю. Як сведчыць аўтар кнігі пра падпольныя арганізацыі скаўтаў «Молодежь и ГПУ» Б. Саланевіч, да 1926 года ў Расіі было арыштавана каля тысячы дарослых скаўтаў і іх кіраўнікоў.

Там было створана некалькі рускіх арганізацый. 1 ліпеня 1922 года Арганізацыя рускіх скаўтаў за мяжою была перайменавана ў Славянскі саюз скаўтаў і гёрл-гайдаў, а 30 ліпеня — у бойскаўцкае інтэрнацыянальнае бюро. Акрамя таго, у 1928 годзе П. Н. Багдановіч* стварыў НАРР (Нацыянальную арганізацыю рускіх разведчыкаў), а Н. Ф. Фёдараў* у Парыжы — арганізацыю віцязей, якія не падпарадкоўваліся бюро.

Пасля заканчэння сусветнай вайны ў Мюнхене на з'ездзе кіраўнікоў, што выйшлі з падполля, была прынята новая назва АРЮР (Арганізацыя расійскіх юных разведчыкаў) як працяг НАРР. Сярод замежных арганізацый яна найбольш уплывовая ў Нямеччыне, Францыі і іншых еўрапейскіх краінах, а таксама ў Аргенціне, Венесуэле,

* Ініцыялы прыведзены па рускамоўных крыніцах.

ЗША, Канадзе і Аўстраліі. Выпускае розныя дапаможнікі, штомесячнік «Вестник руководителя», квартальнік «Скаут-разведчик», штогоднік па пазашкольнай педагогіцы «Опыт», пяць бюлетэней і два часопісы.

АРЮР узаемадзейнічала з царкоўнымі школамі, кадэцкімі і казацкімі таварыствамі і інш. Яе ганаровае абяцанне: «Честным словом обещаю, что буду исполнять свой долг перед Богом и Родиной, помогать ближним и жить по законам разведчиков!». Законы разведчыкаў пачынаюцца з пункта: «Разведчик верен Богу, предан Родине, родителям и начальникам» і заканчваюцца 12-ым: «Разведчик скромен». Гімн пачынаецца словамі:

Будь готов, разведчик, к делу честному,
Трудный путь лежит перед тобой,
Глянь же смело в очи неизвестному
Бодрый телом, мыслью и душой!..

## Пасля роспуску скаўтаў

У Савецкай Расіі скаўтам было прапанавана пераходзіць у піянеры. Слова «піянер» паходзіць з французскай мовы (pionnier) і азначае «даследчык», пачынальнік чаго-небудзь, першаадкрывальнік. Чыста лексічныя адрозненні ў паняццях «скаўт» і «піянер» малазначныя, а на практыцы ўсталяваліся антанімічныя сэнсавыя адрозненні.

Камуністы справядліва ўбачылі ў міжнародным дзіцячым руху вялікую сілу. Н. К. Крупская, якая напачатку падтрымала яго, у 1919 годзе пісала ў артыкуле «Об юках» (юных камуністах): «Нам многаму патрэбна вучыцца ў бойскаўтызма, але даць бойскаўтызму зусім іншыя, камуністычныя мэты... Удзельнічаючы ў рабочых саюзах моладзі, юкі паступова ператворацца ў камуністаў, і камуністычныя ідэі стануць ідэямі, за якія юкі будуць гатовы аддаць сваё жыццё». Пераход скаўтаў на «камуністычныя мэты» адбываўся не адразу і не адназначна. Праходзілі дыскусіі, прымаліся рашэнні. Адзін з вядучых і няўрымслівых скаўтмайстроў з дарэвалюцыйным стажам Інакенцій Жукаў, галоўны сябар Сусветнага рыцарства і працоўнага братэрства скаўтаў, усюды даводзіў, што ў скаўтызме не сутнасць буржуазная, а абалонка, неабходна выхоўваць дзяцей праз доўгую гульню, гульню ў піянераў, якая прыдае паэтычнасць.

Расійскі даследчык дзіцячага руху В. Кудзінаў піша: «Распрацаваў І. Жукаў і праект стварэння штатнай пасады Рабінзона Круза і яго сябра Пятніцы пры Наркамасветы. У кіраўніцтве цэнтральных ведамстваў асветы павінны знаходзіцца асобы, якія блізкія і дарагія духоўнаму свету дзяцей школьнага ўзросту. Дзейнасць такіх выдатных работнікаў асветы, як т. Луначарскі, імпануе толькі дарослым грамадзянам, ацэньваецца толькі імі. А тут неабходна эмацыянальна ўздзейнічаць на дзяцей, а гэта можа быць толькі знаёмы ім персанаж,— «Рабінзон», або «Правадыр адважных», або «Стары воўк», або «Капітан Грант»...».* Але гэта не было прынята.

Другая Усерасійская канферэнцыя РКСМ 19 мая 1922 года прызнала асноўным метадам працы «рэарганізаваны скаўтынг». Многія скаўтмайстры пераходзілі ў камсамол, станавіліся важатымі дзіцячых камуністычных атрадаў, а іншыя яшчэ доўга супраціўляліся. Бюро ствараемай піянерскай арганізацыі ў асноўным складалі былыя скаўты.

У расійскім скаўтынгу існавала некалькі накірункаў. Адзін з іх — **традыцыйны скаўтынг** з працоўнымі майстэрнямі, разведкай. Іншыя, незадаволеныя скаўтынгам, пайшлі шляхам, падказаным канадскім пісьменнікам-натуралістам Э. Сетанам Томпсанам у кнізе «Берасцяны скрутак (кіраўніцтва для індзейскіх плямёнаў)», і стварылі аб'яднанне **лясных братоў** са структурай: звяно—зграя—братэрства лясных плямёнаў. Яны гулялі ў следапытаў, паляўнічых, індзейцаў. **Юкісты** трымаліся метаду «новы скаўтынг». Усерасійская

* Кудинов В. А. Большие заботы маленьких граждан. М., 1990. С. 13—14.

арганізацыя юных камуністаў (ЮК) існавала з 1918 па 1923 год. **Піянерыя** грунтавалася на так званым вызваленым скаўтынгу. Старшы скаўт І. Жукаў, нечакана падтрыманы Н. Крупскай, стаў старшым піянерам і вярнуўся з Чыты на дзяржаўную працу ў Маскву. Былыя скаўты згадзіліся са сваім новым імем і значком (адлюстраванне лілеі было заменена трохканцовым кастром з «усмешкай» — стужкай з надпісам «Будь готов!»).

Існавалі і іншыя, так званыя дапіянерскія арганізацыі, якія не стаялі на скаўцкай аснове: дзіцячыя сацыялістычныя клубы, кампартыі, пралеткульты, саветы дэпутатаў, гаркомы, камсамольскія ячэйкі і інш. У 1920—1921 гадах у Брэсце і іншых гарадах працавалі **Дзіцячыя камітэты,** а ў 1921 годзе Вера Харужая ў Мінску стварыла **Дзіцячую камуну.**

Пачаткам піянерыі ў Беларусі неабходна лічыць 20 чэрвеня 1922 года, калі ў сталіцы быў арганізаваны пры камсамольскім клубе першы піянерскі атрад. Атрады, якія ўзнікалі ў Мінску, Бабруйску, Барысаве, Мазыры і іншых гарадах, аб'ядноўваліся ў **Беларускую дружыну «Юны Спартак» імя К. Лібкнехта.** Калі ў 1924 годзе беларускіх піянераў было 4 тысячы, то, напрыклад, у 1974-ым — больш за 878 тысяч. Разагнаўшы апошнія антыпіянерскія арганізацыі, такія, як Саюз яўрэйскіх скаўтаў «Юны страж» (у нашай рэспубліцы яны былі ў Магілёве і Слуцку ў сярэдзіне 30-ых гадоў), піянерыя стала адзінай, масавай.

## Скаўтынг і беларуская ментальнасць

Замежнае слова «скаўт» спрабавалі замяніць, перакласці на нацыянальныя мовы. Рускія перакладалі яго як «разведчык», украінцы — «пласт», палякі — «харцер», але побач існавала і «скаўт». У Заходняй Беларусі пошукі ўласнабеларускага найменне прывялі да ўжывання слова «гайсак»



(ад дзеяслова «гайсаць»), але яно не прыжылося, бо не зусім адпавядала функцыянальнаму зместу. Значыць, ёсць інтэрнацыяналізмы, якім гісторыяй наканавана існаваць. Паводле ранейшых рэгулямінаў*, пачынаючых скаўтаў называлі ўсюды ваўчанятамі.

Мне ўспамінаюцца мае дзяцінства і юнацтва, праведзеныя ў прыгожых мясцінах Турава-Мазырскага Палесся, цяпер забруджанага попелам Чарнобыля. Мы раслі дзецьмі лесу. Ведалі не толькі, дзе растуць грыбы і ягады,— нам былі знаёмы гнёзды птушак, звычкі звяроў. У лесе рабілі зямлянкі і курані, гулялі ў шпіёнаў і вайну, смажылі сала на ражне, начавалі ля вогнішча, мелі свае тайны, сваіх важакоў. І болей вучыліся жыццю праз сялянскую працу, народныя гульні. Ці ж гэта не ўласнабеларускія традыцыі, што адпавядаюць скаўтынгу? Таму ён падаецца не такім ужо незвычайным і новым для нас метадам.

Колькі напісана беларускімі пісьменнікамі твораў аб выхаванні на прыродзе, захапляючых прыгодах дзяцей і юнакоў! У гэтым сэнсе класічным з'яўляецца твор «Палескія рабінзоны» Я. Маўра.

У Вялікім княстве Літоўскім існаваў добры звычай — дзядзькаванне, апісаны, у прыватнасці, У. Караткевічам у рамане «Каласы пад сярпом тваім». Беларуская шляхта аддавала сваіх дзяцей у сялянскую сям'ю, каб у іх з маленства выхоўваліся станоўчыя фізічныя і духоўныя якасці, што ўласцівы простаму народу (вынослівасць, любоў да зямлі, працавітасць і г. д.).

Была ў нашых продкаў і вера ў Бога, і любоў да Бацькаўшчыны, і павага да старэйшых, і выхаванне сродкамі народнай педагогікі каштоўнасцей хрысціянскай маралі — усё тое, на чым заснаваны скаўтынг. Значыць, можна сцвярджаць, што ён адпавядае беларускаму менталітэту.

---

* *Рэгулямін* — даведачна-метадычныя зводы статутных правіл, законаў, праграм і г. д.



*Ці лёгка навучыцца плесці лапці? (У летніку «Грунвальд», скаўтмайстар Алесь Лозка)*







↑

← *Пераадоленне перашкод скаўтамі Рубаўскай харугвы (Віцебскі раён)*



*Сяргей Новік-Пяюн (1906—1994), паэт, кіраўнік групы ваўчанятаў крывіцкіх скаўтаў пры Нясвіжскай гімназіі ў Заходняй Беларусі.* Фота 1933 г.

## Скаўтынг у Заходняй Беларусі

У Заходняй Беларусі ва ўмовах паланізацыі з цяжкасцю ствараліся беларускія гімназіі ў Вільні, Клецку і Нясвіжы. Пры іх узнікалі першыя дружыны беларускіх скаўтаў. Скаўтынг ішоў да нас па двух накірунках: па еўрапейскаму — непасрэдна ад амерыканскіх ці іншых замежных метадыстаў, праз Польшчу; і праз Расію. Першы надаў развіццю дзіцячага руху сапраўды нацыянальны характар, а другі, як мы ведаем, пасля перарадзіўся і служыў сродкам русіфікацыі падрастаючага пакалення.

Пачаткам беларускага скаўтынгу прынята лічыць восень 1921 года, калі была створана арганізацыя моладзі ў Клецкай беларускай гімназіі.





*Сяргей Новік-Пяюн.* Рэпрадукцыя карціны В. Барабанцава

Пазней у тым жа годзе пры стараннi настаўнікаў Шаркевіча і Малойла пачалі дзейнічаць дружыны ў Нясвіжскай гімназіі, яны ахоплівалі нават вясковую моладзь. У наступным годзе з'явілася моцная скаўцкая арганізацыя ў Віленскай беларускай гімназіі. З ёю звязана дзейнасць Сымона Рак-Міхайлоўскага, Антона Луцкевіча, Францішка Аляхновіча, Аркадзя Смоліча, Максіма Гарэцкага, Леапольда Радзевіча і інш. Скаўты займаліся нацыянальна-патрыятычным выхаваннем: вучыліся па-беларуску, праводзілі канцэрты, зборкі. Калі польскія ўлады забаранілі арганізацыю, моладзь праводзіла свае зборкі падпольна, выдавалі часопісы «Усход», «Зорка», «Рунь». Былі спробы стварыць для юнакоў беларускую сялянска-работ-



*Скаўты Віленскай беларускай гімназіі.* 1937 г.

№ 4 „Pralesak“ skanfiskavany.
Biaspłatny dadatak da „Biełaruskaj Krynicy“ Nr. 23

Hod III. Vilnia, Krasavik 1936 h. Nr. 5.




MIESIAČNY ČASAPIS DLA BIEŁARUSKICH DZIETAK.

* * *

Dzietki, vy ŭžo čuli i sami bačyli skaŭtaŭ (harcery) — jany jošč blisu ŭ kožnaj škole. Heta chłopcy i dziaŭčatki, katoryja łučacca ŭ arhanizacyju, majučuju na mecie zaščapić u sercy svaich siabroŭ luboŭ da Boha i Backaŭščyny. Heta skaŭckaja arhanizacyja jošč raspaŭsiudžana pa cełym śviecie, u kožnym narodzie jaje možna spatkać. Załažyŭ jaje anhlijec Baden Powell. Hałoŭnym kličam skaŭtaŭ jošč: Boh i Backaŭščyna. U hetym duchu viadziecca ŭsia praca skaŭtaŭ.

Skaŭty zabaviazyvajucca nie pić harełki, nie kuryć, pamahać słabiejšym i baranić pakryŭdžanych. Skaŭty lubiać i šanujuć pryrodu, nie niščać dreŭcaŭ i ptušak. Skaŭty zaŭsiody radasnyja i viečlivyja da ŭsich i nie ŭžyvajuć brydkich słoŭ. Da skaŭtaŭ achvotna zapisvajucca dobryja chłopcy i dziaŭčatki całaha śvietu.

U Vilni pry himnazii jošč i biełaruskija skaŭty — strojnyja chłopcy, arhanizujucca taksama i dziaŭčatki.

Vy, dzietki, naležačy da polskich skaŭtaŭ, pomnicie, što vy biełarusy i vučyciesia lubić svaju Backaŭščynu Biełaruś.

* * *

Apiakunom skaŭtaŭ jošč śv. Jury.

Śviaty Jury słužyŭ aficeram u hvardyi rymskaha cezara Dyoklecyjana i byŭ ščyrym chryścijaninam. Kali cesar Dyoklecyjan pačaŭ praśledavać chryścijan, śv. Jury vystupiŭ u abaronie ich i za heta ŭ vialikich mukach svajo žyćcio addaŭ.

Jak śv. Jury vystupiŭ u abaronie pakryŭdžanych, taksama i skaŭty vystupajuć u abaronie słabiejšych i pakryŭdžanych.



Skaŭty na łonie pryrody.

*Старонкі «Пралескі» (штомесячны часопіс для беларускіх дзетак) у газеце «Беларуская крыніца»* (Вільня, 1936 г., красавік)

ніцкую грамаду, арганізацыю «Сокал», а таксама скаўцкую арганізацыю пад выглядам спартыўнага аб'яднання «Гайсак» (кіраўнік Уладзіслаў Казлоўскі), але яны праіснавалі нядоўга.

У Латвіі беларускія скаўты групаваліся пры 1-ай Беларускай урадавай дзвінскай гімназіі. З 3 красавіка 1923 года іх прадстаўнікі ў дзень святога Юрыя, апекуна скаўтаў, удзельнічалі ў агульналатвійскім скаўцкім парадзе ў Рызе. Прэзідэнт рэспублікі перадаў беларускім скаўтам скаўцкі герб і белы штандар, на якім залатым шыццём быў пазначаны нумар атрада, у верхнім куце змяшчаўся маленькі латвійскі сцяг, а над ім — бел-чырвона-белы з вышытай блакітнай валошкай. На наступны дзень у гімназіі адбываўся свой парад. На ім удзельнічалі і выступілі кіраўнік беларускага аддзела С. П. Сахараў, дырэктар І. І. Краскоўскі, дырэктар мінскай гімназіі К. Б. Езавітаў.

З 1926 да 1929 года ў жаночым інтэрнаце ў

Вільні пры дапамозе амерыканак Браўн і Броўн дзейнічала дзявочая скаўцкая арганізацыя «Сёстры вогнішча». У 1938 годзе скаўты Віленскай беларускай гімназіі, якія аднавілі сваю дзейнасць у 1934 годзе (хлапечая дружына імя Францішка Багушэвіча і жаночая імя Еўфрасінні Полацкай), прымалі ўдзел у міжнародным злёце скаўтаў у Спале. Дружыновымі ў бой-скаўтаў быў К. Паўла, затым А. Бразаўскі. У 1936 годзе ў Вільні створаны Гурток прыяцеляў беларускіх скаўтаў (ГПБС), старшынёй якога стаў ксёндз Ст. Глякоўскі, сябрамі — У. Казлоўскі, У. Найдзюк і іншыя.

Многія скаўцкія кіраўнікі былі затым рэпрэсіраваны і замучаны ў сталінскіх лагерах.

Скаўты ў Заходняй Беларусі мелі зялёную форму з пагонамі на кашулі, аксельбантамі адпаведнага колеру. Замест хусткі на шыю павязвалі тканы беларускі паясок, надзявалі пілотку ці шэрую фуражку з невялічкім нацыянальным трохкутнікам і металічныя значкі з выявай герба «Пагоня». Быў распрацаваны і герб беларускіх скаўтаў. Па сведчанні М. Гайбы: «Ён меў выгляд белага шчыта, наўскасяк якога праходзіла чырвоная палоска. На шчыце адлюстроўваўся традыцыйны скаўцкі сімвал — белая лілея, на фоне якой быў змешчаны герб «Пагоня».

Дзейнасць скаўтаў адлюстроўвалася ў перыёдыцы. Асаблівую ўвагу ўдзяляла ёй газета хрысціянскіх дэмакратаў «Беларуская крыніца» («Крыніца»). Уладзіслаў Казлоўшчык у 1928 годзе надрукаваў вялікае даследванне «Аб фізічным выхаванні беларусаў», дзе важную ролю адводзіў народным гульням дзеля мэтаў скаўтынгу.

У дзіцячым дадатку «Пралескі» (1936) газета пісала: «Скаўты забавязываюцца ня піць гарэлкі, ня курыць, памагаць слабейшым і бараніць пакрыўджаных. Скаўты любяць і шануюць прыроду, ня нішчаць дрэўцаў і птушак. Скаўты заўсёды радасныя і ветлівыя да ўсіх і ня ўжываюць брыдкіх слоў...».



Pryračeńnie:

„Pryrakaju, kolki budzie ŭ maich siłach, služyć Bohu i Baćkaŭščynie, vykonvać Prava Vaŭčaniat i štodzionna rabić dobry ŭčynak"

Prava Vaŭčaniat:

1. Vaŭčok kachaje svaju Baćkaŭščynu.
2. Vaŭčok pasłuchmiany svaim Baćkom i Pravadniku.
3. Vaŭčok zaŭsiody mužny.
4. Vaŭčok starajecca być štoraz lepšym.

Zhurtavańnie Biełaruskich Skaŭtaŭ

**Knižačka Vaŭčka**

**Wolf Cub's Book**

No. [redacted]

Whiteruthenian Scouts Association

*Пасведчанне ваўчанятаў ЗБСЧ*

## Беларускія скаўты пасля вайны

Пасля другой сусветнай вайны шмат беларусаў аказалася за мяжой у розных краінах: остарбайтэры (работнікі з Усходу), былыя сябры Саюзу беларускай моладзі (СБМ), ваеннапалонныя і ўцекачы. Яны жылі ў Нямеччыне і Аўстрыі ў лагерах для перамешчаных асоб, што былі як дзяржавы ў дзяржаве. У іх мелася свая адміністрацыя, цэрквы, школы, паліцыя, таварыствы і г. д.

Утварэнне скаўцкіх арганізацый стала вынікам вялікай любові да гаротнай і мілай Беларусі. З Заходняй Еўропы беларускі скаўцкі рух пашырыўся на іншыя краіны разам з плынямі землякоў-эмігрантаў.

6—8 ліпеня 1946 года лічыцца часам заснавання на Нямеччыне Згуртавання крывіцкіх скаўтаў чужыны (ЗКСЧ). У яго склад уваходзіла 529 сяброў. У 1946 годзе быў утвораны Студэнцкі звяз крывіцкіх скаўтаў. На другім з'ездзе ЗКСЧ, які адбыўся ў горадзе Остэргофене 8—10 жніўня

1947 года, дэлегаты прадстаўлялі 945 сяброў сваёй арганізацыі. Згуртаванне пачало называцца не крывіцкім, а беларускім (ЗБСЧ). Трэці з'езд прайшоў 9—10 сакавіка 1949 года ў горадзе Шляйсгейме.

Аб зараджэнні і дзейнасці беларускага скаўтынгу асабліва добра распавядаецца ў машынапісных «Матар'ялах да гісторыі беларускага скаўтынгу», сабранага Алесем Вініцкім (Лос-Анжэлес, 1972) і кнізе Яна Максімюка «Беларуская гімназія імя Янкі Купалы ў Заходняй Нямеччыне. 1945—1950» (Нью-Йорк/Беласток, 1994). У Заходняй Нямеччыне, якая была падзелена на зоны, дзейнічалі ў лагерах для перамяшчэнцаў беларускія дзіцячыя садкі, школы, гімназіі, грамадскія арганізацыі. Асаблівай актыўнасцю вылучаліся скаўцкія арганізацыі ў амерыканскай акупацыйнай зоне. Іх кіраўніком быў Вацлаў Пануцэвіч, першы дырэктар беларускай гімназіі імя Максіма Багдановіча ў Ватэнштэце (з 15 лістапада 1945 года), настаўнік гісторыі і лацінскай мовы, аўтар дапаможнікаў па скаўтынгу.

15 кастрычніка 1945 года ў Рэгенсбургу засцнаваны Першы звяз беларускіх скаўтаў імя Кастуся Каліноўскага, у якім лідзіравалі Сцяпан Кірылік, Аляксандр Бута і Вітаўт Кіпель. Калі адкрылася гімназія імя Янкі Купалы (першы дырэктар Аляксандр Орса), у дзіцячую арганізацыю ўліліся амаль усе вучні. Друкаваным органам звязу стаў часопіс «Зважай».

Пасля пераезду рэгенсбургскага лагеру ў Міхельсдорф скаўтмайстры арганізоўвалі дружыны, звязы і сцягі ў іншых месцах. У Міхельсдорфе скаўтамі кіраваў Вітаўт Кіпель, другім дзявочым сцягам (5 дружын) — Зора Савёнак, Наталля (Туся) Кулікович і Тамара Карповіч. Пры віндышбергердорфскай школе (дырэктар Ліда Акышэўская) кіраўніком шостага сцягу ў 1947 годзе быў Янка Запруднік, а затым — Міхась Белямук, які ў 1935—1939 гадах належаў да скаўцкай арганізацыі ў Польшчы. Сцяжному падпарадкоўваліся два звязы скаўтаў і адзін — скаўтак, а таксама дзве



Zhurtavannie Bielaruskich Skaŭtaŭ
na Cuzynie

SKAŬCKAJA
KNIŽKA
(Scout's book)

No.

STANDAR „HARC"

Bielarussian Scouts Association

SKAŬCKAJE PRAVA / SCOUT'S LAW

1. Skaŭt vysoka trymaje svoj honar i honar svajho Narodu.
2. Skaŭt sluzyc svajmu Narodu i Backaŭscynie i staranna vykonvaje svaje abaviazki.
3. Skaŭt usluzny, rycarski, siabroŭski i pamahaje insym. Skaŭt skaŭtu josc bratam.
4. Skaŭt sloŭny, sumlenny i praŭdamoŭny.
5. Skaŭt lubic pryrodu i imkniecca jaje paznac.
6. Skaŭt ascadny.
7. Skaŭt zaŭsiody viasioly i zycciara dasny.
8. Skaŭt vyrablaje ŭ siabie mocny charaktar, advahu i muznasc.
9. Skaŭt zaŭsiody zdyscyplinavany i pasluchmiany svaim backom i svajmu kiraŭnictvu.
10. Skaŭt cysty ŭ movie, dumkach i ucynkach.

12

Persanalnyja Dadzienyja / Person. Record

Fota / photo

Proźvisca / Sprzame

Imia / Chr. name

Data naradz / Date of birth

Miesca naradz / Born at

Adras / Address

Selah

Zvlas

Druzyna

Stuplen / Rank

Vazna da / Expiration

Skaŭckaja prysiaha / Scout's Promise

Ulasnaručny podpis / Signatur of Holder

Podpis Kiraŭnika / Signed

2

Skaŭckaja Proba / The Scout's Tests

| | Proba-Test | Data | Podpis |
|---|---|---|---|
| Tenderfoot | Na piersuju zorku | | |
| | Na druhuju zorku | | |
| | Na treciuju zorku | | |
| Sec. Class | Na cacvior. zorku | | |
| | Na piatuju zorku | | |
| | Na sostuju zorku | | |
| Third Class | Stup. Pravadnika /cki/ | | |
| First Class | Stup. skaŭta/tki/ Pahoni | | |

Sluz pavysenni

3

*Скаўцкая кніжка сябра штандара «Гарц» ЗБСЧ*

грамады «ваўчанятак» і «пралесак». У пачатковай школе Розенгайма кіраўніком быў Янка Раковіч.

У 1947 годзе скаўты з амерыканскай зоны аб'ядналіся ў штандар «Баварыя», Аляксандр Бута стаў штандаровым. Бліжэйшымі паплечнікамі яго былі скаўтмайстры Уладзімір Цвірка, Вітаўт Кі-



*Беларуская скаўцкая дзявочая дружына «Голуб» у Германіі*



*Скаўтмайстры Згуртавання беларускіх скаўтаў на чужыне: Уладзімір Цвірка (02.02.1928 г., п. Мір — 15.03.1992 г., г. Мюнхен; рэдактар скаўцкага часопісу «Наперад»; закончыў у 1954 г. факультэт сацыяльных навук у Лювенскім універсітэце ў Бельгіі, журналіст), Вітаўт Кіпель (нар. 30.05.1927 г. у Мінску; доктар геалагічных навук, дырэктар Беларускага інстытута навукі і мастацтва ў Нью-Йорку з 1982 г.; займаецца скаўцкай справай з 1945 года, быў у адміністрацыі нацыянальнай арганізацыі ЗША), Васіль Шчэцька (нар. 18.03.1922 г. у в. Апечкі Стаўбцоўскага раёна; закончыў факультэт палітычна-грамадскіх навук Лювенскага універсітэта ў Бельгіі, працаваў у бібліятэцы ў Нью-Йорку), Алесь Бута (адзін з арганізатараў ЗБСЧ, кіраўнік штандару «Баварыя» ў Нямеччыне, аўтар дапаможнікаў па скаўтынгу), Янка Запруднік (нар. 09.08.1926 г. у Міры; доктар філасофіі, вядомы гісторык, журналіст і грамадскі дзеяч у ЗША), Янка Жучка (нар. 15.04.1928 г. у Жучычах Нясвіжскага раёна; набыў прафесію будаўнічага інжынера ў Бельгіі, журналіст, грамадскі дзеяч)*

пель, Васіль Шчэцька, Янка Запруднік, Янка Жучка. Усяго існавала 5 штандараў: «Баварыя», «Гарц», «Франконія», «Швабія» і «Гэсія», якія ўваходзілі ў ЗКСЧ.

Далёка ад Радзімы беларускія скаўты ставілі мэтай служэнне Богу і Бацькаўшчыне, супрацоўніцтва са скаўтамі іншых краін, згуртаванне беларускай моладзі, падрыхтоўку яе да жыцця, вывучэнне роднай мовы і літаратуры, гісторыі і культуры. З гонарам і годнасцю прадстаўлялі

беларускія скаўты сваю Бацькаўшчыну на розных міжнародных сустрэчах. Часта займалі прызавыя месцы. Міжнароднае скаўцкае бюро (Лондан) у 1947 годзе зарэгістравала ЗБСЧ і дало дазвол на ўдзел у міжнародным джэмбары.

Геаграфія дружын беларускіх скаўтаў і іх дзейнасць пашыраецца. Так, у траўні 1950 года праходзяць II з'езд беларускіх скаўтаў у канадскім горадзе Таронта і III з'езд беларускіх скаўтаў Аргенціны ў Буэнас-Айрасе. 14 лютага наступнага года ў Чыкага ствараецца Круг старэйшых беларускіх скаўтаў «Пагоня», 17 сакавіка ў «Беларускай хатцы» ў Нью-Йорку — беларуская скаўцкая група. Беларускія дружыны дзейнічалі ў Англіі, Аргенціне, Аўстрыі, Аўстраліі, Бельгіі, Бразіліі, Германіі, Даніі, ЗША, Канадзе, Новай Зеландыі, Францыі і іншых краінах.

На чужыне выдавалася шмат спецыяльнай літаратуры на роднай мове. Напрыклад, дапаможнікі па скаўтынгу: «Пастановы першага з'езда ЗБСЧ», «Скаўцкі страявы Рэгулямін», «Рэгулямін скаўцкіх спраўнасцяў», «Канспект да 10 зборак для Ваўчанятаў», «Беларускі скаўт» (усё выдадзена ў Ватэнштэце ў 1946 годзе), «Асновы скаўцкай методы» (ЗБСЧ, 1947), «Скаўцкі Рэгулямін» у трох частках (ЗБСЧ, 1947—1949), «Вялікая скаўцкая гульня» (Фленсбург, 1948), «Скаўцкі спадарожнік» (уклаў А. Бута; ЗБСЧ, 1948), «Праца ў Зьвязе» (Пануцэвіч В.; ЗБСЧ, 1948, 1949), «Вытычныя для кіраўнікоў скаўтаў» (Пануцэвіч В.; ЗБСЧ, 1949); падручнікі і дадатковая літаратура — «Беларускія народныя гульні» (уклаў В. Пануцэвіч; ЗБСЧ, 1948), «Сьпеўнік» (ЗБСЧ, 1948), «Падарожжа Гулівера да волатаў у краіне Бробдзынгнаг» (Маервік, 1949) і інш.

Беларуская гісторыя, творы мастацтва, жыццё скаўтаў асвятляліся ў спецыяльных перыядычных выданнях: «Скаўт. Часапіс крывіцкіх скаўтаў» (з 1946 года); «Юнак. Скаўцкі часапіс» (з 1946 года ў Нямеччыне і з 1951 года ў Чыкага); «Напагатове. Часапіс беларускіх скаўтаў» (з 1947 года ў Міхельсдорфе); «Наперад. Часапіс бе-






*Сцягі ЗБСЧ*




*Беларускія скаўты ЗША перадаюць беларускую скаўцкую лілейку ў Скаўцкі музей Амерыкі.* 1975 г.

ларускай моладзі» (з 1948 года ў Эдынбург-Фолькірк-Стырлінг); «Скаўцкая інфармацыйная служба» з 1948 года); «Скаўцкі бюлетэнь штандара «Гарц». Орган беларускіх скаўтаў ангельскай зоны» (Ватэнштэт, 1948); «Да мэты» (Бістрэр, 1948); «Нашыя Ветразі. Часапіс марскіх скаўтаў дружыны «Пірат» (Ватэнштэт, 1949) і інш.

У ЗША, згодна сведчанню былога скаўтмайстра В. Кіпеля, беларускія арганізацыі дзейнічалі ў гарадах: Чыкага з 1951 года — дружына «Пагоня», затым «Арлы» (кіраўнік В. Пануцэвіч); Брукліне з 1951 па 1954 год (кіраўнікі М. Тулейка, Я. Арцюх, П. Алекса, кіраўнік дзявочай арганізацыі М. Станкевіч); Пасэік, Саўт-Рыверы, Нью-Йорк (У. Пеляса, А. Плескачэўскі); Саўт-Рыверы пры царкве Святой Еўфрасінні Полацкай з 1972 г. (В. Кіпель, Ю. і С. Навумчыкі, С. Касьцюк, Н. Манцывода). Вышэйшых ступеняў амерыканскага скаўтынгу дасягнулі беларусы Л. Каляда, А. Кажура, В. Нестар, Ю. Кіпель, Н. Трусэвіч і інш.

Цяпер усе скаўты за мяжою пераважна ўваходзяць у адзіныя нацыянальныя скаўцкія асацыяцыі. Некаторыя з гэтых асацыяцый падтрымліваюць сувязі са скаўтамі Беларусі.

## Дзейнасць ЗБСЧ. Зборкі ў звязе

Сябры ЗБСЧ, згодна сваім рэгулямінам, выхоўваліся сапраўднымі грамадзянамі цывілізаванага свету. У прыватнасці, «мэтай вышкаленьня Малодшых Скаўтаў (Юнакоў) ёсьць засваеньне натуральных (прыродных) імкненьняў моладзі да ідэалу пры дапамозе пабуджэньня да жыцьця духовых сілаў на грунце гуманітарным і хрысьціянскім...» (Скаўцкі Рэгулямін. 1948. Ч. 2). Далей дакумент тлумачыў, што гэта азначае выхаванне добрых грамадзян і патрыётаў сваёй Бацькаўшчыны, загартаванне характару, развіццё памяці, кемлівасці, хуткай арыентацыі, пачуцця дысцыпліны, набыццё веры ў асабістыя сілы, любові да бліжніх, фізічных вартасцей, розных рамесніц-



кіх здольнасцей, падрыхтоўку да грамадскай службы.

Мэта дасягалася паўсядзённай працай у сям'і, школе, летніку. Асаблівае значэнне надавалася скаўцкай групе: шостцы, дружыне (6—8 хлопцаў), звязу (2—4 дружыны). Яны кіраваліся скаўцкім рэгулямінам і іншай літаратурай, што выпускалася Галоўнай кватэрай ЗБСЧ. Напрыклад, у дапаможніку «Праца ў Зьвязе», падрыхтаваным скаўтмайстрам В. Пануцэвічам, змешчаны метадычны матэрыял, які неабходны даросламу кіраўніку дружыны або звязу. Даюцца парады, што запісваць у кнігу дружыны і звязу, як весці іншыя дакументы. З прыкладу планавання працы відаць паўсядзённая дзейнасць скаўтаў у дружыне:

| | |
|---|---|
| 12 ліпеня серада | Зборка звязу. Рапарт. Загад. Падзел на дружыны. Гутарка звязовага аб будучай працы. План на наступны тыдзень. Спеў |
| 16 ліпеня пятніца | Фізкультурныя практыкаванні і спорт. Спортавыя гульні. Марш са спевам. Заканчэнне зборкі. Ракета |
| 17 ліпеня субота | Экскурсія ў заалагічны парк. Гутаркі аб звярах. Заданне: звяры Беларусі. Ве-чарам Рада звязу |
| 18 ліпеня нядзеля | Божая служба. Нядзельны лагер у лесе. Практыкаванні і гульні. Скаўцкае вогнішча |

У дапаможніку таксама даюцца метадычныя парады, як праводзіць розныя зборкі, нядзельны лагер, як выбіраць назву, герб, сцяг і патрона ў звязе. Другі раздзел кнігі прысвечаны непасрэдным распрацоўкам разгорнутых планаў-канспектаў зборак па тэмах: «Назіраньне і спасьцяраўчасьць. Гульня Кіма. Скаўцкае прывітаньне»; «Іншыя пачуцьці (нюх, слух, вошчуп). Гульні (Загад шэптам. Выкраданьне прадметаў. Падводныя лодкі. Пазнай па запаху. Пазнай вошчупам). Муштра. Паставы. Звароты. Марш. Адлічаньне. Раўнаньне. Скаўцкая ўніформа і адзнакі»; «Аб вывадах назіраньня. Гульні (Шуканьне прадмету. Пазнай па выглядзе. Раскіданыя словы. Крымінальная сцэна. Блізка-далёка. Заданьне шпіёна. Ацэнка велі-

2. Зак. 210.

чыняў... Ракета — канцовая гульня)»; «Вывады з назіраньня (працяг). Нелягічнае апавяданьне. Падзёрты сьпеўнік. Заданьне дэдэктыва. Гімнастыка і спорт. Апісаньне вопраткі»; «Любоў Бацькаўшчыны. Павучаньне: Наш нацыянальны сцяг. Аддаваньне гонару перад сьцягам, вывешваньне сьцягу. Гульні (Вёска. Абарона Полацку. Здабыцьцё гораду). Рысаваньне карты Беларусі...»

Каб паўней уявіць шматгранную працу скаўтаў на чужыне, варта прааналізаваць план скаўцкай дзейнасці на 1950 год (Згуртаваньне крывіцкіх скаўтаў):

| | |
|---|---|
| 8 студзеня | Угодкі сьмерці заснавальніка скаўцкага руху Бі Пі |
| 19 лютага | Нарада скаўцкіх кіраўнікоў у Розенгайме |
| 22 лютага | Дзень нараджэння Бі Пі |
| 26 лютага | Нарада скаўцкіх кіраўнікоў у Парыжы |
| 5 сакавіка | Нарада скаўцкіх кіраўнікоў у Любэне (Бельгія) |
| 10 сакавіка | Сьмерць Кастуся Каліноўскага. Урачыстыя вечары |
| 24—25 сакавіка | Нацыянальнае Сьвята. Складаньне Прысягі. Вялікія скаўцкія ўрачыстасьці і нацыянальны чын |
| 9 красавіка | Сьвята Уваскрашэньня Хрыста і Вясны. Добры ўчынак для сіротаў, вязьняў і г. д. |
| 23 красавіка | Дзень патраната скаўтынгу св. Юр'я |
| 20—24 красавіка | Скаўцкі лягер |
| 7 траўня | Нарада скаўцкіх кіраўнікоў ЗБСЧ у Новым Ёрку, Аўстраліі |
| 14 траўня | Нарада скаўцкіх кіраўнікоў у Англіі |
| 21—28 траўня | Тыдзень ЗБСЧ ва ўсіх краінах |
| 10 чэрвеня | 950 угодкі ад дня сьмерці кн. Рагнеды (1950 г.) |
| 23 чэрвеня | Сьвята Купалы |
| 23—30 ліпеня | Скаўцкі злёт у амерыканскай зоне Нямеччыны |
| 23—30 ліпеня | Скаўцкі лягер каля Парыжа |
| 6—13 жніўня | Скаўцкі лягер ЗБСЧ у Бельгіі |
| 3 верасня | Зборка ахвяраў на ЗБСЧ ва ўсіх краінах |
| 24 верасня | Нарада скаўцкіх кіраўнікоў ЗБСЧ ва ўсіх краінах |
| 15—22 кастрычніка | Тыдзень грамадзянскай службы скаўта |
| 19 лістапада | Угодкі Слуцкага паўстаньня |
| 24 снежня — 7 студзеня | Калядныя ўрачыстасьці. Добры ўчынак для дзяцей і патрабуючых дапамогі |



Гэты дакумент сведчыць аб гонару скаўтаў за гісторыю і спадчыну сваёй Бацькаўшчыны і іх рознабаковых міжнародных сувязях.

## Скаўтынг у сучаснай Беларусі

Асаблівы штуршок развіццю беларускага скаўцтва дала сустрэча пад дэвізам «Салідарнасць з дзецьмі Чарнобыля», якая адбылася 3—7 снежня 1990 года ў Мінску з прадстаўнікамі нацыянальных скаўцкіх арганізацый Аўстрыі, Бельгіі, Чылі, Кіпра, Даніі, Фінляндыі, Францыі, Германіі, Грэцыі, Ірландыі, Італіі, Японіі, Люксембурга, Нідэрландаў, Нарвегіі, Карэі, Іспаніі, Швецыі, Швейцарыі, Вялікабрытаніі, ЗША, Мальты, Еўрапейскага камітэта, ЮНЕСКО, PRO VICTIMS, кіраўніцтва Сусветнай арганізацыі скаўцкага руху.

Яна дала адказ на пытанне, што рабіць у цяперашніх умовах нефармальным лідэрам.

Развіццё скаўцтва на Беларусі праходзіла ў двух накірунках: адраджэнне беларускага нацыянальнага скаўтынгу (традыцыі заходнебеларускіх даваенных і пасляваенных беларускіх эміграцыйных арганізацый) і адраджэнне расійскага скаўтынгу.

Апошні накірунак вырас у «Саюз скаўтаў Беларусі» (ССБ)*, які быў зарэгістраваны ў 1991 годзе. Яго лідэрамі з'яўляюцца журналіст Ігар Касцевіч (старшыня праўлення, старшы скаўтмайстар), скаўтмайстар Марат Навіцкі, Кастусь Грубрын і інш. У дакументах і выступленнях яны

* Затым перайменаваны ва Усебеларускі саюз скаўтаў. Слова «ўсебеларускі» тут не адпавядае свайму значэнню.

дэкларуюць, што афіцыйнымі мовамі ССБ з'яўляюцца беларуская, руская і польская. Большасць членаў належыць да праваслаўнай царквы, але прымаюць у скаўцкія шэрагі дзяцей усіх веравызнанняў. Супрацоўнічаюць з арміяй і флотам, таварыствамі «Русь» і «Отечество». Праграма дзейнасці заснавана на прынцыпе: дзеці самі плануюць сваё прагрэсіўнае развіццё, зрабіўшы выбар з мноства розных відаў дзейнасці ў адпаведнасці са сваімі патрэбамі і інтарэсамі.

Сябры «Саюза...» па ўзросту падзяляюцца на «ваўчанятаў» (8—11 гадоў), скаўтаў (12—14), старэйшых (15—17), лідэраў (ад 18). Аб'яднанне мае свае прадстаўніцтвы ва ўсіх абласцях Беларусі, а таксама ў Маскве, Ташкенце, Сімферопалі. Падтрымліваюць сувязі з рознымі нацыянальнымі асацыяцыямі САСР, а таксама з АРЮР (Арганізацыя расійскіх юных разведчыкаў у ЗША, выключаная з сусветнай арганізацыі).

У 1992 годзе папа рымскі Іаан Павел звярнуўся на беларускай мове з пастырскім словам да адзінаццаці рускамоўных беларусаў ССБ, якія наведалі Ватыкан па праграме «Скаўты — дзецям Чарнобыля».

## Пачатак адраджэння нацыянальнага скаўтынгу

У 1987 годзе ў Мінску намаганнямі дэмакратычнай грамадскасці было створана тры першых беларускамоўных класы, а ў наступным — яшчэ семнаццаць. Вучні разам са сваімі бацькамі і настаўнікамі шукалі новыя шляхі навучання і выхавання. Самыя актыўныя з іх аб'ядналіся і ўтварылі Гарадскі бацькоўскі камітэт беларускамоўных класаў і школ Мінска (ГБК). Ладзілі сумесныя святы, ранішнікі, а ў жніўні 1990 года арганізавалі і правялі першы ў рэспубліцы непіянерскі беларускамоўны летнік на 200 дзяцей, адмовіўшыся ад наймення «лагер». Назвалі яго «Грунвальдам» у гонар слаўнай перамогі 15 ліпеня 1410 года аб'яднаных войскаў Беларускай і



Польскай дзяржаў над крыжакамі, праўда аб якой натхняе беларускіх адраджэнцаў.

У летніку, што пад пасёлкам Энергетык у Дзяржынскім раёне, спробай памылак і адкрыццяў ішлі першапраходцы. Многае было незвычайным у «Грунвальдзе». Усе стараліся гаварыць па-беларуску. Змяняўся педагагічны слоўнік, некаторыя са слоў увайшлі ў актыўны запас: «лагер» — летнік, «воспитатель» — куратар, «вожатый» — завадатар. З мэтай стварэння гульнёвых сітуацый, якія нагадвалі б Грунвальд, начальніка летніка называлі «канцлерам», яго намеснікаў — «падканцлерамі», дзяжурнага куратара ў сталоўцы — «кухмістрам», паўсотню грунвальдцаў, што пражываюць у адным будынку,— «харугвай», яе узначальвае «харунжы», а ў кожным пакоі ёсць «стараста» і г. д. Чуліся новыя мелодыі: «Пагоня» на словы М. Багдановіча, «Малітва» на словы Н. Арсенневай, песні з рэпертуару Данчыка (Б. Андрусішына), С. Сокалава-Воюша і г. д. Абавязковым госцем кожнай змены стаў святар. Былі новымі не толькі знешняя форма, але і змест працы.

Хуткімі тэмпамі ў бацькоўскім камітэце ішла падрыхтоўка згуртавання дзяцей на новай аснове, працу над якім сябры даручылі ўзначаліць аўтару гэтых радкоў як былому педагогу, аднаму з арганізатараў «Грунвальда» і ГКБ (тады намесніку старшыні). Колькі было абгаворана з дзецьмі і бацькамі, студэнтамі і настаўнікамі!

У гэты час адбылося гістарычнае здарэнне: 2 лістапада 1990 года, калі ўсе ўступалі ў акцябраты, 27 выхаванцаў настаўніцы 2-га класа СШ № 177 Мінска Людмілы Шлеперавай сталі першымі скарынічамі. На іх грудзях расквітнелі значкі Таварыства беларускай мовы.

6 снежня 1990 года ГКБ прыняў часовы статут і асноўныя праграмныя напрамкі дзейнасці новага Дзіцяча-юнацкага згуртавання, якія прапаноўваліся для абмеркавання. Сімвалам новай арганізацыі стала выява вершніка з паходняй. Здаўна ў беларускай мове паходня азначала факел, з якім

абаронцы адпраўляліся ў пагоню, каб вызваліць з няволі, палону мацярок, жонак, дзяцей; з паходняй у цемры шукалі шляхі-дарогі да шчасця роднай Бацькаўшчыны. Таму і эмблема была з выявай вершніка на ўздыбленым кані, як на гербе Старабеларускай дзяржавы, але замест мяча ён трымаў паходню, як на малюнку Язэпа Драздовіча «Пагоня». Статут дэклараваў непалітычнасць арганізацыі.

Сябры згуртавання размяркоўваліся ў сябрыны (не менш пяці). Назвы ім і атрадам даваліся адвольна сябрамі гэтых структурных фарміраванняў. Былі таксама «харугвы», «сойм», «соймікі», вокліч «Жыве Беларусь!» і іншае вельмі блізкае да лексікі невядомых нам яшчэ тады раней існуючых беларускіх скаўцкіх згуртаванняў у Заходняй Беларусі і за мяжою. Затым напрацоўкі часовага статута ляглі ў аснову дакументаў па стварэнні нацыянальнай скаўцкай арганізацыі.

Новыя суполкі згуртавання пачалі ўзнікаць па ўсёй Беларусі. Яны называлі сябе скарынічамі, васількамі, каласкамі і г. д.

Безумоўна, не ўсе ішлі да скаўцтва праз Дзіцяча-юнацкае згуртаванне, хтосьці рухаўся асабістым шляхам.

### Летнік «Грунвальд»

Канчатковая арыентацыя на скаўтынг у працы з дзецьмі адбылася пасля знаёмства са спецыяльнай літаратурай, якая трапляла да нас ад замежных гасцей — прадстаўнікоў САСР і яго нацыянальных арганізацый. Асабліва мы пераканаліся ў правільнасці выбару шляху, даведаўшыся аб дзейнасці беларускіх скаўцкіх звязаў у Заходняй Беларусі і многіх замежных краінах, дзе пражывалі нашы землякі. Добры набор літаратуры, выдадзенай Згуртаваннем беларускіх скаўтаў чужыны, прывёз на Беларусь разам з іншай гуманітарнай дапамогай айцец Аляксандр Надсан, дырэктар Скарынаўскай бібліятэкі ў Лондане.

Мы былі прыемна ўражаны тым, што вельмі



БЕЛАРУСКАЯ МАЛАДЗЁЖНАЯ ГАЗЕТА

ЧЫРВОНАЯ Змена

ВЫДАЕЦЦА З 1921 ГОДА

ВЫХОДЗІЦЬ ПА ПЯТНІЦАХ

№ 13 (13345)

23 — 29 сакавіка 1992 года

Цана 1 рубель 50 кап. (па падпісцы — 35 кап.)

*У нумары:*

"ПАС" Беларускае войска — гарантыя ад ваеннай дыктатуры. 3

"Воля і Розум" Псіхатропная зброя: міф ці рэальнасць? 7

"Закон супраць Закону" Адважная споведзь пра тое, як чалавек стаў праваапарушальнікам. 10

"Сунежжа" Нататкі пра беларускае жыццё на Беласточчыне. 11

"Святыні не прадаюцца" Інтэрв'ю з дырэктарам тэатра імя Янкі Купалы. 14

ПРЫВІТАННЕ, БЕЛАРУСКІЯ СКАЎТЫ!

УСТАНОЎЧЫ СОЙМ БЕЛАРУСКІХ СКАЎТАЎ

21 сакавіка адбылася падзея, важнасць якой цяжка пераацаніць. Гэта — Устаноўчы Сойм Аб'яднання беларускіх Скаўтаў (АБС). Як слушна заўважылі ўдзельнікі гэтай імпрэзы, зараз у школе пануе анархія, і менавіта скаўцкі рух павінен даць выйсце маладой энергіі, накіраваць яе ў стваральнае рэчышча. Ні піянерыя, ні іншыя выдумкі заідэалагізаванай педагогікі такога выйсця не давалі. Скаўцкі рух — гэта не ідэалогія, суполкі скаўтаў лічаць сваёй мэтай спрыяць развіццю моладзі як фізічна, так і духоўна. Гэта не ваенізаваная арганізацыя, як лічаць многія. Хаця скаўтынг узнік як арганізацыя для падрыхтоўкі малодых разведчыкаў, цяпер ён лічыць сваёй першапачатковай задачай выхаванне шматграннага, моцнага, духоўна развітога чалавека.

Трэба адзначыць, што як беларускія, так і іншыя скаўцкія арганізацыі лічаць сваім падмуркам веру ў Госпада. На Устаноўчым Сойме прысутнічалі святары розных канфесій. Будзем спадзявацца, што новапароджаны беларускі скаўцкі рух не будзе разарваны паміж рознымі рэлігійнымі ці палітычнымі плынямі, і паслужыць святой справе — выхаванню ў беларускіх юнакоў і дзяўчат любові да Бацькаўшчыны.

Больш падрабязна пра Устаноўчы Сойм АБС Вы зможаце прачытаць у наступным нумары нашай газеты.

*Паведамленне адной з газет аб Устаноўчым сойме Аб'яднання беларускіх скаўтаў*

многае са скаўтынгу ў нас ужо рабілася, супадала з нашымі поглядамі. Літаратура, а затым і спецыяльныя трэнінгі паглыбілі веды, дазволілі зразумець асновы скаўцкай методыкі.

У летніку «Грунвальд» у адрозненне ад піянер-









*У летніку. Сцэны Вялікага Грунвальдскага відовішча*



*У канцы грунвальдскага свята — фотаздымак разам з бацькамі*

скіх лагераў упершыню пачаў здзяйсняцца фундаментальны прынцып скаўтынгу — доўг перад Богам і Бацькаўшчынай, а таксама спосаб дасягнення мэты — праца ў лучнасці з прыродай і гульнёй. Па шэрагу аб'ектыўных прычын нельга было поўнасцю працаваць па скаўцкай методыцы. Патрэбны былі добра падрыхтаваныя кадры, каб займацца ў малых групах.

У дапамогу завадатарам выпускалася на ксераксе спецыяльная літаратура, дзе змяшчаліся скаўцкія прырачэнне, правы, слоўнік летніка і г. д. Мастацкае афармленне, лексіка ўводзілі ў атмасферу Грунвальда 1410 г., дапамагалі ствараць гульнёвыя сітуацыі.

Кульмінацыйным момантам змены было Вялікае Грунвальдскае ідовішча. Да яго загадзя рыхтаваліся. У збройнай майстэрні дзеці пад кіраўніцтвам майстра, сваіх завадатараў ладзілі начынне рыцараў: шлем, шчыт, панцыр, меч. Трэніраваліся лучнікі ў пападанні ў цэль, муштраваліся сцяганосцы. Многія хлопчыкі прыязджалі ў летнік з гатовым «сярэднявечным» вайсковым начыннем.

Вось як праходзіла Вялікае Грунвальдскае відовішча ў 1991 годзе. Атрымаць перамогу ў вялікай гульні-спаборніцтве мелі магчымасць усе чатыры харугвы (па колькасці спальных корпусаў): Віленская, Полацкая, Наваградская, Менская (назовы штогод сталыя). Штандары на свяце былі прадстаўлены ад усіх беларускіх харугваў, якія прымалі ўдзел 581 год таму назад у бітве пад Дуброўнай.

Першы этап відовішча — агляд шыхту (строю) і ваяцкай песні харугваў. Перад бацькамі, гасцямі, якіх шмат сабралася на той дзень, паказвалі сваё майстэрства дзеці. Аўтарытэтнае журы брала ва ўлік агульны выгляд і шыхтаванне харугваў, экіпіроўку, выкананне песні. Вялікае ўражанне выклікала шыхтаванне харугваў. Ваяводы і харунжыя выводзяць на поле сваіх вояў пад сцягамі ў загадзя вызначаным парадку. Уражанне ўзмацнялася, калі пашыхтаваныя харугвы выязджаў вітаць на кані вялікі князь Вітаўт. Ён у «сапраўд-

ных» рыцарска-княжацкіх даспехах (пазычаныя на «Беларусьфільме», а конь — у мясцовым калгасе).

Кожная харугва на свяце вылучала лепшае кап'ё, у якое ўваходзілі акрамя рыцара яго 2—3 збраяносцы. Лучнік спаборнічаў у стральбе па мішэні, другі кідаў дзіду (кап'ё) у цэль ці на адлегласць, два ўдзельнічалі ў барацьбе вершнікаў («конь» прытрымлівае на сваёй спіне за ногі «рыцара», які павінен паваліць іншага вершніка). Пераможцам дзяўчынкі ўручалі падарункі, вешалі на шыю гірлянды з дубовых галінак. Тут жа адбывалася пасвячэнне ў рыцары вялікім князем. Пераможца выбірае з ліку прэтэндэнтак «дзяўчыну сэрца», «міс летніка» і г. д. Дарэчы, рыцарскія забавы мелі працяг і па-за летнікам, у час вучобы, у пазашкольнай дзейнасці ў Мінску.

Адной з асноўных задач скаўтынгу з'яўляецца падрыхтоўка дзяцей да самастойнасці. Лясны летнік, у якім няма побач ні маці, ні бацькі,— найбольш прыдатнае месца для выхавання, набыцця неабходных у жыцці навыкаў. Тут якраз — табар з намётаў (палатак) і буданоў (з галінак дрэў). У «Грунвальдзе» склалася добрая традыцыя: пешыя вандроўкі невялікіх груп з заплечнікамі і аўтатранспартныя экскурсіі па памятных і гістарычных мясцінах. Грунвальдаўцы выязджалі ў Мінск, Мір, Нясвіж, Дзяржынск, на радзіму Я. Коласа ў в. Мікалаеўшчыну, у Рубяжэвіцкі касцёл, у Беларускі дзяржмузей народнай архітэктуры і побыту, у Курапаты, прымалі ўдзел у раскопках старажытнага паселішча X—XII стст. каля в. Гарадзішча і інш.

Вельмі спадабаліся пачынаючым скаўтам адно- і шматдзённыя вандроўкі з намётамі, удзел у сапраўдных археалагічных раскопках ці фальклорна-этнаграфічнай міні-экспедыцыі. Дзеці запісвалі ад жывых носьбітаў народнай творчасці паданні і легенды, песні і гульні.

Адраджаліся нацыянальна-культурныя традыцыі. Мерапрыемствы планаваліся ў адпаведнасці з народным календаром. Напрыклад, 14 жніўня,





*Прыём у скаўты ў беларуска-французскім летніку*

на Мядовы Спас, ці Мядовік, быў дзень імяніннікa, у лесе прыгодніцкая гульня «Салодкая сцежка», у сталоўцы (харчэўні) падаваліся аладкі з пчаліным мёдам, наогул аддавалася перавага ўсяму салодкаму.

Яблычны Спас (19 жніўня) традыцыйна праводзіў айцец Ян Матусевіч — набажэнства, безумоўна, па-беларуску, асвячэнне яблыкаў, садавіны. На вячоркі запрашаліся народныя майстры, выканаўцы фальклорных песень. Грунвальдаўцы вучыліся з саломкі рабіць «павукі», «пярсцёнкі», «птушачкі», «жалейкі»; з лазы — лапці, кошыкі і г. д.

Амаль штогод у летніку адпачывалі не толькі дзеці з Беларусі, але і беларусы з Польшчы, Вільнюса, Масквы, Санкт-Пецярбурга і інш. На базе летніка працаваў і палатачны скаўцкі табар «Лясун». «Грунвальд» заклаў добрыя пачаткі беларускаму скаўцкаму руху.

## Арганізацыйнае афармленне беларускага скаўцкага руху

Да першага ўстаноўчага сойма беларускія скаўты падышлі тэарэтычна і практычна падрыхтаванымі: за спіною былі сумесны беларуска-французскі летнік, трэнінг і кансультацыі як за мяжою, так і ў Беларусі, вывучалася скаўцкая літаратура і г. д. Аўтару гэтай кніжкі давялося ўзначальваць арганізацыйныя камітэты па правядзенні I (21—22 сакавіка 1992 г.) і II (25 лютага 1995 г.) соймаў, рабіць асноўныя даклады.

Соймы праходзілі ў Рэспубліканскім палацы піянераў. На першы з іх прыехалі прадстаўнікі ўсіх абласцей, лідэры і дзеці, якія лічылі сябе скаўтамі або рыхтаваліся імі стаць. Найлепш арганізаванай і шматлікай была дэлегацыя скаўтаў з Гродна, якая ўжо мела сваю уніформу. Гасцямі і выступаючымі сталі Джэрын Вільсан — прадстаўнік скаўтаў ЗША, навучэнцы Міжнароднага хрысціянскага цэнтра ў Швейцарыі (з Карэі, Паўднёва-Афрыканскай Рэспубліці, ЗША і інш.) Галіна Дамашэвіч — былая скаўтка Заходняй Беларусі (абрана ганаровым скаўтам), дэпутаты Вярхоўнага Савета Беларусі, святары розных канфесій, прафесар Адам Мальдзіс і інш.

Сойм прыняў статут Аб'яднання беларускіх скаўтаў, абраў Раду як кіруючы орган і Канцылярыю — як выканаўчы. Скаўтканцлерам стаў Аркадзь Жукоўскі, інжынер Гродзенскага порта; скаўтпадканцлерам — аўтар гэтай кнігі, ён жа дырэктар Беларускага навукова-метадычнага цэнтра гульні і цацкі. У жніўні 1992 года статут быў зарэгістраваны Міністэрствам юстыцыі Беларусі.

Другі сойм АБС унёс некаторыя змены ў Статут. Скаўтканцлерам быў абраны Вадзім Сугойдзь, які раней кіраваў Менскай харугвай, скаўтпадканцлерамі — аўтар гэтых радкоў і Алесь Чарняўскі, лідэр самай актыўнай на той час Маладзечанскай харугвы, старшынёй рады — Вольга Кліманові́ч, студэнтка Беларускага дзяржаўнага лінгвістычнага універсітэта, якая мае багаты вопыт супра-






*Першыя выданні АБС*



*Французскія скаўты ў беларускім летніку*

цоўніцтва з замежнымі скаўтамі і валодае навыкамі скаўцкай методыкі. Сойм зацвердзіў групу беларускіх скаўтаў са Злучаных Штатаў ганаровымі за іх актыўны ўдзел у развіцці скаўтынгу і бескарыслівую дапамогу АБС.

У першыя гады былі як поспехі, так і няўдачы. Спакваля набываўся вопыт, складваліся традыцыі. Скаўты займаліся дабрачыннай дзейнасцю, набывалі рознабаковыя веды. Штогод праводзіліся летнікі, у тым ліку з удзелам замежных сяброў. Добрыя сувязі наладзіліся ў Маладзечанскай харугвы са скаўтамі горада Эслінгена (Хрысціянскі саюз моладзі Германіі), Менскай харугвы са скаўтамі ЗША і Францыі (г. Тур-дзю-Па) і інш. Вольга Кліманові арганізавала выпуск у ЗША (191-ы зьвяз савета Менсі, Пенсільванія) сумеснай газеты на англійскай і беларускай мовах «Напагатове» («Be prepared»). Прадстаўнікі АБС пачалі прымаць удзел у розных міжнародных форумах: у






*Кіраўнік французскай групы «Нотр Дам» — кухмайстар Жозэф Гона*



*Беларускія і французскія скаўты ў Альпах*



*Сустрэча пакаленняў*



*У гасцях у беларускіх скаўтаў уніяцкія святары*



*Скаўты, вучні 184-ай сярэдняй школы г. Мінска ў Курапатах*

стогадовым Савеце канферэнцыі каталіцкіх скаўтаў у Люксембургу (М. Гракаў), міжнародных курсах па фандрэйзінгу ў Бухарэсце (1994; В. Кліманові) і інш. Падтрымліваюцца сувязі з былымі беларускімі скаўтамі замежжа. Збіраецца спецыяльная літаратура і ствараецца новая. Дзейнічае штаб-кватэра АБС па адрасу: 220040, г. Мінск, вул. Някрасава, 5а, БЦГЦ — АБС.

### Сусветная арганізацыя скаўцкага руху

Больш чым у 215 краінах існуюць скаўты (больш 25 мільёнаў сяброў), якія аб'яднаны ў нацыянальныя скаўцкія асацыяцыі і якія ў сваю чаргу ўваходзяць у Сусветную арганізацыю скаўцкага руху (болей 145). Маюцца таксама непрызнаныя арганізацыі, што імкнуцца быць зарэгістраванымі Сусветнай канферэнцыяй. Для гэтага неабходны наступныя асноўныя ўмовы: аб'яднанне ўсіх арганізацый у адну нацыянальную асацыяцыю, якая дзейнічае ў палітычна незалежнай краіне; можа забяспечыць сваё функцыяніраванне дастатковым фінансаваннем; мае 1000 або болей сяброў; прызнае прынцыпы і метад Канстытуцыі САСР.



Сусветная арганізацыя скаўцкага руху стаіць на прынцыпах добраахвотнасці, непалітычнасці, няўрадавасці і незалежнасці. Сябрамі руху становяцца толькі па добрай волі і дзейнічаюць згодна яго законаў і прынцыпаў. Ніхто нікога не прымушае быць скаўтам. Непалітычнасць — гэта не ўдзел у барацьбе за ўладу і ў дзейнасці партый. Хаця можна аддаваць сімпатыі тым ці іншым рухам і партыям. Скаўцкі рух не можа кіравацца ўрадам, але можа супрацоўнічаць з ім па некаторых накірунках і падпарадкоўвацца законам дзяржавы. Незалежнасць вызначаецца фінансавай самастойнасцю ад дзяржавы і іншых арганізацый.

Кіруе скаўцкім рухам сусветная канферэнцыя САСР, якая збіраецца адзін раз у тры гады. Ад нацыянальных асацыяцый прысутнічае звычайна каля шасці дэлегатаў. Паміж канферэнцыямі працуе выканаўчы орган — Сусветны скаўцкі камітэт. У яго ўваходзяць Генеральны сакратар, скарбнік і ганаровыя сябры. Сакратарыятам канферэнцый з'яўляецца Сусветнае бюро (16 членаў), што прызначаецца камітэтам. Кіруе бюро Генеральны сакратар, якім зараз з'яўляецца вядомы швейцарац Жак Марэльён.

САСР існуе на сродкі падарункаў і ахвяраванняў. Зборам іх займаецца Сусветны скаўцкі фонд, ганаровы Прэзідэнт якога — Яго Вялікасць Кароль Швецыі.

Адной з важных задач Сусветнага бюро з'яўляецца падрыхтоўка і правядзенне джэмбары — свята сусветнага братэрства, дзе можна праявіць свае веды і ўменні, майстэрства і кемлівасць. Адзін раз у тры (да вайны — у чатыры) гады збіраюцца на яго лепшыя прадстаўнікі скаўцкіх асацыяцый з усяго свету.

## Развіццё джэмбары*

Джэмбары ўяўляюць сабою вялікія святочныя фестывалі, злёты сусветнай скаўцкай моладзі з markdown рознабаковай культурнай праграмай. Яны таксама нагадваюць спартыўныя алімпіяды, хаця ў індзейцаў гэтае слова азначала «рада старэйшын».

На першае джэмбары сабраліся па ініцыятыве Бадэн Паўэла ў 1920 годзе ў Лондане, у Алімпіі, 8 тысяч скаўтаў з 34 краін. На ім Бі Пі аднагалосна быў абраны Галоўным скаўтам свету. Усе пакідалі вялікі злёт з яго клічам у сэрцы: «Разыходзьцеся з рашучым жаданнем шукаць у сабе і сваіх юнаках пачуцці сяброўства ў духу сусветнага скаўцкага братэрства, каб быць карыснымі грамадзянамі ў ахове міру і шчасця зямлі». Першы злёт усталяваў традыцыю прыняцця сімвала. Знакам першага джэмбары стаў карабель, які кіруецца скаўтамі, як сімвал вялікай працы сусветнага скаўтынгу па забеспячэнню міра на зямлі.

Другое джэмбары адбылося праз чатыры гады ў Капенгагене, а трэцяе — у 1929 годзе ў Ароў Парку каля Біркенхедзе (Англія). Прадстаўнікі скаўцкіх арганізацый з 41 краіны раз'язджаліся з сімвалам «Залатая страла» і наказам свайго галоўнага шэфа: «Скаўты, вы сабраліся тут з усіх куткоў свету, каб адзначыць з'езд сусветнага юнацтва і братэрства. Я адпраўляю вас цяпер ва ўсе бакі свету, даючы ў рукі сімвал міру і юнацтва. Кожны з вас тут мой пасол, што на крылах ахвярнасці і службы панясе кліч любові аж на край свету. Цяпер скаўцкім сімвалам свету будзе Залатая страла. Хай нясецца яна хутка і далёка, каб усе людзі пазналі ідэі дружбы».

У 1933 годзе ў Гэдэлі на Вугоршчыне адбылося чацвёртае джэмбары з сімвалам «Белы алень». У клічы вялікага і найбольш багатага злёту гаварылася: «Глядзіце на Белага аленя, як на сімвал

* Выкарыстаны матэрыял з часопіса ЗБСЧ «Напагатове» (1947. № 4—5), кнігі «Scouting 'Round the World» (Geneva, 1990).



чыстага скаўцкага руху, які нясецца ў далечыню і шырыню, нягледзячы ні на якія перашкоды, насустрач прыгодам, што чакаюць вас на шляху да мэты, мэты, якая прынясе шчасце. Гэтай вашай мэтай ёсць вернасць Богу, Бацькаўшчыне, сябрам і скаўцкаму праву. На гэтым шляху хай кожны з вас стараецца тварыць рай на зямлі, уладу міру і добрай волі».

Апошняе перадваеннае, пятае, джэмбары адбылося ў 1937 годзе ў галандскім Фогеленцангу, у якім прымала ўдзел 45 тысяч скаўтаў з усіх краін свету, акрамя СССР, Германіі і Італіі. Ёсць звесткі, што ў ім упершыню ўдзельнічалі беларускія скаўты, якія працавалі пад кіраўніцтвам М. Анцукевіча, выкладчыка Віленскай гімназіі. Кліч джэмбары: «Скаўцкае братэрства ў многіх выпадках нагадвае хрэсны ход. Вы, скаўты, сабраліся са ўсіх частак свету як носьбіты добрай волі, як тварцы сяброўскага сужыцця, што ламае ўсе муры расавых, рэлігійных і класавых адрозненняў. А гэта сапраўды Вялікі Хрыстовы паход. Я заклінаю ўсіх вас цяпер працягваць вялікую справу, бо вы хутка станеце дарослымі і як толькі пачнецца сутычка паміж народамі, цяжар адказнасці ляжа на вашыя плечы... Хай шэст святога Якуба служыць вам праваднікам у гэтай бурлівай вандроўцы да агульначалавечых і скаўцкіх ідэалаў». «Шэст святога Якуба», што стаў сімвалам джэмбары і ўказальнікам шляху, уяўляў у мінулым навігацыйную прыладу, з дапамогай якой маракі шукалі ў адкрытым моры патрэбную дарогу.

Трывога, выказаная Бі Пі ў клічы, была недарэмнай. Наступнае, шостае джэмбары, якое мела адбыцца ў 1941 годзе ў Амерыцы ці Японіі, перанеслі ў сувязі з вайною. Не стала 8 студзеня самога Заснавальніка. Джэмбары адбылося ў 1947 годзе ў французскім горадзе Шато-дэ-Расаны, на ўдзел у якім прынялі запрашэнне і беларускія скаўты ЗБСЧ. Але паездка не адбылася з-за матэрыяльных цяжкасцей. Беларус Юрка Кіпель у складзе амерыканскіх скаўтаў быў на 14-ым джэмбары ў






















Нарвегіі, у даведніках якога значылася, што маецца адзін беларускамоўны скаўт перакладчык.

Наступныя джэмбары праходзілі:

сёмае ў Аўстраліі ў 1951 г., удзельнічала 12 884 скаўты; восьмае ў Канадзе ў 1955 г., удзельнічала 11 139 скаўтаў; дзевятае ў Англіі ў 1957 г., удзельнічала 30 000 скаўтаў; дзесятае ў Філіпінах у 1959 г., удзельнічала 12 203 скаўты; адзінаццатае ў Грэцыі ў 1963 г., удзельнічала 14 000 скаўтаў; дванаццатае ў ЗША ў 1967 г., удзельнічала 12 011 скаўтаў; трынаццатае ў Японіі ў 1971 г., удзельнічала 23 758 скаўтаў; чатырнаццатае ў




















*Эмблемы сусветных джэмбары*

Нарвегіі ў 1975 г.*, удзельнічала 17 259 скаўтаў; пятнаццатае ў Канадзе ў 1983 г., удзельнічала 14 752 скаўты; шаснаццатае ў Аўстраліі ў 1988 г., удзельнічала 14 434 скаўты.

Толькі праз 44 гады пасля шостага пасляваеннага джэмбары ў 1991 годзе беларускі скаўт Алег Грушэцкі змог удзельнічаць разам са 120 дзецьмі з чарнобыльскай зоны ў семнаццатым джэмбары, што праходзіў у Сеуле (Паўднёвая Карэя). На ім прысутнічала 20 000 скаўтаў.

* У 1979 годзе, які быў абвешчаны годам сусветнага джэмбары, у сувязі з адзначэннем 60-годдзя правядзення першага злёту скаўтаў джэмбары праводзіліся ў нацыянальных асацыяцыях.

Упершыню афіцыйна як арганізацыя беларускія скаўты былі запрошаны САСР прыняць удзел у васемнаццатым сусветным джэмбары, якое адбылося ў Галандыі 1—11 жніўня 1995 года. Паказальна тое, што пасля 68 гадоў, калі ўпершыню нашы скаўты з Заходняй Беларусі прысутнічалі на галандскім вялікім злёце, іх спадчыннікі маглі паехаць зноў у Нідэрланды. «Шэст св. Якуба», сімвал далёкага джэмбары, прыняты нашымі скаўтамі, дапамог ім адшукаць праз тоўшчу гадоў і тысячы кіламетраў правільную дарогу да сусветнага супольніцтва. Шкада, што з-за ўнутраных супярэчнасцей кіраўніцтва АБС цалкам падрыхтаваная паездка не адбылася. А на апошнім сусветным злёце сабралася разам 29 000 скаўтаў з 166 краін. Асноўная тэма яго: «Будучае — сёння».

## ПРЫНЦЫПЫ, МЕТАД, СІМВАЛЫ, АТРЫБУТЫ...

### Прынцыпы скаўцкага руху

Скаўтынг трымаецца на трох фундаментальных прынцыпах: абавязак перад Богам, абавязак перад іншымі і абавязак у адносінах да сябе. Пры дапамозе іх — асноўных законаў і перакананняў — дасягаецца мэта скаўцкага руху, якая выкладзена ў 2-ім пункце 1-га артыкула Канстытуцыі САСР: «спрыяць развіццю маладых людзей для дасягнення іх поўнага інтэлектуальнага, грамадскага і духоўнага патэнцыялу як індывідумаў, як адказных грамадзян і як членаў мясцовых, нацыянальных і міжнародных супольнасцей».

Тая ж Канстытуцыя тлумачыць прынцып «Абавязак перад Богам» як «прыхільнасць духоўным прынцыпам, вернасць рэлігіі, што іх выяўляе, прыняцце абавязкаў, якія з яе выцякаюць». У тэксце адсутнічае слова «Бог» з тым, каб паказаць, што гэта адносіцца і да індуізму, які з'яўляецца немонаатэістычным, і будызму, які не мае персаналізаванага Бога, і інш. Скаўтынг адкрыты для ўсіх незалежна ад веравызнання. Галоўнае, што ён дапамагае здзяйсняць пошук духоўных каштоўнасцей жыцця.

У праграме скаўцкіх звязаў, летнікаў заўсёды знаходзіцца месца заняткам па вывучэнню біблії, рэлігійным цырымоніям. З дзецьмі займаюцца капеланы, святары, прызначаныя адпаведнымі царкоўнымі органамі. Сапраўдныя скаўты пачынаюць свой дзень і заканчваюць малітвай, пасля якой вечарам адбываецца ўспамін добрых спраў, здзейсненых за дзень.

Наша грамадства, выхаванае на працягу 70 га-

доў на аснове ваяўнічага атэізму, нігілістычных адносін да ўсяго нацыянальнага, вельмі многа страціла ў набыцці агульначалавечых каштоўнасцей.

Наступны прынцып «Абавязак перад іншымі» азначае: «Вернасць сваёй краіне ў гармоніі з развіццём свету, узаемаразуменне і супрацоўніцтва на мясцовым, нацыянальным і міжнародным узроўнях. Удзел у развіцці грамадства з прызнаннем і павагай годнасці суайчыннікаў і цэласнасці прыроднага свету», як дэкларуе Канстытуцыя САСР. Гэтае палажэнне адлюстроўвае думкі Бадэн Паўэла, які ў кнізе «Scouting and Youth Movements» («Скаўтынг і маладзёжныя рухі»), што апублікавана ў 1929 годзе, пісаў: «Выхоўваючы пачуццё патрыятызму ў нашых хлопчыкаў і дзяўчынак, мы павінны турбавацца пра тое, каб яно было шырэй пачуцця, якое звычайна абмяжоўваецца сваёй краінай і абумоўлівае з'яўленне пачуццяў рэўнасці і варожасці ў адносінах да людзей з іншых краін».

У той час, калі мы жылі ў таталітарнай Савецкай дзяржаве, апутанай клешнямі сталінізму, і ў нас выхоўвалі класавую варожасць да народаў, якія знаходзяцца за яе межамі, выбівалі з нас усё беларускае — народы на свабодных землях развівалі свае нацыянальныя і інтэрнацыянальныя пачуцці. Беларусы, што воляй лёсу аказаліся за межамі сваёй радзімы, выхоўвалі дзяцей на скаўцкіх прынцыпах. У рэгуляміне ЗБСЧ 1947 года было запісана: «Ваўчок шануе свае нацыянальныя звычаі, цэніць над усімі іншымі сваю мову, стараецца сваімі паводзінамі не панізіць нацыянальнага імя, любіць усё, што роднае, нацыянальнае: гісторыю свайго народу, вялікіх нацыянальных герояў, вучоных, паэтаў і пісьменнікаў, мастакоў і вынаходцаў, жаўнераў, князёў».

Трэці фундаментальны прынцып «Абавязак перад самім сабою» арыентуе на аказанне дапамогі маладому чалавеку ў самаразвіцці, станаўленні асобы. Гэта замацавана ў скаўцкім Прырачэнні (прысязе) і Праве (законе).



## Прырачэнне

Скаўцкае прырачэнне было сфармулявана яшчэ Р. Бадэн Паўэлам і выкладзена ў Канстытуцыі САСР:

«Прыракаю на свой гонар — я зраблю ўсё, што ад мяне залежыць, каб:

выканаць свой абавязак перад Богам і манархам (або Богам і маёй краінай);

дапамагаць іншым у любы час;

падпарадкоўвацца скаўцкаму Закону».

Усе нацыянальныя арганізацыі маюць падобнае прырачэнне. Вось такое яно ў Згуртавання беларускіх скаўтаў на чужыне (ЗБСЧ), якое існавала пасля другой сусветнай вайны: у ваўчкоў — «Прыракаю, колькі будзе ў маіх сілах, служыць Богу і Бацькаўшчыне, выконваць Права Ваўчанятаў і штодзённа рабіць добры ўчынак»; у малодшых скаўтаў — «На мой гонар прысягаю, што паводле маёй найлепшай волі і старанняў буду верны Богу і Бацькаўшчыне, буду дапамагаць кожнаму чалавеку ва ўсякім часе, буду паслухмяным скаўцкаму і сваім кіраўнікам».

Кіруючыся Канстытуцыяй САСР, нацыянальнымі традыцыямі, беларускія скаўты прынялі за аснову наступны тэкст:

«На мой гонар прыракаю, што паводле маёй найлепшай волі і старанняў буду верны Богу і Бацькаўшчыне, пільнавацца правоў скаўта, дапамагаць кожнаму чалавеку ва ўсякім часе і штодзённа рабіць добры ўчынак» (прынята ў 1992 г.).

У прырачэнні закладзены тры асноўныя прынцыпы (законы і перакананні), якія ўяўляюць кодэкс паводзінаў, абавязкаў скаўтаў: у адносінах да Бога, да іншых і да сябе. Той, хто зрабіў святое прырачэнне перад сябрамі, становіцца тады сапраўдным скаўтам, калі выконвае яго. А гэта магчыма толькі пры рэальнай добраахвотнасці і жаданні.

Прынясце прырачэння адбываецца не толькі ўрачыста, але і рамантычна, найчасцей у лесе, ля вогнішча.

## Права скаўтаў

Пад правам беларускія скаўты за мяжою разумелі (у сучасным значэнні слова) закон. Аб'яднанне беларускіх скаўтаў захавала традыцыйнае найменне «права» ў сваім абыходжанні. Каб мець уяўленне аб тэме гутаркі, прадставім вытрымку са «Скаўцкага рэгуляміну» (Частка II. Малодшыя скаўты).

«Скаўцкае права:

**1. Скаўт высока трымае свой гонар і гонар свайго народу.**

Калі скаўт кажа: «на мой гонар ёсьць так» — то гэта значыць, што так ёсьць у сапраўднасьці, як бы ён злажыў найбольш сьвятую прысягу. Падобна, калі кіраўнік кажа скаўту: «я давяраю твайму гонару, што ты гэта зробіш», то скаўт ёсьць забавязаны выканаць наказ паводля сваёй найлепшай волі і стараньняў і ня можа ў ніякім выпадку адступіць ад такога выкананьня.

Калі б скаўт спляміў свой гонар, гаворачы няпраўду, або не выканаў дакладна наказу, як гэта яму даверана зрабіць на яго гонар — ад яго можна зажадаць, каб аддаў скаўцкія адзнакі і больш іх ніколі не насіў. Ад яго можна таксама патрабаваць, каб перастаў быць скаўтам. Тое самае адносіцца да скаўта, калі ён словам, або чынам сплям іць гонар свайго народу.

**2. Скаўт верны свайму Народу і Бацькаўшчыне і старанна выконвае свае абавязкі.**

Скаўт верны таксама свайму кіраўніцтву, сваім бацькам і нацыянальнай ідэі, выражанай актам 25 сакавіка 1918 г. Ён мусіць стаяць пры іх у добрую і дрэнную часіну супроць кожнага, хто іх з'яўляецца ворагам або хто толькі дрэнна аб іх выражаецца. Ён мае выканаць перш за ўсё свой абавязак, хаця б для гэтага меў зрачыся сваёй прыемнасьці, выгоды ці асабістай бясьпекі. Калі трудна выращыць, якую з двух спраў перш выканаць, ён павінен запытаць у самога сябе: «Што ёсьць маім абавязкам» або «што ёсьць лепшым для іншых» і паводле гэтага наказу паступаць.



**3. Скаўт услужны, рыцарскі, сяброўскі і памагае іншым. Скаўт скаўту брат.**

Ён мусіць быць гатовым у кожную хвіліну ратаваць жыцьцё іншых ці прыйсьці з дапамогай людзям у няшчасьці ды выконваць таксама хатнія абавязкі. Ён павінен штодня для каго-небудзь зрабіць хоць адзін добры ўчынак. Да ўсіх, асабліва да жанчын, старэйшых і дзяцей, калек і бяздольных, павінен быць ветлівым і рыцарскім, а за сваю дапамогу ці ўслугу ня можа прымаць ніякай узнагароды. Калі скаўт спаткае іншага скаўта, хоць бы нават чужога сабе — ён мае да яго загутарыць і дапамагчы яму ўсім, чым толькі можа, калі ён будзе патрабаваць якой-колечы дапамогі. Усіх людзей бяз розьніцы на іх паходжаньне, рэлігію, нацыянальнасьць павінен трактаваць аднолькава, як сваіх бліжніх і абходзіцца зь імі як найлепш.

**4. Скаўт сумленны, праўдамоўны і датрымоўвае слова.**

Скаўт усё, што робіць, стараецца выканаць паводля сваіх найлепшых ведаў, волі і стараньняў. Ён у ніякім выпадку ня можа аднесьціся да сваёй працы ці абавязкаў лёгкадумна, каб іх толькі пазбыцца ці зрабіць добрае ўраджаньне. Гаворыць заўсёды праўду і ненавідзіць фальшу, а калі ня ведае, ці гэта ёсьць праўда ці няпраўда, паўстрымоўваецца ад выказваньня сваёй думкі. Дадзенае слова, хаця б ня было яно падмацаванае скаўцкім гонарам, абавязаны датрымаць.

**5. Скаўт любіць прыроду і імкнецца яе пазнаць.**

Ён павінен адносіцца да твораў прыроды — зьвяроў і расьлінаў — з любоўю, ахоўваць іх перад зьнішчэньнем, зьвяроў церад болем, бяз патрэбы не забіваць. Забіваньне зьвяроў для ежы або шкоднікаў дазваляецца, але высьцярагацца трэба пры гэтым іх мучэньня. Скаўт як прыяцель прыроды стараецца найлепш пазнаць расьлінны і зьвярыны сьвет праз вывучэньне яго і беспасрэдны кантакт.

**6. Скаўт ашчадны.**

Ён ня нішчыць сваволна дабра, шчыра працуе і не марнуе нічога, што можна выкарыстаць. Ён шчадзіць свой грош так, каб сам мог заспакоіць

сваё патрэбы і не патрабаваць дапамогі іншых, каб быць шчодрым для тых, якія патрабуюць дапамогі. Ён можа працаваць за зарплату, але ніколі не бярэ грошай ці іншай зарплаты за сваю ветлівасьць або добры ўчынак.

**7. Скаўт заўсёды вясёлы і жыццярадасны.**

Ён заўсёды сам вясёлы і стараецца разьвесяліць іншых. Калі атрымае загад, мае выканаць яго радасна і ахвотна. Скаўт ніколі не наракае на свае абавязкі або на цяжкасьці: з усьмешкай на вуснах і юнацкай бадзёрасьцю выконвае ўсё, што робіць сам або што яму даручана. У цяжкіх хвілінах або небясьпецы скаўт не губляе роўнавагі духа, але спакойна і зроўнаважана стараецца знайсьці найлепшы выхад.

**8. Скаўт вырабляе ў сабе моцны характар, адвагу і мужнасьць.**

Ён штодзённа працуе над сваім характарам, стараецца перамагчы свае слабасьці, цягу да прыемнасьцяў, стаўляючы на першым месцы абавязак, службу Бацькаўшчыне і бліжнім. Скаўт мае адвагу глядзець у вочы небясьпецы, перамагаючы страх; ён стаіць за праўду, супроць падхалімства сяброў або насьмешак і пагрозаў ворага. Няўдача ня ломіць яго.

**9. Скаўт заўсёды здысцыплінаваны і паслухмяны сваім бацькам і кіраўнікам.**

Нават, калі атрымае загад або наказ, які яму не падабаецца, мае паступаць як жаўнер, перш яго выканаць, бо гэта яго абавязак, а пасля выкананьня можа прыйсьці і высказаць якія-небудзь заўвагі супроць яго, але выканаць наказ мусіць неадкладна. На гэтым палягае дысцыпліна.

**10. Скаўт чысты ў мове, думках, учынках.**

Ён утрымоўвае чысьціню цела, вопраткі і думкі, ня ўжывае брыдкіх і непрыстойных словаў, стаіць за чысьціню мовы, чэсны спорт, чыстыя звычаі і ўтрымоўвае сяброўства з прызваітай кампаніяй. Курэньне і піцьцё алькагольных напіткаў узважае (прызнае.— *А. Л.*) за шкодныя для свайго здароўя і для выпрацоўваньня моцнага характару».

(Выданьне Галоўнай Кватэры ЗБСЧ, 1949).



Амаль ва ўсіх нацыянальных асацыяцыях Права* падобнае, бо ў яго аснове Канстытуцыя САСР. Як раней мы зазначалі, напрыклад, у Арганізацыі расійскіх юных разведчыкаў 12 законаў. Перш чым прыняць у Сусветную арганізацыю скаўцкага руху Сусветнае бюро добра аналізуе любыя змены ў Статутах, што датычыць вызначэння скаўцкага руху (арт. I), прынцыпаў Прырачэння і Права (арт. II), метада (арт. III) адпаведнасці Канстытуцыі. І ў той жа час тэкст Прырачэння і Права павінны быць «сфармуляваны сучаснай мовай, адаптаваны да спецыфікі культуры і грамадскага развіцця» (Фундаментальныя прынцыпы. Сусветная арганізацыя скаўцкага руху. Жэнева, 1989).

## Скаўцкі метад

Скаўтынг — выхаваўчы рух, накіраваны на рознабаковае развіццё асобы. Але «выхоўваць» не азначае вучыць. Трэба, каб дзіця само вучылася, па асабістаму жаданню. Гэта фарміруе яго характар. Як зазначаюць даследчыкі руху (Бондарь Л. А. Что есть скаутинг? Книга для скаутского лидера. Женева, 1992), у ім «выхаванне» не звязана з паняццем «школа». Гэта **пазафармальнае выхаванне****.

---

* Гл. далей Права ў «Статуце Аб'яднання беларускіх скаўтаў».

** Фармальнае выхаванне, згодна класіфікацыі ЮНЕСКО, іерархічна структуралізаваная, наладжаная па часе, выхаваўчая сістэма ад пачатковай школы да універсітэта. Нефармальнае выхаванне — гэта працэс, у ходзе якога кожны індывідуум на працягу ўсяго свайго жыцця набывае з прычыны штодзённага жыццёвага вопыту і ўплыву, што маюць выхаваўчы характар і абумоўлены асяроддзем акаляючага індывідуума, пазіцыі, каштоўнасці, навыкі і веды. Пазафармальнае выхаванне — гэта арганізаваная выхаваўчая дзейнасць, якая знаходзіцца па-за ўстаноўленай сістэмы і накіравана на абслугоўванне ідэнтыфіцыраванага аб'екта выхавання і ідэнтыфіцыруемыя выхаваўчыя мэты (Сборник документов Всемирной организации скаутского движения. М., 1991. С. 35).

3. Зак. 210.

Якая ж сістэма сродкаў выкарыстоўваецца для дасягнення мэты і прынцыпаў Руху? Скаўцкі метад як прагрэсіўнае выхаванне засноўваецца на:

**Прырачэнні і Праве;**

**вучобе праз справу;**

**сяброўстве (членстве) у малых групах (коп'ях),** якое ўключае прагрэсіўнае адкрыцце і прыняцце адказнасці і падрыхтоўкі да самакантролю пад кіраўніцтвам дарослых, накіраванае на развіццё характару і набыццё ведаў, упэўненасці ў сабе, надзейнасці і здольнасці як да супрацоўніцтва, так і да кіраўніцтва (пад наглядам дарослых);

**прагрэсіўных і стымулюючых праграмах** розных мерапрыемстваў, заснаваных на інтарэсах удзельнікаў, уключаючы гульні, карысныя навыкі і службу грамадству. Гульні праводзяцца на прыродзе.

Аб Прырачэнні і Праве ў нас гаворка вялася, цяпер коратка скажам сутнасць іншых элементаў скаўцкага метаду. Вучыцца праз справу — канцэпцыя актыўнага выхавання, згодна якой набыццё ведаў ажыццяўляецца шляхам назірання, эксперымента і асабістага ўдзелу. Гэтую ідэю, без якой не ўяўляецца скаўтынг, падтрымала сусветнавядомы педагог Марыя Мантэсоры.

Вельмі важным элементам скаўцкага метаду з'яўляецца сяброўства ў малых групах. Перавага іх перад вялікімі ў справе навучання і выхавання вядома кожнаму педагогу. Дарослыя дапамагаюць і ненавязліва кіруюць працэсам інтэграцыі маладых людзей у грамадскае жыццё, пераходу на новую ступень сталення, прыняцця адказнасці і самастойнасці.

Аб'яднанне беларускіх скаўтаў знайшло цікавую форму арганізацыі групы, у якую ўваходзяць каля сямі сяброў. Яе назвалі кап'ём, якое ў далёкім мінулым азначала баявую адзінку з рыцара, парабка (збрoяносца) і лучніка. Чым багацейшы быў баярын ці шляхціц, тым болей у яго было парабкаў. Харугва мела ад 60 да 600 коп'яў.

Зварот да рыцарства вельмі прыдатны да скаўцтва. Беларускія ваяры мелі багатую і слаўную



гісторыю, цікавыя традыцыі. Дзяцей захапляе вывучэнне ваенных паходаў, бітваў за сваю зямлю, азнаямленне і выраб рыштунку (шчыт, панцыр, шлем, меч і г. д.). У рыцараў існаваў рытуал пасвячэння (апаясванне мячом і сімвалічны ўдар ім, надзяванне шпораў, праверка вайсковай і фізічнай падрыхтоўкі, аддаванне прырачэння). Кодэкс прырачэння патрабаваў вернасці роднай зямлі, хрысціянскай царкве, свайму спадару, абароне слабых і хворых, падтрымання справядлівасці, пакланенне абранніцы.

Ідэя звароту да рыцарства ўдала спалучыла два элементы скаўцкай метады: сяброўства ў малых групах і прагрэсіўныя і стымулюючыя праграмы. У «Фундаментальных прынцыпах» САСР запісана, што «скаўцкая праграма павінна фармулявацца ў форме прагрэсіўнай праграмы, з'арыентаванай на задавальненне патрэбнасці ў паэтапным і гарманічным развіцці моладзі і дзяцей. Формай дасягнення такога прагрэсу выступаюць тэст і сістэма ўзроўняў або знакаў адрознення (прагрэсіўная схема, план складанага тыпу і г. д.)»*.

Стымулюючая праграма, якая служыць дасягненню мэты, павінна быць «добра збалансаванай камбінацыяй розных мерапрыемстваў, якія засноўваюцца на інтарэсах удзельнікаў» **. Яна складаецца з трох раздзелаў добра скамбінаваных мерапрыемстваў: гульняў, карысных навыкаў і грамадска карыснай працы.

Адным з важных умоў скаўтынгу з'яўляецца мерапрыемства на прыродзе. Яно выступае як фон, сфера дзейнасці і аб'ект пазнання. Скаўтынг — гэта рух моладзі на ўлонні прыроды. Дзейнасць кап'я ў лесе, полі, гарах, на вадзе па пераадоленню перашкод, калектыўная барацьба за задавальненне жыццёвых патрэб стварае эфектыўныя ўмовы наладжання ўзаемасувязей, загартавання харак-

* Сборник документов Всемирной организации скаутского движения. Женева, 1991. С. 41.

** Тамсама. С. 42.

тару. Скаўты вывучаюць фауну і флору, карыстаецца папулярнасцю следапытанне. Нездарма пад словам «скаўтынг» разумеецца вандроўніцтва, піянерства, даследніцтва прыроды.

Штогод скаўты бываюць у летніках ці зімніках. Аднак Бі Пі быў супраць масавай методыкі выхавання, вялікіх лагераў. Ён пісаў: «Скаўцкія табары павінны быць малыя — разам не могуць быць болей як адзін звяз (2—4 коп'і.— *А. Л.*), але нават і тады кожны звяз павінен мець свой асобны намёт у пэўнай адлегласці ад іншага». Гэта робіцца дзеля таго, каб выпрацаваць самастойнасць, адказнасць кап'ёвага за сваіх сяброў.

## Гульні скаўтаў

Скаўцкі метад уключае як адзін з найважнейшых яго элементаў гульню. Скаўтынг — гэта вялікая і сур'ёзная гульня. Сярод вялікіх і працяглых гульняў найбольш вядомыя — у разведчыкаў, следапытаў, паляўнічых, рабінзонаў, індзейцаў, рыцараў і інш. Яскравым прыкладам з'яўляецца Вялікае Грунвальдскае відовішча, якое традыцыйна праводзіцца ў летніку «Грунвальд».

Згуртаванне беларускіх скаўтаў на чужыне ў 1948 годзе выдала брашуру «Вялікая скаўцкая гульня» (Фленсбург, 1948), у якой падаваліся правілы нападзення і абароны і ў якой удзельнічалі вялікія групы ЗБСЧ. У наступным годзе пад аўтарствам скаўтмайстра В. Пануцэвіча выйшаў дапаможнік «Праца ў Зьвязе», дзе была змешчана цікавая гульня «Абарона Полацку». У гістарычнай даведцы да яе аўтар піша пра падзеі, якія сапраўды мелі месца. Узнаўляючы далёкае мінулае, і была створана гэтая гульня, у якой удзельнічалі тры дружыны (адна «палачан» і дзве «маскалёў»). Усё «прывязвалася» да мясцовасці: месца гораду з рэкамі Палата і Дзвіна павінна адпавядаць узвышэнню з вадзянымі ровамі і г. д.*

* Апісанне гульні змешчана далей у раздзеле «Дакументы. Дапаможны матэрыял».



Аб важнасці гульні распавядае ў сваім лісце са Злучаных Штатаў старэйшы і найбольш вядомы беларускі скаўт Вітаўт Кіпель*: «...ідэалёгія «скаўцкай гульні» адна з найлепшых як для гарадзкое, гэтак і для прыгараднае ды сельскае моладзі. Цяга да прыроды, стасаваньне набытых дасьведчаньняў, разьвіцьцё ўласных кіраўнічых здольнасьцяў, бадай, найлепей можа быць разьвітае ў праграмах гэтага маладзёжнага руху. Безьліч разоў я меў магчымасць назіраць, як у беларускім, гэтак і ў амерыканскім скаўтынгу, маленькі ваўчок (няпэўны, баязлівы) разьвіваўся ў выдатнага кіраўніка скаўта-арла, ды набытыя ў скаўтынгу якасьці ў нейкай меры выкарыстоўваліся ў «сапраўдным» жыцьці».

Да ліку «малых» гульняў неабходна аднесці такія сродкі, якія склаліся на аснове пэўных правіл і забаў пры дапамозе драматызаваных, умоўных або творчых дзеянняў. Ад вялікіх гульняў яны адрозніваюцца эпізадычнасцю, непрацяглацю і меншай колькасцю ўдзельнікаў. Напрыклад, у першым скаўцкім лагеры Бі Пі гулялі ў «След аленя». Сутнасць гульні ў наступным: спачатку хлопцы-паляўнічыя і хлопец-алень разбягаюцца ў розныя бакі, і алень хаваецца. Праз дваццаць хвілін усе пачынаюць пагоню аленя па яго слядах. Кожны паляўнічы мае ў сваёй сумцы па чатыры тэнісныя мячы. Калі адзін з іх трапляе трыма мячамі ў аленя, то той лічыцца забітым. Паляўнічы ж лічыцца выбытым з гульні, калі алень у яго пападае адным мячом.

Скаўты прымаюць усе карысныя гульні і забавы. Агульнапразнанай класіфікацыі, у якой асобным раздзелам значыліся б скаўцкія гульні, няма. Хаця часта пад імі разумеюць такія, дзе ёсць дзеянні, што патрабуюць наглядальнасці, кемлі-

* У актыўным скаўтынгу з 1945 да 1977 года. Закончыў вышэйшыя курсы інтэрнацыянальнага скаўтынгу, затым сам быў на іх выкладчыкам, займаў розныя адміністрацыйныя пасады ў амерыканскім скаўтынгу, мае амерыканскія і міжнародныя скаўцкія ўзнагароды.

васці і іншых якасцей. Так, у 1928 годзе заходнебеларуская газета «Bielaruskaja krynica» ў некалькіх нумарах надрукавала працу Уладыслава Казлоўшчыка «Аб фізічным выхаванні ў беларусаў», у якой ён упершыню вылучае групу скаўцкіх гульняў, «вырабляючых слых, хуткасць зроку і вучаць асьцярожнасьці, арыентацыі, прыгатаўляюць гульца да вайсковае разьведкі ў постаці вынаходу і адшукваньня схованых асоб або рэчаў і г. д.». Да іх аўтар адносіць гульні: «Сьляпец», «Кулюкушкі», «Стралец», «Палачка-бузавачка», «Татарская палачка», «Кот», «Вяровачка», «Чур», «Сьляпы музыка», «Пошта» і інш. Дарэчы, у згаданым даследаванні робіцца агляд старажытных славянскіх ігрышчаў, на якіх адбываліся як у грэкаў дужанне, бокс, скокі і іншыя «сьвятыя справы», у тым ліку згадваюцца слаўныя рыцарскія традыцыі беларусаў.

Нямала скаўцкіх гульняў пададзена ў метадычным дапаможніку скаўтмайстра В. Пануцэвіча «Праца ў Зьвязе» (1949). Акрамя разгляду некаторых агульных пытанняў арганізацыі скаўцкага звязу*, аўтар змяшчае ў выданні канкрэтныя распрацоўкі пяці зборак (заняткаў), у якіх выкарыстоўваюцца гульні «Пазнай па паху», «Шуканьне прадмета», «Нямоўчнае апавяданьне», «Падводныя лодкі», «Выкраданьне прадметаў», «Раскіданыя словы», «Загад шэптам», «Падзёрты слоўнік», «Пазнай вошчупам», «Зьмены ў памяшканьні», «Зьмены ў вопратцы», «Пазнай рукі», «Пазнай па выглядзе» і інш. Некаторыя з назваў характэрна гавораць аб змесце гульняў.

Асаблівае значэнне ў дзейнасці беларускіх скаўтаў заўсёды мелі народныя святы і гульні. Так, напрыклад, яшчэ ў 1948 годзе далёка ад Бацькаўшчыны была падрыхтавана і выдадзена В. Пануцэвічам, актыўным дзеячам ЗБСЧ, кніга «Беларускія народныя гульні», аснову якой склалі

* Звяз — арганізацыйна-структурная адзінка ў ЗБСЧ і АБС, якая складаецца з 2—4 дружын (у дружыне — 6 скаўтаў). У АБС замест дружын — коп'і.





*Гульня «Павуціна»*

запісы этнографа Е. Раманава. У Беларусі яны пачалі друкавацца толькі ў 80-ых гадах.

Для ўсебаковага развіцця асобы неабходны вялікі гульнёвы матэрыял, у тым ліку і багаты вопыт сусветнага скаўцтва. У летніках, на джэмбары праводзяцца цікавыя камбінаваныя эстафеты, разлічаныя на ўдасканаленне фізічнага майстэрства і разумовай дзейнасці. Маюцца цэлыя распрацаваныя комплексы гульняў, пры дапамозе якіх псіхалагічна кампануюцца звяз, кап'ё, вылучаецца лідэр і г. д. Для прыкладу спынімся на некаторых момантах методыкі, якая прымяняецца многімі скаўтамі за мяжою і выкарыстоўваецца намі ў летніках дзеля вызначэння спаянасці кап'я і выдзялення ў ім лідэраў.

Загадзя скаўцкім інструктарам рыхтуюцца этапы трэнінгавай паласы. Яны не могуць быць нейкімі сталымі, а змяняюцца ў залежнасці ад розных умоў.

Вось інструктар вядзе кап'ё па лесе. У нейкі момант абвяшчае, што ў аднаго з удзельнікаў, напрыклад, пашкоджана нага, другому перавязвае

хусцінкай руку. Без далейшага загаду сябры самі дапамагаюць «параненаму» рухацца далей. А далей — «глыбокі роў» шырынёй, прыблізна, два метры. Ён умоўна абазначаецца на шляху кап'я. Інструктар уважліва наглядае, як яго пераадольваюць скаўты. Нехта зможа пераскочыць, нехта шукае бервяно, нехта спрабуе дапамагчы «нямоглаöму», а нехта ж пачынае выказваць добрыя думкі па выхаду з сітуацыі і кіраваць. Найбольш актыўных інструктар штучна стрымлівае праз абвешчанне, напрыклад, аднаго «сляпым», другога «нямым».

Наступным этапам, у якім можа добра праявіцца патрэбны вынік, можа стаць «павуціна». Гэтую перашкоду робяць паміж двума якімі-небудзь слупамі (дрэвамі і г. д.). У двух-, трохметровай прасторы вяроўкамі робіцца пляцёнка, што складаецца з трохвугольнікаў, трапецый і г. д., праз якія можа прайсці чалавечае цела.

Задача: пераправіцца на другі бок членам усяго кап'я, у тым ліку розным «нямоглым», не дакрануўшыся да вяроўкі і двойчы не праходзячы ў адну «адтуліну».

Акрамя «павуціны» могуць быць і іншыя канструкцыі для пераадолення перашкод, напрыклад яма, з якой неабходна выбрацца, ці ўмоўная металічная сценка, праз якую праходзіць электрычнасць. У дапамогу «пацярпеўшым» можа давацца (а можа і не) невялікае паленца, вяроўка і г. д.

Багаты вопытам сусветны скаўцкі рух, ды і піянерскі, выпрацавалі шмат карыснага ў выхаванні дзяцей праз гульню і добрую справу. Яго неабходна вывучаць і ўкараняць у практыку, а таксама належным чынам падзяліцца з сябрамі, увесці ў міжнародную скарбонку скаўцтва лепшыя нацыянальныя традыцыі беларусаў.

### Падзел у скаўтынгу. «Ваўчаняты»

Традыцыйна ў скаўтынгу існуе падзел яго сяброў па ўзросту. Ёсць толькі невялікія адрозненні гэтай класіфікацыі ў розных краінах. Так, у скаўтаў Вялікабрытаніі, дзе зарадзіўся рух, сябры нацыянальнай асацыяцыі ва ўзросце 6—8 гадоў называюцца сябрамі-скаўтамі, 8—11 гадоў — ваўчкамі-скаўтамі, 10,5—15,5 — скаўтамі, 15,5—20 — скаўтамі-шукальнікамі прыгод. У асацыяцыі скаўтаў Грэцыі, як і ў большасці краін, падзел складаецца з трох ступеняў: ваўчкі (6—11 гадоў), скаўты (11—15 гадоў), старэйшыя скаўты (15—18,5 года). Згуртаванне беларускіх скаўтаў чужыны (ЗБСЧ) мела падобны падзел: ваўчаняты (7—11 гадоў), малодшыя скаўты, або юнакі (12—15 гадоў), скаўты (15—18 гадоў). Амаль нязменнай гэтую класіфікацыю пакінула Аб'яднанне беларускіх скаўтаў.

Як жа з'явіліся ваўчкі, або кабскаўты? Такую назву дзеці ва ўзросце 6—11 гадоў носяць у большасці нацыянальных асацыяцый. «Cubscout» у перакладзе з англійскай азначае скаўт-ваўчок. У пару станаўлення скаўтынгу асабліва была папулярна казка Р. Кіплінга «Маўглі». Як і яе галоўны герой, што выхоўваўся ў воўчай зграі, дзеці, знаходзячыся далёка ад бацькоў у лесе, імкнуліся быць падобнымі на малога Маўглі, ваўчка. Яны выконвалі спецыяльную праграму кабскаўта, пераймалі галасы звяроў, іх павадкі, паставу, насілі металічныя або вышытыя значкі з вывявай галавы ваўчка. Вітаюцца ваўчаняты наступным чынам: прыкладаюць два пальцы (указальны і сярэдні) правай рукі да галаўнога ўбору над правым вокам. Пальцы трохі расхілены як літара «v», а вялікі падтрымлівае два астатнія. У ЗБСЧ ваўчкі маюць свае правы (законы): «Ваўчок любіць сваю Бацькаўшчыну», «Ваўчок паслухмяны сваім бацькам і праваднiку», «Ваўчок заўсёды мужны», «Ваўчок стараецца быць штораз лепшым». «Скаўцкі Рэгулямін» (1947) так тлумачыць першае права: «Перш за ўсё любі сваю родную мову, свае песні, танцы, звычаі і ўсіх сваіх суродзічаў. У школе вучыцца добра, каб быць карысным сваёй Бацькаўшчыне». «У грамадзе стараецца набыць лепшыя вынікі, каб імя яе сталася слаўным. Ваўчок з любоўю адносіцца да нацыянальных эмблемаў,

да нацыянальных герояў і змагароў, да нацыянальных легендаў, казак, да сваёй нацыянальнай гісторыі. Ён мужна выступае супраць кожнага, хто словам зьневажае, або дрэнна выказваецца аб нашым народзе, Бацькаўшчыне, і аб усім, што называецца беларускім».

Арганізацыя ваўчанятаў ставіла мэтай не толькі выхаванне нацыянальных традыцый, але і пашаны да чужога. Акрамя любові да далёкай Бацькаўшчыны арганізацыя ставіла іншыя мэты: «выпрабленьне **характару** пры дапамозе метадаў і сродкаў, адпаведных да веку дзяцей»; «навука **грамадскага** сужыцьця грамады, арганізацыя працы і гульняў»; «падняцьце **культурнага** ўзроўня дзіцяці і іх фізічнае выхаваньне»; «унясеньне ў жыццё дзяцей як найбольш радасьці, вясёласьці і бадзёрасьці» (Скаўцкі Рэгулямін. Ч. 1. Ваўчаняты. 1947).

## Галоўныя скаўцкія сімвалы

Галоўны скаўцкі сімвал — белая лілея з трыма пялёсткамі на фіялетава-ліловым фоне. «Нашу адзнаку мы ўзялі ад Палярнай зоркі»,— гаварыў заснавальнік руху Бадэн Пауэл. Справа ў тым, што здаўна на картах малявалі трохпялёстак, што абазначаў стрэлку компаса, якая заўсёды ўказвала на Палярную зорку. Падобны знак знаходзілі ў арнаментах і геральдыцы розных народаў, нават за 2 тысячы гадоў (у кітайцаў), калі яшчэ не было і компаса. Паходжанне лілеі таксама звязваюць і з адлюстраваннем розы вятроў. Беларускай геральдыкі і дэкаратыўнаму мастацтву таксама вядомы гэты загадкавы трохпялёстак. Звярніце, напрыклад, увагу на складаны герб канцлера Вялікага княства Літоўскага Льва Сапегі або іншых знакамітых асоб.

У скаўцтве лілея азначае накірунак да дружбы і братэрства, справядлівы шлях. Тры пялёсткі адпавядаюць тром элементам скаўцкага прырачэння: вернасць Богу і Бацькаўшчыне, паслухмянасць скаўцкаму кіраўніцтву і Праву, добры ўчы-





*Эмблема САСР*




*Эмблема АБС*

нак штодзень. Дзве зоркі абазначаюць праўду і жыццё на прыродзе, а дзесяць іх канцоў — дзесяці запаветам скаўцкага Права. Лілея абкружана вяроўкаю з рыфавым вузлом, важнымі атрыбутамі скаўцкага жыцця, якія сімвалізуюць адзінства і братэрства Руху. Белы колер у геральдыцы азначае чысціню, а каралеўскі ліловы — лідэрства і дапамогу іншым.

Кожная нацыянальная скаўцкая арганізацыя мае сваю эмблему. Эмблема АБС перанята ў спадчыну ад ЗБСЧ і мае толькі некаторыя адрозненні. На сярэднім пялёстку размяшчаецца шасціканцовы крыж, узяты з нацыянальнага герба «Пагоня». Бел-чырвона-белая стужка звязвае тры пялёсткі. Ужыванне нацыянальных сімвалаў азначае любоў да Бацькаўшчыны. Унізе на стужцы змешчаны дэвіз «Напагатове!».

Скаўцкі кліч з'яўляецца таксама важным сімвалам. На радзіме заснавання Руху ён гучыць «Біпрыпэд» («Be prepared»). Рускія пераклалі яго як «Будь готов!». Гэты кліч таксама перайшоў у піянерыю, якая ў Беларусі карысталася рускай мовай. Беларускія ж скаўты, якія існавалі ў многіх краінах замежжа, пераклалі з ангельскай мовы гэтае слова як «Напагатове!». Ім цяпер і карыстаецца АБС.

Бадэн Пауэл так тлумачыў значэнне клічу:

«Скаўцкі кліч гаворыць, што ты заўсёды гатовы розумам і целам выканаць свой абавязак нягледзячы на любыя цяжкасці, і, калі неабходна, дапамагчы іншым». Гэта неабходна разумець так, што скаўт не толькі заўсёды напагатове прыйсці на дапамогу, але і валодае пэўнаю сумай ведаў, каб найлепш здзейсніць высакародны ўчынак. Ён — загартаваны, дужы, мужны, смелы, валодае навыкамі аказання першай медыцынскай дапамогі пры ўратаванні на вадзе і пажары і іншых надзвычайных сітуацыях. Ён рыхтуецца быць карысным сваёй радзіме.

### Вітанне скаўтаў

Скаўты вітаюцца не правай рукой, а левай, не мае значэння ва уніформе яны ці не. Такі знак азначае ва ўсім свеце прымету праяўлення дружбы, даверу і прыналежнасці да асаблівага Скаўцкага Братэрства.

Традыцыю леварукага вітання Бі Пі пераняў у аднаго афрыканскага племені. Там воін перакладаў шчыт з левай рукі ў правую, якая трымала яшчэ меч, і паціскаў ёю руку субяседніка. Вызваленне яе ад шчыта азначала знясце абароненасці, давер да чалавека.

Як жа віталіся і вітаюцца беларускія скаўты? Звернемся да ўрыўка з дапаможніка «Праца ў Зьвязе», які таксама распавядае пра іншыя сімвалы. «Скаўты вітаюцца між сабою **левай рукой,** падносячы правую руку з трыма выпраставанымі пальцамі на вышыню вачэй. Чаму падаюць скаўты **левую,** а не правую руку? Бо скаўты рыцары. У сярэднявеччы рыцары падавалі левую руку на знак прыязьні, сардэчнасьці (ад сэрца). Тое самае і скаўты. Падносяць правую руку з трыма пальцамі як сымбаль (сімвал.— *А. Л.*) трох найважнейшых наказаў скаўцкай прысягі: быць верным Богу і Бацькаўшчыне, памагаць кожнаму чалавеку ва ўсякім часе, быць паслухмяным скаўцкаму праву і кіраўніцтву.



Вітаючыся, скаўт глядзіць проста ў вочы і прымае асноўную паставу. Старэйшым першы не падае рукі, але становіцца на «Зважай» ды падносіць руку. Калі на галаве ўбор (шапка, капялюш), то прыкладае тры пальцы да ўбору над правым вокам. Вітаючыся, можна сказаць скаўцкі кліч «Напагатове!», які абазначае заўсёдную гатовасьць службы Богу, Бацькаўшчыне і бліжнім. Адказ таксама «Напагатове!». (Дружына як адзінка адказвае — «Заўсёды!»)».

Дарэчы, акрамя агульнапрынятага скаўцкага вітання існуюць іншыя: нацыянальныя, рэгіянальныя, неафіцыйныя і г. д. У асноўным яны складаныя і даволі цікавыя. Забаўна, напрыклад, наглядаць, як два скаўты адзін перад адным выраблююць розныя фігуры з падскокам ці ў адпаведнай чарговасці дакранаюцца рознымі часткамі рук і г. д.

Але цяпер — аб іншых сімвалах, што былі згаданы вышэй. Ва ўсім свеце выкарыстоўваецца скаўцкі знак: узнятая правая рука ўверх, далонь адкрыта ўперад, а тры пальцы выпрастаны і сціснуты разам. Гэты жэст азначае мудрасць і сігнал увагі. Знак выкарыстоўваецца пры вітанні і абавязкова пры ўрачыстых падзеях, напрыклад, аддачы Прырачэння і Права. У асабліва важных мерапрыемствах, напрыклад узняцці сцяга, выкарыстоўваецца салют. Ён аддаецца правай рукой, якая сагнута ў локці і паднесена да правага брыва далоняй уперад с трыма выпраўленымі пальцамі.

І яшчэ аб клічы. Ён даецца таксама пры вітанні скаўтаў паміж сабою, прычым абодва бакі вымаўляюць толькі: «Напагатове!». У беларускіх скаўтаў для паказу радасці ў асабліва ўрачыстых момантах ужываўся і ўжываецца кліч «Жыве!». Яго вымаўляюць тройчы. Акрамя таго, у асобных структурных падраздзяленнях могуць ужывацца свае традыцыйныя клічы або ўмоўныя знакі.

## Атрыбуты і уніформа

Да атрыбутыкі адносяцца розныя знакі адрознення на уніформе, а таксама хусцінкі, сцягі і іншыя рытуальныя рэчы, напрыклад свісток і сцізорык. Бадай, самым галоўным атрыбутам з'яўляецца шыйная хусцінка, гальштук. У піянераў ён быў адзіны — чырвоны, у скаўтаў можа быць розных колераў. Нават у аднаго з іх можа быць некалькі: свайго кап'я, звязу і г. д. Шыйная хусцінка ў адрозненне ад піянерскага гальштука закручваецца валікам прыблізна 6 разоў, і два яе канцы не завязваюцца ў вузел, а звычайна замацоўваюцца металічным, скураным ці іншым зажымам з эмблемай. Пад хусцінку паддзяваецца шнур са свістком, апошні кладзецца ў правую нагрудную кішэню. Нярэдка скаўты АБС ужываюць замест зажыма саламяную пляцёнку са значком. У Заходняй Беларусі на шыі насілі стужку ў традыцыі тканых беларускіх паясоў. Колер скаўцкага гальштука можа адпавядаць колеру нацыянальнага сцяга, гербу мясцовасці, прымацца адвольна ці кіруючыся нейкай тайнай. Ужывацца можа таксама вольна: служыць у якасці лобнай павязкі, павязкі пад рану і г. д.

Такім жа важным элементам у скаўцкім жыцці з'яўляецца уніформа. Яна выкарыстоўваецца з часоў зараджэння руху. Капялюш з шырокімі палямі, сарочка, штаны ці шорты колеру хакі, гольфы і турысцкія чаравікі — вось традыцыйная уніформа. Час унёс у яе свае карэктывы. Яна больш адпавядае нацыянальным традыцыям і ў той жа час захоўвае асаблівасці, якія ўказваюць на яе прыналежнасць да Сусветнай арганізацыі скаўцкага руху.

Разгледзім больш падрабязна уніформу, якую насілі беларускія скаўты ЗБСЧ. Яна была адзінага ўзору, зацверджаная вялікім з'ездам і апісаная ў адпаведных рэгулямінах.

Беларускія скаўты замежжа насілі на галаве шыракаполы капялюш «міжнароднага фасону» колеру хакі або чорны берэт са скаўцкай адзнакай





*Паслядоўнасць завязвання скаўцкай шыйнай хусцінкі*




*Уніформа скаўта ЗБСЧ*

(лілейкай). Зялёная або колеру хакі сарочка («блюза») таксама была адпаведнага крою з наплечнікамі і дзвюмя кішэнямі. Зялёныя гольфы. Зімой — куртка зялёнага колеру спартыўнага выгляду. Кароткія зялёныя штаны («порткі») не даходзілі чатыры пальцы да калена, зімой — доўгія, сцягнутыя ўнізе над чорнымі чаравікамі. Быў яшчэ скаўцкі пояс з лілейкавай спражкай, на які злева падвешваўся сцізорык.

Адзнакі выражаліся ў значках і нашыўках. Значок са скаўцкай лілейкай таксама насіўся і на кашулі («вышэй левай кішэні на 1,5 см»). На рукавах пад наплечнікамі наносіліся нашыўкі «WHITERUTHENIAN BOY SCOUTS» (6 × 3 см) — беларускія бой-скаўты. Ніжэй яе на левым рукаве — герб (татэм) дружыны (кап'я), на правым — адзнакі спраўнасцей. На левай кішэні насіцца адзнака скаўцкай ступені (III, II, I класы). Якое значэнне маюць гэтыя адзнакі, расказана у наступным раздзеле.

Што ж такое герб і адзнакі? Паводле рэгуляміну ЗБСЧ, кожная дружына мела назоў, які складаўся з назовы аднаго са звяроў або птушак (дружына Зуброў, Рысяў, Сокалаў і г. д.). На асобным шчытку маляваўся татэм, які з'яўляўся гербам і захоўваўся ў ганаровым месцы. Дарэчы, звязы (2—4 дружыны) мелі назвы сваіх патронаў (звяз Усяслава Чарадзея, імя Льва Сапегі і г. д.). А патронам, апекуном усіх скаўтаў з'яўляецца сьвяты Юры. У заходнебеларускім штомесячніку «Пралескі» (1936) так пісалася: «Сьвяты Юры служыў афіцэрам у гвардыі рымскага цэзара Дыаклецыяна і быў шчырым хрысьціянінам. Калі Цэзар Дыаклецыян пачаў прысьледваць хрысьціян, сьв. Юры выступіў у абарону іх і за гэта ў вялікіх муках сваё жыцьцё аддаў.

Як сьв. Юры выступіў у абарону пакрыўджаных, таксама і скаўты выступаюць у абарону слабейшых і пакрыўджаных». Вось чаму скаўтамі асабліва шануецца Юр'е (6 траўня).

Акрамя герба, патрона структурныя падраздзяленні мелі яшчэ і сцягі. Напрыклад, кожная шос-



тка (шэсць сяброў) ваўчанятаў мела трохкутны сцяжок (30 × 15 см). Колер яго быў такім жа, як шыйная хустка ў грамадзе (2—3 шосткі). На сцяжку маляваўся татэм шосткі (звярок, птушка, лісток дрэва). У малодшых скаўтаў (ад 12 да 15 гадоў) таксама сцяжок меў выгляд трохкутніка (25 × 40 см), на якім з аднаго боку вышываўся герб дружыны, на другім — яе назоў. Давяралася насіць сцягі лепшым, іх называлі харунжымі.

## Пробы і спраўнасці

Сярод адзнакаў на уніформе называліся класы і спраўнасці. У залежнасці ад індывідуальнай падрыхтоўкі, напрыклад, малодшыя скаўты (ад 12 да 15 гадоў) падзяляліся на тры ступені: маладзік (юнак 3-га класа), выведнік (юнак 2-га класа) і дасужы (юнак 1-га класа). Да пробы (экзамену) на ступень маладзіка дапускаўся юнак 12—14 год, які:

1. Меў ступень ваўчка 3-яй зоркі або менш трохмесячную службу ў дружыне.
2. Ведаў скаўцкую прысягу і права і стараўся жыць паводле іх наказаў.
3. Займаўся спортам (плаваў, страляў з лука і г. д.).
4. Прымаў удзел у некалькіх скаўцкіх вандроўках.

Якім жа вымаганням неабходна было адпавядаць юнаку, каб атрымаць ступень маладзіка? Вось першыя з чатырнаццаці патрабаванняў:

1. Ведаць беларускія нацыянальныя эмблемы, сцяг, герб, гімн. Ведаць сцягі і гербы суседніх краін. Ведаць, як падымаецца і апускаецца сцяг, аддаецца пашана перад ім, нацыянальны і скаўцкі гімны, песню «Пагоня».
2. Умець паказаць на карце межы нашай Бацькаўшчыны, вялікія гарады, рэкі, азёры, лясы. Ведаць колькасць беларусаў і колькасць насельніцтва іншых краін, асабліва суседзяў. Змагчы расказаць пра Рагвалода, Рагнеду, Усяслава Ча-

радзея, Вітаўта, Скарыну, Кастуся Каліноўскага, Багушэвіча, Янку Купалу, Якуба Коласа.

3. Ведаць напамяць прысягу і скаўцкае права, разумець іх значэнне. Ведаць значэнне клічу «Напагатове!», скаўцкага прывітання, іх сімволіку. Ведаць скаўцкія адзнакі, уніформу, сваіх кіраўнікоў.

4. Разумець вартасць для здароўя скаўцкай вопраткі. Умець падрыхтавацца да падарожжа, забяспечыць ногі ад пакалечання ў часе маршу. Ведаць, што рабіць у выпадку прамачэння ног, вопраткі. Разумець небяспеку забруджання раны. Ведаць, як тушыць вопратку на чалавеку, як захоўвацца пры запальванні бензіну, спірту, газа і г. д.

5. Ведаць скаўцкія ўмоўныя знакі, песні, гульні.

6. Умець зварыць каву, бульбу, прыгатаваць да ежы хлеб.

7. Умець вязаць вузлы: плоскі, рыбацкі, скарот, пятля, ратунковы, ткацкі, васьмёрка, паліцыйны. Запакаваць невялікі прадмет у паперу і звязаць шнурам, залатаць вопратку.

8. Зрабіць некалькі прадметаў з кары, паперы, дрэва і г. д., некалькі цацак на ёлку.

Толькі пасля здачы ўсіх пробаў юнак дапускаўся да скаўцкай прысягі і пераходзіў у трэці клас. Зразумела, вымаганні на ступень выведніка павялічваліся (веданне гісторыі, гігіены, прыёмаў першай дапамогі) — усяго 20 пунктаў. Вось, напрыклад, сёмае патрабаванне: умець распаліць вогнішча не больш чым дзвюма запалкамі, хутка загасіць яго і схаваць след; прыгатаваць цеста на хлеб і яго спячы, зварыць у табарных умовах суп, бульбу, спячы яечню.

Акрамя ступеняў агульнага развіцця кожны малодшы скаўт павінен «здабыць» цэлы шэраг спраўнасцей (веды і ўменні ў асобнай галіне дзейнасці, спецыяльнасці). Так, для атрымання ступені дасужага і адзнакі юнака першага класа неабходна здаць пробы спраўнасцей: табарніка, майстроўшчыка, піянера, санітара, прыродніка, прыяцеля звяроў і следахода. У вымаганнях (патрабаваннях да табарніка) розныя ўмовы па ўменні размяшчэння ляснога прыстанішча, лагера; майстроўшчыка — па практычнай справе («зьмяніць электрычныя бесьпечнікі, выключальнік, патрон», «навострыць нажы» і інш.). У рэгуляміне маецца дакладны спіс. Вось, напрыклад, вымаганні піянера, чалавека, які ўмее жыць сярод прыроды:

1. Выявіць уменні ў хуткім і акуратным пілаванні дрэва таўшчынёй 25 см.

2. Ведаць вузлы вымаганняў III і II класаў, а таксама — пажарнага, паліцэйскага, марацкага, лесарубава.

3. Змайстраваць паветраны мост з вяроўкі.

4. Змайстраваць табарную кухню або плыт.

5. Пабудаваць шалаш або прыпынішча на тры асобы.

У рэгуляміне таксама пададзены сімвалы і вымаганні іншых спраўнасцей: спартоўца, агародніка, лесавіка, каваля, інтраліґатара (майстра кніжкі), кухара, цыкліста (веласіпедыста, матацыкліста), шаўца, дэкламатара, танцора, стралка, музыкі, філатэліста, трубача, сігналіста, наглядальніка, пісара, плывака, краўца, перакладчыка, ганца, мадэльшчыка, рыбака, фатографа.

Сярод атрыбутаў уніформы меліся адзнакі функцыяў у выглядзе скаўцкіх шнуркоў. Так, малодшы праваднік насіў сіні шнурок ад левага наплечніка да левай кішэні блузкі, праваднік і старшы праваднік — сярэбраны на шыі, рэферэнт ваўчанятаў пры штандары — чырвоны на шыі, рэферэнт ваўчанятаў пры Галоўнай кватэры — жоўты на шыі. Як ваўчкі, так і скаўты шнуркоў не носяць, гэта прыналежнасць кіраўніцтва. Дружыновыя насілі на шыі шнурок сіняга колеру, яго заступнік — таксама, але ўжо ад левага наплечніка да левай кішэні блузкі. Службовай адзнакай дружыновага з'яўляюцца дзве нашыўкі сярэбранага колеру на левым рукаве (вышэй локця), у яго заступніка — адна. У звязовага шнурок сярэбра-

нага колеру на шыі, у яго заступніка — ад левага наплечніка да левай кішэні.

У сусветным скаўтынгу, у прыватнасці беларускім, была і ёсць добра распрацаваная сістэма ўдасканалення і росту асобы ў яе разнабаковым развіцці. Усё гэта адлюстроўвалася на уніформе ў выглядзе прынятых адзнакаў, па якіх можна «прачытаць» здольнасці скаўта.

## Што чытаюць і спяваюць скаўты?

Беларускія скаўты, як і іх браты ва ўсім свеце, чытаюць розныя кнігі, што ўзбагачаюць іх розум і душу. Маецца нямала скаўцкай літаратуры на розных мовах.

Аказаўшыся далёка за межамі роднай Бацькаўшчыны, нашы эмігранты стараліся выхоўваць у сваіх дзецях любоў да ўсяго беларускага. Дзеля гэтага перакладалася на родную мову мастацкая літаратура і, найперш, прыгодніцкага зместу: «Рабінзон Круза» Д. Дэфо, «Падарожжа Гулівера да волатаў у краіне Брондзынгнаг» Д. Свіфта, «Маўглі» Р. Кіплінга, «Чорная бутэлька» Р. Стывенсана і інш.

Добрую дапамогу аказалі беларускамоўныя перыядычныя выданні: часопісы і газеты, у якіх распавядалася аб падзеях у скаўцкім жыцці, гісторыі і мастацтве Беларусі, прадстаўляліся творы пісьменнікаў. Нямала кніг для садкоў, школ, скаўцкай арганізацыі выдала суполка «Крыніца», якая была арганізавана скаўтамі ў Міхельсдорфе.

У канцы любой зборкі, іншы раз у пачатку, напрыклад пры ўрачыстым узняцці сцяга, спявалі песню. Вясёлыя песенькі выконвалі ў перапынках зборак. На працягу адзначэння святаў Каляд, Вялікадня, Купалля, Дажынак спявалася нямала народных песень. Пад час святкавання дня Беларускіх герояў (24—25 сакавіка), святога Юр'я (24 красавіка) складалася Прырачэнне і выконваліся найбольш патрыятычныя творы.



У дапаможніку «Скаўцкі спадарожнік», складзеным А. Бута ў 1947 годзе, змешчаны толькі дзве песні з нотамі «Мы выйдзем шчыльнымі радамі» (сл. М. Краўцова, муз. У. Тэраўскага) і «Беларусь, наша Маці-Краіна» (сл. Н. Арсеневай, муз. М. Шчаглова). Гэта гаворыць аб іх папулярнасці як сярод дарослых, так і дзяцей. Недарэмна першая называлася беларускім народным гімнам. Яна клікала выйсці «шчыльнымі радамі» і даць «гвалту... адпор». А гвалт над Беларуссю здаля вельмі добра бачыўся. Апошнія радкі гімна давалі надзею: «У крывавых муках мы адродзім Жыццё Рэспублікі сваёй». У тым жа рэчышчы была створана і другая песня. Любоў да Бацькаўшчыны прыдавала ім сілу і надзею.

Беларусь, наша Маці-Краіна,
Ты з нас моцных зрабіла людзей.
Не загінулі мы і ня зьгінем,
Покуль Ты нас наперад вядзеш...

Прысягнем Табе мы сягоньня,
Што пакуль хоць адзін з нас жыве,
Нашай слаўнай крывіцкай Пагоні
Мы ня зганьбім, мы ўславім яе.

Назвы гэтых песень мы знаходзім і ў канспектах навучальных зборак у дапаможніку «Праца ў Зьвязе» (1949). Акрамя іх рэкамендуюцца для выканання «Мы бойкая моладзь!», «Люблю наш край», «Мы Беларусі вольнай арляняты», «Ноч ідзе...» і «Бабка Еўка» са спасылкай на скаўцкі спеўнік. У іншых крыніцах знаходзім, што ён быў выдадзены ў 1948 годзе.

Сярод беларусаў замежжа быў папулярны і «Юнацкі сьпеўнік», выпушчаны Саюзам беларускай моладзі, і выкарыстоўваўся скаўтамі. Мы маем адзін з яго асобнікаў з пячаткаю Згуртавання крывіцкіх скаўтаў. У ім акрамя ўжо названых — «Пагоня», «Кінь вечны плач», «Слуцкія ткачыхі» М. Багдановіча і М. Шчаглова, «Беларуская зямліца» А. Пшчалкі і М. Маўісона, «Мы — моладзь», «Наша мэта», «Застольная песьня», «Пойдзем, пойдзем» Н. Арсеневай і М. Шчаглова, «Марш арлянятаў» М. Кавыля і М. Шчаглова,




*Сучасныя выданні па скаўтынгу*




*Некаторыя перыядычныя выданні скаўтаў розных краін*







*Паштоўкі ЗБСЧ*

«Да моладзі» В. Э. Н. і А. Туранкова, «Беларусь перадусім» А. Стэповіча, а таксама на народныя словы — «Купалінка» ў апрацоўцы У. Тэраўскага, «А мы ляда капалі» М. Шчаглова, «Лявоніха», «Чачотачка» М. Равенскага, «Бульба» А. Туранкова і г. д.

Нямала іншых патрыятычных і вясёлых песень беларускіх і іншых аўтараў выкарыстоўваюць скаўты. Пішуцца для іх і спецыяльныя тэксты. Так, добры наш сябар былы скаўт з Заходняй Беларусі Сяргей Новік-Пяюн напісаў музыку і тэкст марша «Пад штандарам крывіцкай Пагоні», у якім выкладзены асноўныя задачы моладзі.

Вясёлую і задорную песню пра ваўчкоў напісаў нядаўна кампазітар Зміцер Еўтуховіч. А наогул гэтая скаўцкая тэма чакае яшчэ сваіх твораў.

# ДАКУМЕНТЫ. ДАПАМОЖНЫ МАТЭРЫЯЛ

## СКАЎЦКІ РЭГУЛЯМІН*

### ЧАСТКА І. ВАЎЧАНЯТЫ

(Выданне Галоўнага кіраўніцтва ЗБСЧ. 1947)

### Раздзел І. Арганізацыя ваўчанятаў

Назоў

§ 1. Скаўтынг для хлопцаў ад 7 да 11 год называецца Арганізацыяй ваўчанятаў.

§ 2. а) Арганізацыя ваўчанятаў з'яўляецца складовай часткай Згуртавання беларускіх скаўтаў на чужыне (далей ЗБСЧ.— *А. Л.*);

б) Арганізацыя ваўчанятаў (далей АВ.— *А. Л.*) займаецца падрыхтоўкай дзяцей да ўступлення ў скаўцкія дружыны.

Мэта

§ 3. а) фарміраванне характару пры дапамозе метадаў і сродкаў, адпаведных да ўзросту дзяцей;

б) навучанне грамадскаму сужыццю праз увядзенне дзяцей у жыццё грамады, арганізацыю працы і гульняў;

в) выхаванне дзяцей у духу нацыянальных традыцыяў і пашаны да чужога;

г) падняцце культурнага ўзроўня дзяцей і іх фізічнае выхаванне;

д) унясенне ў жыццё дзяцей найбольш радасці, весялосці і бадзёрасці.

---

* Тэкст пададзены ў рэдакцыі «Настаўніцкай газеты», дзе ён друкаваўся, без «ь» перад мяккімі і паміж падоўжанымі зычнымі.

## Структура

§ 4. а) найвышэйшая ўлада Арганізацыі ваўчанятаў — Галоўная кватэра ЗБСЧ, рэферэнт;

б) пры кожным штандары ЗБСЧ існуе таксама рэферэнт, які ў справах арганізацыйных і выхаваўчых падпарадкаваны Рэферэнту ваўчанят пры Галоўнай кватэры;

в) ваўчаняты ўтвараюць асобныя грамады, на чале якіх стаяць праваднікі ваўчанятаў;

г) праваднік ваўчанятаў у справах выхавання падпарадкоўваецца непасрэдна рэферэнту ваўчанятаў пры адпаведным штандары.

§ 5. Грамада ваўчанятаў складаецца з 15—25 хлопцаў і падзяляецца на шосткі.

§ 6. Калі грамада ваўчанятаў існуе пры сцягу (структурнае фарміраванне.— *А. Л.*), то разам са звязамі (ніжэйшае структурнае фарміраванне.— *А. Л.*) яна ўтварае адну арганізацыйную адзінку з супольнай касай, інвентаром, памяшканнем, кіраўніцтвам. Навонкі рэпрэзентуе (знешне прадстаўляе.— *А. Л.*) усю скаўцкую адзінку сцяжны (харунжы.— *А. Л.*).

§ 7. Калі ў дадзенай мясцовасці няма скаўцкіх звязаў, то грамада ваўчанятаў утварае самастойную грамаду і падпарадкоўваецца непасрэдна кіраўніцтву штандару, мае сваю незалежную гаспадарку, касу, памяшканне.

§ 8. Ані ў грамадзе ваўчанятаў пры сцягу, ані ў самастойнай грамадзе праваднік не можа быць адзінай дарослай асобай. Ён павінен мець яшчэ свайго заступніка, не маладзей 15 гадоў.

§ 9. Ніякая грамада ваўчанятаў не можа быць арганізаваная, калі няма праваднікa ваўчанятаў, зацверджанага Галоўнай кватэрай ЗБСЧ.

§ 10. Грамада ваўчанятаў падзяляецца на шосткі. На чале шосткі стаіць важак, выбраны хлопцамі і зацверджаны праваднікoм. Важак — гэта адзін са спрытнейшых хлопцаў, які карыстаецца ў іх найбольшым аўтарытэтам.



## Рада грамады

§ 11. Зборка (збор па-піянерску.— *А. Л.*) важакоў пад кіраўнцтвам праваднікa называецца Радай грамады.

§ 12. Рада грамады з'яўляецца дапаможным органам для праваднікa і судом для ваўчанятаў. Разам з праваднікoм Рада грамады абмяркоўвае планы працы, праграму заняткаў, гульняў і з'яўляецца сістэматычнай школай для важакоў.

§ 13. а) важакі не праводзяць самастойна зборак і іншых заняткаў, а толькі пад кіраўніцтвам і непасрэдным наглядам праваднікa;

б) раз у тыдзень праваднік збірае Раду грамады дзеля інфармавання важакоў аб гульнях, практыкаваннях і іншых занятках на бліжэйшых зборках і дзеля практычнай падрыхтоўкі важакоў, каб маглі яны ў час збораў свабодна практыкавацца з хлопцамі;

в) Раду грамады можа склікаць праваднік перад кожнай зборкай і тады, калі трэба нешта даручыць хлопцам;

г) на Радзе грамады могуць быць абмеркаваны і іншыя справы, як, напрыклад, кандыдатуры жадаючых уступіць у грамаду, навічкоў, паводзіны паасобных хлопцаў і спосабы ўздзеяння на іх і г. д.

§ 14. Важакі праз нейкі час павінны быць зменены, каб маглі і іншыя хлопцы навучыцца кіраваць шосткамі, арганізаваць працу, гульні і заняткі.

## Раздзел II. Праваднік ваўчанятаў

§ 15. а) праваднікoм ваўчанятаў называецца кожны старэйшы кіраўнік ваўчанятаў;

б) адрозніваюцца тры ступені кіраўніка ваўчанятаў:

малодшы праваднік;
праваднік;
старэйшы праваднік (скаўтмайстар).

§ 16. Ступень малодшага кіраўніка атрымоўвае

кіраўнік ваўчанятаў загадам штандаровага на аснове паспяхова адбытай пробы (вытрыманай пробы, здадзенага іспыту.— *А. Л.*) і ў паразуменні (са згоды.— *А. Л.*) з Галоўнай кватэрай ЗБСЧ.

§ 17. Малодшым правадніком можа быць скаўт пасля 15 гадоў, які мае ступень выведніка (адзнака юнака I класа) і вёў нейкі час з добрым поспехам скаўцкую дружыну.

### Проба на малодшага праваднiка

§ 18. У час пробы (іспыту — *А. Л.)* на малодшага праваднiка ваўчанятаў скаўт павінен паказаць, што ён:

1) умее весці зборкі ваўчанятаў на двары і ў памяшканні;

2) ведае арганізацыю, рэгуляміны, вымаганні пробаў (патрабаванні іспытаў.— *А. Л.*) на ступені і на адзнакі спраўнасцей, адзнакі, уніформу, словы прырачэння і права ваўчанятаў;

3) ведае некалькі танцаў, некалькі песняў, не менш 20 розных гульняў для ваўчанятаў;

4) пакажа некалькі прадметаў, зробленых самім, і падзеліцца ведамі з галіны майстравання;

5) ведае асноўныя падручнікі для ваўчанятаў, гісторыю скаўтынгу, найважнейшыя весткі з нашай гісторыі і літаратуры; пастаянна чытае часопісы для юнакоў і ваўчанятаў на беларускай і іншых мовах;

6) складзе і абгрунтуе план трохмесячнай працы і заняткаў грамады.

§ 19. Пробу на ступень малодшага праваднiка праводзіць камісія з трох асобаў пад кіраўніцтвам скаўтмайстра, скліканая штандаровым і зацверджаная Галоўнай кватэрай.

§ 20. Малодшы праваднік падтрымлівае сталы кантакт з праваднiком або старэйшым праваднiком і праводзіць заняткі паводле атрыманых інструкцый.

### Праваднiк

§ 21. Праваднiком ваўчанятаў можа быць старэйшы або сталы скаўт, які паспяхова здасць



прадбачаную рэгулямінам інструктарскую пробу і атрымае ступень падскаўтмайстра.

§ 22. Назначэнне на пасаду праваднiка ваўчанятаў адбываецца загадам шэфа ЗБСЧ на аснове вымаганняў § 21, 23, 24.

§ 23. Да пробы на ступень праваднiка ваўчанятаў можа быць дапушчаны старэйшы скаўт, які мае:

1) 18 гадоў;

2) ступень скаўта Пагоні;

3) прапанову штандаровага на інструктарскае шкаленне (інструктарскую падрыхтоўку.— *А. Л.*);

4) не менш аднаго года практыкі ў якасці (на пасадзе) малодшага праваднiка ваўчанятаў;

5) не менш 2 тыдняў працы ў скаўцкім табары (летніку.— *А. Л.*), не менш 2 тыдняў на кіраўнічай пасадзе ў летніку для ваўчанятаў

### Проба на праваднiка

§ 24. Вымаганні (патрабаванні.— *А. Л.*) пробы на праваднiка:

1) ведае і разумее ідэйныя асновы скаўтынгу, скаўцкую прысягу і права, ведае гісторыю міжнароднага і свайго скаўцкага руху, жыццё і дзейнасць Бі Пі, ведае сваю і міжнародную скаўцкую літаратуру, абавязкі скаўта і кіраўніка;

2) ведае метады працы з ваўчанятамі, на чым палягае ўплыў асяроддзя і выхаваўцы, якую ролю ў выхаванні дзяцей адыгрываюць гульні, заняткі на вольным паветры, у зале, у лесе; якая выхаваўчая роля майстравання, апавяданняў, скаўцкіх звычаяў, абрадаў, спеваў, танцаў, імпрэзаў і г. д. Ведае асновы псіхалогіі дзіцяці;

3) ведае праграмы зорак і спраўнасцей, ведае, як іх праводзіць у грамадзе. Ведае, як прышчапіць (прывіць.— *А. Л.*) хлопцам права ваўчанятаў. Ведае розныя іншыя рэгуляміны і інструкцыі для ваўчанятаў;

4) ведае, як павінен адносіцца праваднік да хлопцаў, да іх бацькоў, школы, царквы і да скаўцкіх уладаў;

5) ведае розніцу паміж заняткамі скаўтаў і гульнямі ваўчанятаў;
6) ведае, якое значэнне ў развіцці хлопцаў мае кіно, кніга, тэатр, радыё. Умее падабраць цікавыя і вартасныя рэчы з вымененых (розных.— *А. Л.*) галін і заахвоціць да іх хлопцаў;
7) накрэсліць (складзе.— *А. Л.*) план выхаваўчай працы ў грамадзе і правядзе паводле яго збор;
8) ведае падручнікі ў сваёй і чужой (іншай.— *А. Л.*) мове для ваўчанятаў і ўмее імі карыстацца. Ведае асноўныя скаўцкія падручнікі;
9) ведае, як вядзецца скаўцкая гаспадарка, рахунковасць, як арганізаваць скаўцкія прадпрыемствы, імпрэзы, экскурсіі, летнікі і г. д. Ведае правілы арганізацыі, кіравання і перадання (пераводу.— *А. Л.*) грамады ваўчанятаў скаўцкай адзінцы (у скаўцкую адзінку.— *А. Л.*). Ведае муштру (лепш шыхтаванне, ад старабеларускага слова «шыхт» — вайсковы строй.— *А. Л.*) для ваўчанятаў і скаўтаў;
10) складзе самастойна праграму працы грамады на год і абгрунтуе яе. Складзе план працы адной зборкі ў рамках гадавой праграмы;
11) выявіць здавальняючую дасведчанасць у розных галінах скаўцкіх ведаў і скаўцкай тэхніцы да ступені скаўта Пагоні ўключна;
12) вядзе без падрыхтоўкі розныя гульні і рухомыя практыкаванні;
13) выявіць дастатковыя веды з гісторыі Беларусі, беларускай літаратуры, народнай творчасці, культуры. Арыентуецца ў фізічнай і эканамічнай геаграфіі Беларусі і Еўропы, ведае асновы прыродазнаўства, гігіены і санітарыі. Ведае найважнейшыя дадзеныя з сусветнай гісторыі, цывілізацыі і тэхнікі. Умее падабраць цікавыя апавяданні для ваўчанятаў з розных галін;
14) скончыць спецыяльны курс для падскаўтмайстраў з паспяховым вынікам.

§ 25. Камісію для правядзення пробы на ступень падскаўтмайстра (правадніка) вызначае (прызначае.— *А. Л.*) Галоўная кватэра ЗБСЧ у складзе не менш 3 скаўтмайстраў.



### Старэйшы праваднік

§ 26. Старэйшы праваднік (скаўтмайстар) — гэта самастойны кіраўнік вышкалення (падрыхтоўкі.— *А. Л.*) ваўчанятаў, які фактычна арганізуе цэласць (усю.— *А. Л.*) выхаваўчай працы ў поўным маштабе. У сваёй працы павінен быць творчым, шукаць новых развязак розных праблемаў, звязаных з выхаваннем моладзі, паляпшаць метады працы і г. д.

§ 27. Старэйшым праваднікам назначае шэф ЗБСЧ аднаго з ліку звычайных скаўтмайстраў, які адбыў спецыяльныя курсы на старэйшых праваднікоў ваўчанятаў і мае за сабой больш чым 3-гадовую практыку працы з дзецьмі.

## Раздзел III. Прырачэнне і права ваўчанятаў

### Прырачэнне

§ 28. Прырачэнне ваўчанятаў:
«Прыракаю, колькі будзе ў маіх сілах,
служыць Богу і Бацькаўшчыне,
выконваць права ваўчанятаў і
штодзённа рабіць добры ўчынак».

§ 29. Тлумачэнне прырачэння:

**Прыракаю.** Ваўчок гэтым дае слова, ад якога не можа адступіць, што будзе выконваць свае абавязкі адносна Бога, Бацькаўшчыны, свайго правадніка і бацькоў. Калі хлопец не стрымлівае дадзенага слова і не хоча працаваць над сабой, не можа быць дапушчаны да прырачэння.

**Колькі будзе ў маіх сілах.** Стрымаць прырачэнне і выканаць яго наказы ваўчок павінен старацца ўсімі сваімі сіламі і жаданнямі, а калі часам збочыць, павінен мацаваць свае сілы і волю, каб стацца больш мужным і верным прырачэнню і праву.

**Служыць Богу.** Ваўчок ад самых маладых год павінен выхоўвацца ў любові да Бога і да яго твораў. Не баяцца Бога, але любіць Яго ўсім сваім сэрцам і рабіць усё, каб было мілае Богу. Служба

4. Зак. 210.

Богу ваўчка заключаецца галоўным чынам не на словах, а на паводзінах, на штодзённай працы над сабой, на добрых учынках бліжнім.

**І Бацькаўшчыне.** Ваўчок шануе свае нацыянальныя звычаі, цэніць больш за ўсе іншыя сваю мову, стараецца сваімі паводзінамі не панізіць нацыянальнага імя, любіць усё, што роднае, нацыянальнае: гісторыю свайго народу, вялікіх нацыянальных герояў, вучоных, паэтаў і пісьменнікаў, мастакоў і вынаходцаў, жаўнераў, князёў, што служылі для нашага народу.

**Выконваць права ваўчанятаў.** Ваўчок урачыста забавязваецца выконваць некалькі наказаў, паводле сваіх сілаў і стараньняў. Права ваўчанятаў — найважнейшыя наказы жыцця хлопца і падрыхтоўка да скаўцкага шляху.

**І штодзённа рабіць добры ўчынак.** Складаючы прырачэнне (пасля прырачэння.— *А. Л.*), ваўчок бярэ на сябе вялікі грамадскі абавязак: кожны дзень некаму зрабіць хоць адзін добры ўчынак, вялікі ці малы, у залежнасці ад магчымасцей і нагоды. Аб гэтым ён не можа забыцца, інакш парушае сваё прырачэнне і перастае быць ваўчком, бо добры ўчынак, выкананы штодня,— доказ працы над сабой ваўчка і вялікая служба Богу і Бацькаўшчыне.

### Права ваўчанятаў

§ 30. Права ваўчанятаў:

1) **ваўчок любіць сваю Бацькаўшчыну.** Перш за ўсё любіць сваю родную мову, свае песні, танцы, звычаі і ўсіх сваіх суродзічаў. У школе вучыцца добра, каб быць карысным сваёй Бацькаўшчыне. У грамадзе стараецца здабыць найлепшыя вынікі, каб імя яе сталася слаўным. Ваўчок з любоўю адносіцца да нацыянальных эмблемаў, да нацыянальных герояў і змагароў, да нацыянальных легендаў, казак, да сваёй нацыянальнай гісторыі. Ён мужна выступае супраць кожнага, хто словам зневажае або дрэнна выказваецца аб нашым народзе, Бацькаўшчыне і аб усім, што называецца беларускім;



2) **ваўчок паслухмяны сваім бацькам і праваднiку.** Дадзеныя бацькамі ці праваднiком даручэнне або наказ ваўчок мусіць выканаць неадкладна, хоць яму гэта не падабаецца або не хочацца рабіць. Ваўчок не можа сказаць: «я не хачу», «я не пайду» і кожнае даручэнне выконвае ахвотна і радасна. Прыемнасць і адпачынак адкладае на потым, перш выконвае наказ або даручэнне, ці свой абавязак;

3) **ваўчок заўсёды мужны.** Мужны ў гульнях і практыкаваннях, у школе і дома. Развівае сваю сілу, спрыт, арыентацыю, гартуе сваё здароўе, пераносіць няўзгоды і цяжкасці, перамагае страх і слабасць. Мужны таксама ў словах і ўчынках: гаворыць праўду, мае адвагу прызнацца да правіны (да віны.— *А. Л.*) і мужнасць паправіцца (папрасіць прабачэння.— *А. Л.*). Не ўжывае брыдкіх і непрыстойных слоў, стараецца быць усюды акуратным, чыстым, ветлівым і сяброўскім;

4) **ваўчок стараецца быць штораз лепшым.** Ваўчок не можа сказаць, што ён дасягнуў ужо найлепшых поспехаў у школе, у грамадзе, у сваіх паводзінах. Кожны дзень стараецца быць лепшым ва ўсім: лепей вучыцца, быць старанным, паслухмяным, ветлівым, сяброўскім, акуратным і г. д.

## Раздзел IV. Утварэнне новай грамады ваўчанятаў

§ 31. а) калі праваднік ведае хлопцаў і ўпэўнены, што яны будуць добрымі ваўчанятамі, можа на адным з першых збораў правесці некалькі пробных практыкаванняў, на аснове якіх прыступіць да арганізавання грамады;

б) калі не ведае добра хлопцаў — не павінен адразу прыступаць да арганізавання грамады, але праз нейкі час праводзіць падрыхтоўчую дзейнасць дзеля ўсебаковага пазнання хлопцаў, каб адразу правільна распачаць працу, адпаведную іх зацікаўленням, узроўню, асяроддзю і г. д.;

в) падрыхтоўчы тэрмін не павінен быць даўжэйшы за два месяцы.

§ 32. Сам момант арганізавання грамады ваўчанятаў павінен адбыцца ўрачыста, адначасова складаецца акт заснавання грамады ў хроніцы грамады. Усе хлопцы ўласнаручна падпісваюцца на гэтым дакуменце, або адціскаюць указальныя пальцы. Апрача гэтага дакументу можа быць зроблена кароткая запіска на паперы або іншым матэрыяле гэткага зместу:

«Дня ........ 19.... паўстала грамада ваўчанятаў (назоў, напрыклад «Белавежскія асілкі») у .............. (мясцовасць)»

і гэтую запіску ў закрытай бутэльцы тайна закапаць або схаваць у іншым сакрэтным месцы. Гэтае месца ваўчаняты павінны добра запомніць і даць слова, што нікому не скажуць.

### Прыняцце ў грамаду

§ 33. Прыняцце кожнага новага хлопца або некалькі хлопцаў у грамаду адбываецца ўрачыста. На радзе грамады хлопцы самі запрапануюць, якія пробы (іспыты, экзамены.— *А. Л.*) павінен выканаць новаўступаючы. Пробы не павінны быць цяжкімі.

§ 34. Урачыстасць прыняцця новага хлопца адбываецца так. Пасля ўступнай пробы ўся грамада становіцца паўколам. Наперадзе праваднік, а перад ім кандыдат (кандыдаты).

**Праваднік:** «Ці хочаш належаць да вялікай грамады ваўчанятаў?»

Кандыдат: «Так».

Хлопцы: «Ці ведаеш права ваўчанятаў?»

Кандыдат: «Так».

Праваднік: «Калі ведаеш права ваўчанятаў, то скажы перад грамадой ваўчанятаў».

Кандыдат голасна кажа права ваўчанятаў, упісвае сваё прозвішча ў хроніку грамады і адціскае свой указальны палец. Пасля хлопцы бяруць кандыдата ў сваё кола, сплятаюць рукі па-сяброўску, а праваднік урачыста абвяшчае:



«НН, прымаю цябе ў вялікую грамаду ваўчанятаў».

У гонар прынятага на знак праваднікa хлопцы тройчы крычаць «Жыве!». На заканчэнне пяюць вясёлыя ваўчаняцкія песні.

§ 35. Новаўступаючы кандыдат павінен мець пісьмовую згоду на ўступленне ў грамаду ад сваіх бацькоў.

## Раздзел V. Пробы на зоркі

### Падзел

§ 36. Ваўчаняты дзеляцца ў залежнасці ад індывідуальнай падрыхтоўкі на тры ступені:

1. Ваўчаняты 1-ай зоркі.
2. Ваўчаняты 2-ой зоркі.
3. Ваўчаняты 3-яй зоркі.

**1-ая зорка**

§ 37. а) ваўчком 1-ай зоркі можа быць хлопец ад 7 да 11 год пасля 3-месячнага знаходжання ў грамадзе, калі выявіць акуратнасць у наведванні заняткаў і паслухмянасць у выкананні наказаў праваднікa;

б) мае кніжачку грамады ўстаноўленай формы.

§ 38. Пры ўмовах, пададзеных у § 37, кандыдат на 1-ую зорку павінен:

1) ведаць на памяць прырачэнне і права ваўчанятаў, можа растлумачыць іх значэнне;

2) расказаць пра хлопца, які можа быць ваўчком;

3) ведаць прывітанне, кліч і адзнакі ваўчанятаў;

4) быць ветлівым і слухацца старэйшых;

5) ведаць прозвішчы і адрасы праваднікa і свайго важака;

6) сачыць за чысцінёй цела і вопраткі, прыходзіць чыстым на зборку;

7) ведаць тры агульныя гульні, тры са спевам, тры рухомыя;

8) расказаць тры казкі, тры вершы, праспяваць тры песні, станчыць адзін танец;

9) паспяхова адбыць пробы:

а) арыентацыі: напрыклад, у гульнях Кіма — знойдзе схаваны гадзіннік (слых), аловак (зрок), цыбулю (нюх);

б) спрыту: напрыклад, бегае з кніжкай на галаве, скача з каменя на камень, ловіць мячык некалькімі спосабамі;

в) адвагі: напрыклад, скача з завязанымі вачыма з крэсла, пераскочыць невялікае вогнішча, роў, скача адразу ў ваду пры купанні, увойдзе ў цёмнае памяшканне.

§ 39. Проба на першую зорку не павінна мець характару школьнага экзамену. Праваднік на аснове трохмесячнага назірання за кандыдатамі павінен вырашыць — дапускаць іх да пробы ці не. Калі дапусціць — гэта з'яўляецца вырашаючым для атрымання зоркі. Проба з'яўляецца толькі ўрачыстай формай прызнання зоркі. Нельга, аднак, зусім адмовіцца ад правядзеня пробы, бо гэта прынізала б у вачах хлопчаў вартасць здабытых спраўнасцей і зорак. Праваднік задае кожнаму кандыдату два-тры пытанні з вымаганняў (патрабаванняў.— *А. Л.*) пробы і адзначае (выстаўляе.— *А. Л.*) у сваёй кніжцы адпаведныя ацэнкі, кажучы ў голас выстаўленую ацэнку.

**Цырымонія**

§ 40. Проба адбываецца (праходзіць.— *А. Л.*) наступным чынам. Грамада сядзіць у вялікім крузе са скрыжаванымі нагамі. Праваднік трымае кніжку з прозвішчамі кандыдатаў, якіх па чарзе выклікае, патрабуючы выканаць адпаведны пункт пробы (адказаць на адпаведны пункт пробы.— *А. Л.*). Калі кандыдат памыліцца — можа паўтарыць. Пасля заканчэння пробы праваднік яшчэ раз падае вынікі і назначае дзень, калі здаўшыя пробу будуць урачыста складаць (аддаваць.— *А. Л.*) прырачэнне і атрымаюць 1-ую зорку.

**2-ая зорка**

§ 41. Да пробы на другую зорку можа быць дапушчаны хлопец, які пасля атрымання 1-ай



зоркі адбудзе не менш 6 месяцаў у грамадзе і пакажа, што стараецца весці сябе (паводзіць.— *А. Л.*) згодна (адпаведна.— *А. Л.*) з правам ваўчанятаў, карысны дома, слухаецца сваіх бацькоў і праваднікa, добра вучыцца і ўмее жыць у грамадзе.

§ 42. Для атрымання 2-ой зоркі кандыдат павінен ведаць наступнае:

1) сцяг, герб і нацыянальны гімн; ведае як вывесіць сцяг, як аддаецца пашана перад сцягам у час выконвання нацыянальнага і скаўцкага гімнаў;

2) ведае некалькі легендаў з гісторыі Беларусі;

3) назаве важнейшыя гарады, рэкі, азёры і лясы Беларусі;

4) назаве найбольш распаўсюджаныя расліны, дрэвы ў Еўропе, адрозніць расліны і грыбы шкодныя ад няшкодных;

5) умее захоўвацца (прыстойна паводзіць сябе.— *А. Л.*) сярод старэйшых і сваіх кіраўнікоў;

6) дбае аб чысціні цела (заўсёды чыстыя рукі, ногці, ногі, зубы, вушы); ведае чаму трэба ўсё захоўваць у чысціні, чаму трэба дыхаць носам;

7) ведае як прадухіліць некаторыя хваробы: прастуду, хваробу жывата, скурныя хваробы і г. д.;

8) акрэсліць (вызначыць.— *А. Л.*) час паводле гадзінніка, кірункі (напрамкі.— *А. Л.*) свету паводле компасу і сонца;

9) ведае тайнае пісьмо і тайныя знакі сваёй грамады;

10) раскажа аб жыцці аднаго звера;

11) выканае два даручэнні са штодзённага жыцця: напрыклад, вышле ліст, затэлефануе, завядзе да лекара, купіць нешта ў краме;

12) хутка і ціха выконвае даручэнні праваднікa ў час гульняў і загадаў, выданых (пададзеных.— *А. Л.*) уголас або знакамі;

13) пераскочыць праз роў, пералезе праз плот, улезе на дрэва, пераскочыць праз шнурок, перакідаецца (перакульваецца, куляецца.— *А. Л.*) рознымі спосабамі;

14) ведае 5 гульняў, 2 танцы, спявае не менш 5 песняў;
15) умее прышыць гузік, зашыць вопратку.

**3-яя зорка**

§ 43. Да пробы на 3-юю зорку можа быць дапушчаны хлопец не раней як пасля 6-месячнага знаходжання ў грамадзе пасля атрымання 2-ой зоркі, калі:
1) вядзе (паводзіць.— *А. Л.*) сябе прыкладна;
2) выконвае ўсе даручэнні бацькоў, настаўнікаў, праваднiка ахвотна i акуратна;
3) утрымоўвае ў парадку сшыткі і кніжкі;
4) жыве ў добрай згодзе з сябрамі, не дражніць іх і не ўжывае брыдкіх слоў.
§ 44. Пры ўмовах § 43 трэцюю зорку можа атрымаць хлопец, калі:
1) ведае на памяць нацыянальны гімн, раскажа пра некалькіх нашых герояў;
2) пакажа на карце граніцы (межы) Беларусі, рэкі, важнейшыя гарады, распавядзе, чым займаюцца беларусы і якія ў іх ёсць багацці;
3) раскажа аб беларускіх плямёнах і іх жыцці ў старадаўнія часы;
4) ведае на памяць права і прырачэнне вўчанятаў і іх вытлумачыць, ведае гімн і песню вўчанятаў; раскажа аб арганізацыі вўчанятаў;
5) ведае што рабіць, калі замочыць ногі або прамокне ад дажджу, умее перавязаць палец, ведае, што зрабіць у выпадку пабіцця; разумее небяспеку занячышчэння (занясення інфекцыі, бруду.— *А. Л.*) ранаў, умее ціха і зручна ўслужыць хвораму;
6) вычысціць абутак і вопратку, старанна яе паложыць, зробіць невялікія направы (рамонт.— *А. Л.*) вопраткі;
7) распаліць вогнішча не больш як трыма сярнічкамі (запалкамі.— *А. Л.*), прыгатовіць (нарыхтуе.— *А. Л.*) дровы, напаліць у печы, ведае небяспеку агню;
8) зробіць нейкі прадмет з дрэва, металу, гліны і г. д. паводле свайго помыслу (меркавання.— *А. Л.*) і пакажа на пробе;



9) раскажа падрабязна аб жыцці аднаго звера, птушкі (як жыве, якую прыносіць карысць або шкоду для чалавека);
10) арыентуецца ў кірунках (напрамках.— *А. Л.*) свету паводле зорак, моху, сонца, компасу і гадзінніка;
11) ведае ўмоўныя знакі: напісаныя, дадзеныя рухамі і свістком;
12) прабяжыць вызначаную дарогу з вусным даручэннем, складзеным з 10 слоў і дакладна іх паўторыць;
13) напіша пра цікавае здарэнне з жыцця сваёй грамады;
14) ведае альфабэт глуханямых і тайную мову вўчанятаў;
15) умее гуляць у 10 гульняў, спяваць большасць песняў сваёй грамады і раскажа цікавае апавяданне або казку;
16) выявіць спраўнасць у некалькіх гульнях — арыентацыі, спрыту, адвагі, памяці, спасцерагаўчасці (перасцярогі.— *А. Л.*).
§ 45. Увагі адносна складання пробаў (здачы экзаменаў, іспытаў.— *А. Л.*) на 1-ую зорку (§ 39—40) маюць застасаванне (месца.— *А. Л.*) і пры складанні пробаў на 2-ую і 3-юю зоркі.

**Складанне прырачэння** (аддаванне прысягі.— *А. Л.*)

§ 46. Урачыстасць складання прырачэння адбываецца пры наступнай цырымоніі.
Грамада вўчанятаў стаіць у вялікім коле. У цэнтры — праваднік, а побач з ім першы важак са сцяжком і гербам грамады. Вўчаняты, якія будуць атрымліваць 1-ую зорку і складаць прырачэнне, утвараюць каля праваднiка меншае кола. Урачыстасць пачынаецца песняй вўчанятаў. Потым праваднік кажа кароткую прамову аб значэнні прырачэння і аб значэнні зорак. Пасля гэтага паміж праваднікам і хлопцамі, якія складаюць прырачэнне, адбываецца наступная гутарка:
Праваднік: «Ці ведаеш права вўчанятаў?»
Кандыдат: «Так».

Праваднік: «Ці ты гатовы заўсёды і ўсюды яго выконваць?»

Кандыдат: «Так, заўсёды гатовы!»

Праваднік: «Калі ведаеш права ваўчанятаў і хочаш жыць паводле яго, то можаш злажыць прырачэнне».

Праваднік дае каманду: «Да — прырачэння!»

Хлопцы становяцца на «Зважай», падносяць два пальцы правай рукі на вышыню вачэй, як пры ваўчаняцкім прывітанні, а кандыдат кажа тэкст прырачэння. Сказаўшы тэкст, кандыдат і хлопцы апускаюць рукі. Праваднік: «Я ўпэўнены, што будзеш верны прырачэнню і добрым ваўчком 1-ай зоркі». Пасля праваднік прычапляе яму зорку і падае яму левую руку. Ваўчок аддае пашану праваднiку, паварочваецца, вітае сваіх сяброў. Хлопцы адказваюць прывітаннем. Ваўчок адыходзіць ад вялікага кола.

Калі ўсе хлопцы складуць прырачэнне і атрымаюць зоркі, грамада спявае гімн ваўчанятаў, танцуе танец ваўчанятаў і робіць памятны знак на дрэўцы гербу. На заканчэнне на прапанову праваднiка грамада ў гонар злажыўшых прырачэнне і атрымаўшых зоркі тройчы ўзнёсла паўтарае кліч «Жыве!».

§ 47. Пры ўручэнні 2-ой і 3-яй зорак паўтараецца прырачэнне. У сувязі з гэтым у § 46 уводзяцца некаторыя змены:

Праваднік: «Ці ты гатовы далей працаваць над сабой, каб быць вартым 2-ой (3-яй) зоркі?»

Кандыдат: «Гатовы».

Праваднік: «На доказ сваёй гатоўнасці паўтары прырачэнне ваўчанятаў!».

Кандыдат паўтарае прырачэнне, падносячы два пальцы правай рукі. Хлопцы салютуюць. Потым усе апускаюць рукі.

Праваднік: «Я ўпэўнены, што ты будзеш верным прырачэнню і добрым ваўчком 2-ой (3-яй) зоркі».

Начапляе зорку і падае руку. Ваўчок салютуе праваднiку, робіць зварот (паварот.— *А. Л.*) і салютуе хлопцам (хлопцы адказваюць прывітаннем)



і ўступае ў вялікае кола. Пяецца гімн ваўчанятаў і адбываецца самадзейнасць. На заканчэнне — тройчы «Жыве!».

## Раздзел VI. Спраўнасці ваўчанятаў

§ 47. Апрача трох зорак кожны хлопец на працягу свайго знаходжання ў грамадзе павінен здабыць не менш 12 спраўнасцяў.

§ 48. а) для атрымання 2-ой зоркі вымагаецца (неабходна.— *А. Л.*) апрача агульных дасягненняў здабыццё наступных спраўнасцей: **спартовец, кухар, круціґалоўка, ганец, плывец;**

б) для атрымання 3-яй зоркі вымагаюцца спраўнасці: **сігналіст, майстра, прыяцель звяроў, санітар, цыкліст** (веласіпедыст.— *А. Л.*);

в) апрача гэтых абавязковых спраўнасцей устанаўліваюцца наступныя адзнакі спраўнасцей для ваўчанятаў:

актор,
дэкламатар,
жартаўнік,
купец,
лясны дух,
лётчык,
лыжнік,
марак,
музыка,
прыяцель птушак,
рабінзон,
рысаўнік (мастак.— *А. Л.*),
следаход,
спявак,
стралец,
танцор,
танкіст,
філатэліст,
чыгуначнік.

**§ 49. Спартовец**

1. Любіць спартовыя гульні з мячом і без мяча. 2. Ахвотна займаецца гімнастыкай. 3. Зробіць некалькі практыкаванняў на турніку. 4. Скочыць уверх на 110 см, у даўжыню 250 см, прабяжыць 50 м за 7 сек. 5. Трапляе мячом у цэль, кідае камень на вялікую адлегласць. 6. Улезе на дрэва, пералезе цераз плот вышынёй 2 м з дапамогай сябра, пераскочыць роў у 1 м. 7. Стане на руках і перакуліцца некалькімі спосабамі. 8. Пройдзе па вузкай кладцы. 9. Гуляе ў 5 рухомых гульняў. 10. Затанчыць спрытны танец ваўчанятаў.

§ 50. **Кухар**

1. Распаліць агонь у полі і ў печы. 2. Зварыць каву, малако, бульбу, кашу, зацірку, крупнік і яйкі. 3. Прырыхтуе да варкі буракі, моркву, бульбу. Падрыхтуе хлеб да ежы. 5. Зварыць абед на тры асобы.

§ 51. **Круцігалоўка**

1. Разгадае лёгка загадкі, круцігалоўкі (галаваломкі.— *А. Л.*), рэбусы з дзіцячых часопісаў. 2. Сам прыдумвае загадкі і круцігалоўкі. Ведае некалькі рахункавых штучкаў, як, напрыклад, адгадае задуманую лічбу, укладзе магічныя квадраты.

§ 52. **Ганец**

1. Ведае ў сваёй аколіцы розныя крамы: спажывецкія, пісьмовыя, галантэрэйныя, сталоўкі, кнігарні, краўца, шаўца, цырульніка. 2. Завядзе да лекара, у аптэку, да пажарнай аховы, на пошту. 3. Занясе пісьмо да мясцовага скаўцкага кіраўніцтва. 4. Заадрасуе звычайны ліст і вышле поштай. 5. Выканае і іншыя даручэнні ганца. 6. Ведае скаўцкія ўмоўныя знакі, знакі валацужнікаў (вандроўнікаў, падарожнікаў.— *А. Л.*) і найважнейшыя дарожныя знакі. 7. Пакажа напрамкі свету ў месцы свайго жыхарства, вызначыць компасам напрамкі свету. 8. Вернецца дадому з адлегласці 3 км з невядомай мясцовасці.

§ 53. **Плывец**

1. Пераплыве жабкай 25 м. Плавае некалькімі спосабамі. 2. Пераплыве ў лёгкай вопратцы 15 м вольным стылем. 3. Умее ныраць і скача адразу ў ваду з вышыні 1,5 м.

§ 54. **Сігналіст**

1. Паслугоўваецца (разумее.— *А. Л.*) знакамі сваёй грамады, дадзенымі рукой, свістком і сцяжком. Ведае і карыстаецца скаўцкімі знакамі ў тэрэне (мусіць дадзенай мясцовасці.— *А. Л.*). 2. Ведае тайныя знакі грамады. 3. Ведае сігналы (знакі.— *А. Л.*), размешчаныя ў найбліжайшых ваколіцах, напрыклад, сігналы вулічнага руху ў горадзе, на чыгунцы, дарожныя і рачныя. Запомніць даручэнне з 12 слоў і пасля пяці мінут



паўторыць. 5. Ведае альфабэт (азбуку.— *А. Л.*) глуханямых.

§ 55. **Майстра**

1. Умее карыстацца пілкай, нажом, долатам і гэблікам. 2. Зробіць з дрэва, паперы, гліны, метала некалькі мадэляў, напрыклад, возік, санкі, самаход, танк, самалёт. 3. Умее склеіць пабіты сподак, талерку, кубак. 4. Аправіць невялікую кніжку. 5. Зробіць мятлу. 6. Зашые вопратку, зробіць невялікую направу абутку. 7. Умее паслугоўвацца (карыстацца.— *А. Л.*) малатком, абцугамі, нажніцамі для бляхі. 8. Паправіць зламаную лаўку, столік і інш.

§ 56. **Прыяцель звяроў**

1. Гадуе нейкага звярка і наглядае за яго жыццём штодзённа. 2. Раскажа, як гэты звярок праводзіць дзень, як спіць, шукае ежу, гуляе, каго найбольш любіць. 3. Гуляе са сваім звярком, корміць яго і ўтрымоўвае ў чысціні. 4. Намалюе свайго звярка і яго след (троп). 5. Раскажа аб жыцці дзікіх звяроў на Беларусі: ваўка, мядзведзя, лісіцы, барсука, вавёркі, зубра.

§ 57. **Санітар**

1. Умее зрабіць невялічкую перавязку. 2. Ведае дэзінфіцыйныя сродкі і як імі карыстацца. 3. Ведае небяспеку занячышчэння (занясення бруду.— *А. Л.*) ранаў, прастуды, піцця неператаранай вады. 4. Старанна захоўвае ў чысціні зубы, вушы, валасы, рукі, ногі. 5. Умее апекавацца над хворым, утрымліваць у чысціні пакой хворага. 6. Змерае тэмпературу хворага, ведае, дзе знаходзіцца аптэка, лекар, тэлефон, выкліча лекара да хворага.

§ 58. **Цыкліст** (веласіпедыст.— *А. Л.*)

1. Сядзе і саскочыць з самаката. 2. Спраўна ездзіць. 3. Абмінае спраўна перашкоды і гамуе (відаць, рамантуе колы.— *А. Л.*). 4. Праедзе па кладцы і зробіць васьмёрку (радыус — 5 м). 5. Ведае найважнейшыя правілы руху. 6. Ведае найважнейшыя часткі самаката. 7. Захоўвае самакат у чысціні.

§ 59. **Актор**

1. Умее вясёла і забаўна распавядаць апавядан-

ні, казкі. 2. Дэкламуе прыгожа вершы. 3. Заспявае некалькі песняў і навучыць сваіх сяброў. 4. Бярэ ўдзел у інсцыніроўках на сцэне і пры вогнішчы. 5. Станцуе некалькі танцаў.

§ 60. **Дэкламатар**

1. Умее прыгожа дэкламаваць вершы, апавяданні, казкі. 2. Заінсцэніруе (пакажа невялічкія сцэнкі.— *А. Л.*) некалькі вершаў і навучыць іншых хлопцаў прыгожа дэкламаваць. 3. Выпіша прыгожыя вершы, апавяданні, казкі, песні, жарты ў свой сшытак. 4. Сам складае кароткія вершыкі і жарцікі.

§ 61. **Жартаўнік**

1. Заўсёды вясёлы. Умее развесяліць грамаду гульнямі, спевамі, жартамі, танцамі і рознымі штучкамі. 2. Зайграе на гармоніку да танца, на грабяні ці на іншым простым інструменце. 3. Намалюе нешта вясёлае, скажа некалькі вершыкаў вясёлага зместу. 4. Пагледзіць вясёлую сцэну з жыцця грамады і пасля яе заінсцэніруе.

§ 62. **Купец**

1. Ведае, якія крамы знаходзяцца ў ягонай ваколіцы. 2. Зробіць у краме некалькі закупаў (пакупак.— *А. Л.*). 3. Умее кіраваць крамікам ваўчанятаў, прадаваць розныя рэчы і абслугоўваць кліентаў. 4. Зробіць акуратную ўпакоўку. 5. Ведае добра таблічку множання, умее даваць, адымаць, дзяліць да тысячы.

§ 63. **Лясны дух**

1. Мае сваё сховішча на дрэве ў лесе. Ведае ваколіцу на 250 м ад свайго дрэва. 3. Ведае звяркоў, якія жывуць у лесе, адрозніць іх галасы, некаторыя падробіць. 4. Пакажа найважнейшыя гатункі лясных дрэваў, кустоў, ягады і грыбы, якія можна спажываць. 5. Ведае лясныя кветкі. 6. Раскажа легенды аб кветцы папараці. 7. Ведае вершыкі аб лесе і казкі аб лясных духах.

§ 64. **Лётчык**

1. Зробіць мадэль самалёта, некалькі тыпаў змеяў-лятуноў. 2. Робіць забаўкі з прапелерам. 3. Зробіць парашут. 5. Акрэсліць рознымі спосабамі кірункі ветру, кірункі (напрамкі.— *А. Л.*) свету. 6. Выяўляе ў гульнях адвагу і спрыт.



§ 65. **Лыжнік**

1. Спраўна ездзіць на каньках. 2. Сам накладае канькі, умее захоўваць абутак. На лёдзе іншым не перашкаджае. 3. Дасць сабе раду (ведае што рабіць.— *А. Л.*) у выпадку адмарожвання. 4. Ездзіць на санках. 5. Трымаецца добра на лыжах. Праедзе 1 км на плоскім тэрэне (мясцовасці.— *А. Л.*). Спусціцца з горкі ў 10 м вышыні і ўзыйдзе на яе на лыжах. 6. Умее кансэрваваць (замазваць, захоўваць.— *А. Л.*) лыжы.

§ 66. **Марак**

1. Адважны, спрытны і дужы. 2. Умее добра плаваць і ныраць, скача проста ў ваду. 3. Ходзіць па дошцы з цяжаром і без, па драбіне і ўлазіць на машт (мачту.— *А. Л.*). 4. Умее кіраваць лодкай і веславаць. 5. Умее карыстацца ларнэткай (манокль у аправе.— *А. Л.*), компасам. 6. Ведае марацкія спосабы вязання вузлоў. 7. Прачытае кніжку аб марскіх падарожжах і прыгодах. Збудуе мадэль вадаплава. 9. Заспявае некалькі песняў маракоў. Адбудзе не менш двух гадзін падарожжа лодкай або параходам.

§ 67. **Музыка**

1. Умее зайграць з памяці лёгкія мелодыі на якім-небудзь інструменце. 2. Зайграе некалькі ваўчаняцкіх песняў і народных мелодый да танца. 3. Грае на зборках і ўрачыстасцях грамады. Ведае некалькі музычных інструментаў, распазнае іх па гуках. 4. Раскажа цікавую гісторыю з жыцця музыкаў.

§ 68. **Прыяцель птушак**

1. Ведае восем відаў птушак: верабей, сінічка, дзяцел, шчыгол, дрозд, ластаўка, бусел, жораў, зязюля, сава, варона, крумкач. 2. Ведае, чым кормяцца, як будуюць гнёзды, якія ў іх галасы. 3. Пазнае па голасу птушку. 4. Збудуе домік для птушак, зімой іх корміць. 5. Раскажа на зборцы цікавае апавяданне з жыцця птушак. 6. Збярэ калекцыю малюнкаў з рознымі птушкамі ў асобным сшытку.

§ 69. **Рабінзон**

1. Мае сваё сховішча добра замаскіраванае. 2. Ведае ваколіцу ў адлегласці 500 м ад свайго сховішча (сцежкі, мурашнікі, гнёзды, цікавыя дрэвы, крынічкі і г. д.). 3. Зробіць зброю і строй лясного чалавека. 4. Распаліць агонь без запалак (красаваннем) (пры дапамозе старадаўняга крэсіва.— *А. Л.*) і прыгатовіць сабе ежу з прадуктаў, якія здабыў сам. 5. Умее падаваць сігналы. 6. Прачытае кніжку «Рабінзон Круза».

§ 70. **Рысаўнік** (мастак.— *А. Л.*)

1. Прыгожа нарысуе і размалюе некалькімі колерамі малюнак да апавядання. 2. Зробіць выразанку (выцінанку.— *А. Л.*) з паперы. 3. Старанна нарысуе герб сваёй грамады. 4. Упрыгожвае хроніку грамады рознымі малюнкамі і ахвотна выконвае патрэбныя рысункі і малюнкі ў грамадзе.

§ 71. **Следаход**

1. Умее карыстацца скаўцкімі знакамі і іх распазнае. 2. Распазнае сляды сваіх сяброў, каня, сабакі, каровы, авечкі, курыцы, зайца. 3. Умее наблізіцца да звера. 4. Ведае жыццё дзікіх звяроў, якія спатыкаюцца (сустракаюцца.— *А. Л.*) у нас найчасцей. 5. Нарысуе звярка і ягоны троп. 6. Ведае не менш 5 гульняў з следаходства. 7. Ведае спосабы маскіравання, падрабляе галасы дзікіх звяроў.

§ 72. **Спявак**

1. Заспявае некалькі песень. 2. Навучыць хлопцаў спяваць некалькі песень. 3. Пачынае песні ў грамадзе. 4. Выступае са спевам сола. 5. Мае ў сваім сшытку перапісаныя вайчаняцкія і іншыя дзіцячыя песні.

§ 73. **Стралец**

1. Зробіць лук і стрэлы. 2. З 10 стрэлаў на адлегласці 8 м трапіць не менш 5 разоў у круг (дыяметр 30 см). Страляе стоячы і кленчачы (з калена.— *А. Л.*). 4. Захоўвае асцярожнасць пры стралянні. 5. Зробіць пісталет, стрэльбу, кідаючы стрэлы. Кідае трапна каменнямі правай і левай рукой. 6. Страляе з рагаткі на 25 м (2 трапныя на пяць стрэлаў) у круг 20 см.



§ 74. **Танцор**

1. Спрытна танчыць, не менш два нацыянальныя танцы (напрыклад, Лявоніху, Юрачку, Мяцеліцу). 2. Бярэ ўдзел у аматарскіх пастаноўках з танцамі і спевамі. 3. Ведае не менш двух пластычных танцаў, затанцуе пад лягчэйшыя мелодыі. 4. Выканае танец уласнай кампазіцыі.

§ 75. **Танкіст**

1. Зробіць мадэль танка і раскажа аб паасобных частках мадэлі. 2. Адрозніць тыпы танкаў. 3. Прачытае кніжку аб танках для дзяцей. 4. Збірае малюнкі розных танкаў. 5. Ведае значэнне танкаў. Глядзіць фільмы, дзе паказана танкавая вайна.

§ 76. **Філатэліст**

1. Стала збірае паштовыя маркі. 2. Мае старанны (акуратны.— *А. Л.*) альбом паштовых марак. 3. Адрозніць краіны паходжання марак. 4. Умее выменьваць і камплектаваць маркі ў сваім альбоме. 5. Раскажа хлопцам аб розных краінах, ілюструючы апавяданне паштовымі маркамі.

§ 77. **Чыгуначнік**

1. Збудуе з дрэва цягнічок. 2. Ведае чыгуначныя знакі. 3. Ведае найважнейшыя правілы руху на чыгунцы. 4. Купіць білет і паедзе ў іншы горад цягніком. 4. Пакажа на карце чыгуначныя лініі і масты. 5. Прачытае кніжку з жыцця маладых чыгуначнікаў.

§ 78. **Прызнанне спраўнасцей**

а) проба на прызнанне спраўнасцей адбываецца падобна, як проба на зоркі. Праводзіць яе спецыяльная камісія ў складзе 3 асобаў, вызначаная штандаровым і зацверджаная Галоўнай кватэрай ЗБСЧ. На чале камісіі стаіць скаўтмайстар. Проба мае практычны характар;

б) прызнанне спраўнасцей адбываецца ўрачыста. Хлопцы прыходзяць на зборку з усімі прадметамі, якія яны зрабілі з галіны дадзенай спраўнасці (напрыклад, лётчык прыносіць мадэль самалёта, стралец — зброю і г. д.). Можна таксама запрасіць сапраўднага спецыяліста, дзеля ўручэння адзнакаў спраўнасцей;

в) адзнакі спраўнасцей павінны быць выкананы

эстэтычна паводле пададзеных у рэгуляміне ўзораў. Да адзнакі прычапляецца стужка з выпісаным прозвішчам хлопца. Адзнакі ўкладаюцца на прыгожай падушачцы. Апрача гэтага павінен быць падрыхтаваны малаток і цвікі для прымацавання стужак да дрэўца гербу грамады.

§ 79. **Урачыстасць уручэння адзнакі**

Сама ўрачыстасць уручэння адзнакі спраўнасці можа адбывацца наступным спосабам.

Хлопцы становяцца вялікім паўколам. На сярэдзіне — герб грамады і сцяжок. Грамада спявае песню ваўчанятаў. Пасля праваднік зачытвае прозвішчы хлопцаў, якія будуць атрымліваць адзнакі спраўнасцей. Выкліканыя хлопцы падыходзяць да гербу грамады і становяцца меншым паўколам. Праваднік коратка прамаўляе, заахвочваючы ўсіх яшчэ болей працаваць над сабой, каб асягнуць далейшыя (авалодаць іншымі.— *А. Л.*) адзнакі. Пасля бярэ падушачку з адзнакамі і выклікае хлопцаў, чытаючы прозвішчы са стужак. Выкліканы падыходзіць да правадніка, які кажа:

«Прызнаю табе адзнаку спраўнасці (назоў). Змагайся за здабыццё далейшых спраўнасцей».

Хвіліна цішыні. Праваднік прычапляе адзнаку на правым рукаве хлопца і апошні салютуе і адыходзіць у вялікі паўкруг, а стужачку прымацоўвае праваднік да дрэўца герба грамады. Цырымонія гэткая паўтараецца пры прызнаванні адзнакі спраўнасці кожнаму хлопцу. На заканчэнне хлопцы спяваюць гімн ваўчанятаў. Можа адбыцца паказ дзіцячай самадзейнасці.

Герб са стужкамі адносіцца ў скаўцкую святліцу. Зборка канчаецца клічам «Жыве!» у чэсць (гонар.— *А. Л.*) атрымаўшых адзнакі спраўнасцей. **Увага:** Здабытая і прызнаная спраўнасць упісваецца правадніком у кніжачку ваўчка.

## Раздзел VII. Прывітанне і кліч

§ 80. Ваўчаняты вітаюцца між сабой, са скаўтамі і кіраўнікамі, калі маюць галаўны ўбор,



прыкладаючы два пальцы правай рукі да накрыцця галавы (берэт) над правым вокам. Пальцы трохі расхілены, сімвалізуюць ваўчка, вялікі палец прытрымоўвае два іншыя пальцы. Калі няма накрыцця галавы і ў часе прырачэння — падносяцца два пальца правай рукі, схіленыя ў локці на вышыню вачэй.

§ 81. Кліч ваўчанятаў — «Гатовы!» (прыпамінаючы скаўцкае «Напагатове!») і выражае сталую гатовасць ваўчка працаваць над сабой, выконваць права ваўчанятаў і служыць іншым. Адказ — «Заўсёды!».

§ 82. Дзеля выражэння пашаны або радасці ў часе ўрачыстых хвілінаў падаецца кліч — тройчы «Жыве!».

## Раздзел VIII. Уніформа ваўчанятаў

§ 83. Уніформа ваўчанятаў складаецца з наступных частак:

а) накрыццё галавы — берэт, аднолькавага колеру для ўсёй грамады — чорны, гранатавы, зялёны;

б) блузка — колеру хакі або зялёнага, крой скаўцкі, без наплечнікаў, якія прыслугоўваюць толькі скаўтам. Пасля атрымання 3-яй зоркі нашываюцца папярэчныя паскі шырынёй 1 см, за якія, пасля пераходу да скаўцкай дружыны, начапляюцца наплечнікі;

в) порткі скаўцкія, кароткія да кален, аднолькавага колеру ў грамадзе;

г) панчохі да кален — колер портак;

д) абутак (чаравікі) — чорныя;

ж) скаўцкая хустка — аднолькавага колеру ў грамадзе (паводле выбару), закладаная пад каўнерык трыкутнік, выпускаецца на плечы;

з) спартовы пояс — зялёнага колеру;

е) зімовая уніформа: блузка, панчохі, чаравікі; світэр — зялёнага колеру, порткі — спартовыя, зашпіленыя пад каленам (каўнерык блузкі выпускаецца наверх);

і) скаўцкі ножык — на поясе з левага боку.

**Уніформа кіраўніцтва ваўчанятаў**

§ 84. Кіраўніцтва ваўчанятаў носіць уніформу такую, як кіраўніцтва скаўтаў (малодшы праваднік — уніформу скаўта «Пагоні», праваднік і старшы праваднік — уніформу скаўтмайстра).

**Адзнакі ваўчанятаў**

§ 85. а) адзнакай ваўчанятаў з'яўляецца міжнародны значок — галава ваўчка, вышыты на кружку, колеру берэта. Носіцца на берэце спераду. Велічыня (дыяметр.— *А. Л.*) кружка 3 см;

б) металёвы значок (галава ваўчка) носіцца на блузцы (або світэры) над левай кішэнню (1,5 см) ніжэй зорак.

§ 86. Важак носіць на левым рукаве вышэй локця вінкель (ням. Winkel — вугал.— *А. Л.*) роўнабочны (даўжыня боку — 3 см) колеру хусткі, вострым канцом уніз.

§ 87. Зоркі — малыя пяцікутныя (1,5 см) носяцца шэрагам (водступ 1,5 см) над левай кішэнню блузкі, вышэй «ваўчка».

§ 88. Адзнакі спраўнасцей — паводле ўстаноўленага ўзору, носяцца на правым рукаве. Велічыня боку трыкутніка — 3 см.

§ 89. Адзнакай ЗБСЧ для ваўчанятаў ёсць нашыўка з надпісам у ангельскай мове, якая носіцца на левым рукаве ўгары.

Увага: з хвілінай (у час.— *А. Л.*) пераходу ваўчка да скаўцкай дружыны можа ён затрымаць металёвую адзнаку ваўчка як памятку і насіць яе на левай кішэні скаўцкай блузкі.

**Адзнакі праваднікоў**

§ 90. Малодшы праваднік носіць галаву ваўчка сіняга колеру, выразаную з сукна (4 см) на левым рукаве вышэй локця.

§ 91. Праваднік носіць галаву ваўчка (4 см), выразаную з зялёнага сукна на левым рукаве блузкі ніжэй скаўтмайстарскай лілейкі.

§ 92. Старшы праваднік — чырвонага колеру такую адзнаку, як у праваднікa.

Увага: скаўтмайстарская лілейка — на чырвоным авальным фоне велічынёй 5,5 × 4 см скаўцкая лілейка, жоўтага колеру з літарамі СМ, у абрамаванні жытніх каласоў.



**Адзнакі функцыяў**

§ 93. Адзнакай выконваемых функцыяў з'яўляюцца скаўцкія шнуркі:

а) малодшы праваднік носіць сіні шнурок ад левага наплечніка да левай кішэні блузкі;

б) праваднік і старшы праваднік — сярэбраны шнурок на шыі;

в) рэферэнт ваўчанятаў пры штандары — чырвоны шнурок на шыі;

г) рэферэнт ваўчанятаў пры галоўнай кватэры — жоўты шнурок на шыі.

Увага: ваўчаняты не носяць зусім скаўцкіх шнуркоў.

## Раздзел IX. Герб і сцяжкі грамады

§ 94. Кожная грамада мае свой герб і сцяг, а кожная шостка — сцяжок. Герб грамады павінен быць выбраны праваднікам супольна з усёй грамадой, выражаць імкненні хлопцаў і назоў грамады. Герб малюецца на фанеры і носіцца на палцы. Велічыня герба 35 × 23 см, даўжыня палкі 150 см.

§ 95. а) сцяг грамады мае выгляд трохкутніка, колер скаўцкай хусткі. Размеры сцяга: 40 × 25 см. На адным баку — герб грамады, на другім назоў (напрыклад, грамада адважных ваўчанятаў), палка сцяга: даўжыня 150 см, таўшчыня — 3 см;

б) кожная шостка мае свой сцяжок аднолькавых размераў: 30 × 15 см. Даўжыня палкі — 130 см, таўшчыня — 3 см. Колер сцяжка, як скаўцкая хустка ў грамадзе. На сцяжку татэм (герб з малюнкам звярка, птушкі, лістка, дрэва) шосткі.

§ 96. Гербам і сцягам грамады, як сімваламі ваўчанятаў, апякуюцца вызначаныя хлопцы, якія заслугоўваюць на гэтае ганаровае становішча.

§ 97. Герб ужываецца ў час вялікіх урачыстасцей, сцяг — на ўрачыстых зборках, у час паходаў палявых заняткаў, пры спатканнях, у лагерах і г. д.

§ 98. Герб і сцяг грамады ўручаюцца ў час урачыстай зборкі. Цырымонія наступная:

Зборка ў вялікім крузе. Песняваўчанятаў. Пасярэдзіне круга — столік, прыгожа засланы. На ім герб або сцяг грамады, малаток і памятны цвік з датай уручэння. Праваднік распавядае, як калісьці рыцары атрымлівалі гэткія знакі і іх сцераглі. Пасля ўбівае памятны цвік у дрэўца і перадае знак (герб або сцяг) малодшаму праводніку, а гэты — першаму важаку. У час перадавання сімвала спяваецца гімн ваўчанятаў. Важак, прымаючы сімвал, бярэ яго і цалуе, потым адыходзіць на сваё месца.

Праваднік: «Хлопцы, атрымалі вы знак вялікай грамады ваўчанятаў, знак гонару і славы. Служыце так Богу, Бацькаўшчыне і бліжнім, каб знак ваш акрыўся вялікай славай!».

Хлопцы адказваюць хорам:«Будзем верна служыць Богу і Бацькаўшчыне!».

## Раздзел X. Назовы грамады і шостак

§ 99. Назоў грамады, падобна як і герб, павінен выражаць імкненні хлопцаў і мець сталую вартасць. Яго выбіраюць самі хлопцы разам з праваднíком. Пры гэтым выбары назову грамады трэба кіравацца наступнымі правіламі:

а) нельга выбіраць прозвішчаў вялікіх беларусаў — гэта прызначана для скаўцкай моладзі (напрыклад, імя Вітаўта, імя Кастуся Каліноўскага);

б) нельга выбіраць назовы звяроў, каб не змешваць з татэмамі шостак;

в) нельга называць грамады назовамі спраўнасцей.

**Назовы можна тварыць трыма спосабамі:**

а) дадаючы прыметнікі, напрыклад «Грамада адважных ваўчанятаў», «Грамада вясёлых ваўчанятаў», мужных, услужных і г. д.;

б) беручы нейкага героя з аповесці або гісторыі, напрыклад «Хлопцы князя Чарадзея»;

в) беручы назоў з геаграфічных беларускіх назоваў, як, напрыклад, «Наднёманскія асілкі», «Хлопцы з-пад Дняпра» і г. д.;

г) можна таксама назваць грамаду казачнымі назовамі, напрыклад «Крылатая грамада», «Хлопцы-малойцы» і г. д.

**Назовы шостак**

§ 100. Назовы шостак можна лучыць з назовам грамады, напрыклад «Белавежскія зубры», можна мець шосткі, названыя імёнамі розных звяроў: Барсукі, Мядзведзі, Лісы, Куніцы, Рысі, або імёнамі птушак: сокалы, ястрабы, галубы, сарокі і г. д., або назвамі дрэваў: клёны, дубы, ясені, грабы і г. д.

Могуць таксама шосткі называцца ад прозвішчаў важакоў, напрыклад шосткі Макарчыка, Пятруся і г. д.

§ 101. Назовы шостак можна змяняць у залежнасці ад патрэбы. Змена назову грамады вымагае згоды кіраўніцтва штандару і Галоўнай кватэры.

## Раздзел XI. Рэгістрацыя грамады

§ 102. На зарэгістраванне грамады ваўчанятаў неабходна атрымаць дазвол ад кіраўніцтва штандару. Без гэткага дазволу зарэгістраваная адзінка не мае права называцца грамадой ваўчанятаў ЗБСЧ.

§ 103. Дазвол на зарганізаванне грамады не раўназначны з прыняццем да ЗБСЧ. Гэта адбываецца пасля 2-месячнага пробнага перыяду, у часе якога грамада знаходзіцца пад назіраннем скаўцкага інспектара, а праваднік выявіць дастатковыя веды і ўмеласць кіравання грамадой. Скаўцкі інспектар перасылае свае назіранні ў асобным рапарце кіраўніцтву ваўчанятаў пры штандары, копію ў Галоўную кватэру ЗБСЧ. На аснове рапарту грамада можа быць унесена ў рэестр ваўчанятаў, які знаходзіцца ў Галоўнай кватэры ЗБСЧ. Галоўная кватэра выдае адпаведнае пасведчанне і ад гэтага часу грамада ўваходзіць у склад ЗБСЧ як паўнапраўная адзінка.

## Раздзел XII. Фонды

§ 104. Фонды самастойнай грамады ўтвараюцца са складак, прыбыткаў з розных імпрэзаў і гаспадарчай дзейнасці грамады (крамікі, продаж вырабаў) і ахвяраў грамадства.

§ 105. Сяброўская складка для ваўчанятаў на месяц у Нямеччыне выносіць (складае.— *А. Л.*) 50 ф.

§ 106. Сяброўскія складкі ад ваўчанятаў збірае сам праваднік на зборках і не павінен даручаць грашовых справаў хлопцам. Спосаб збірання складак можа быць наступны: праваднік на звычайнай зборцы выклікае хлопцаў, якія кідаюць складку ў скарбонку. Пры ўпісванні прозвішчаў праваднік урачыстым голасам кажа: «Запісаў табе 50 ф. на месяц кастрычнік», адначасова наклейваецца марка 50 ф. у службовую кніжачку ваўчка.

§ 107. 25% усіх прыбыткаў грамада плаціць у штандар, а апошнія 25% у Галоўную кватэру.

§ 108. Грамада, якая існуе пры сцягу, не вядзе самастойнай гаспадаркі і ўсе грошы ўносіць у агульную касу сцяга.

## Раздзел XIII. Муштра (шыхтаванне.— *А. Л.*) ваўчанятаў

§ 109. Муштра ваўчанятаў не з'яўляецца вайсковай, але своеасаблівай, дапасаванай да веку хлопцаў. Ад хлопцаў нельга вымагаць тых формаў, што ад скаўтаў або жаўнераў.

**Кліч**

§ 110. На кліч «Увага!», або «Гатовы!», або «Грамада!», або іншы ўмоўны знак (свісток, голас нейкага звера, рух рукі) хлопцы становяцца на «Зважай» і чакаюць у цішыні на далейшы загад.

**Зборкі**

§ 111. Ваўчаняты не становяцца па 2 і па 3 у калоне. Маюць яны сваю форму зборкі: вялікі круг, паўкруг, шосткамі, у рад, у маршы — зборка.



**Вялікі круг**

§ 112. На каманду: «Вялікі круг!» хлопцы хутка і ціха становяцца ў кола, адзін каля аднаго і сядаюць на зямлю са скрыжаванымі нагамі («патурэцку»). Калі зямля мокрая — стаяць на «вольна». Кола павінна быць роўнае і прыгожае. Праваднік таксама сядзіць (стаіць) на кругу кола (у коле.— *А. Л.*). Адлегласць, аднак, паміж ім і хлопцамі павінна быць большай, як паміж хлопцамі. «Вялікі круг!» — нармальная форма зборкі грамады на розных занятках.

**Паўкруг**

§ 113. На каманду «Паўкруг!» — хлопцы хутка і ціха становяцца ў форме паўкола перад праваднікам. Гэтая форма зборкі можа ўжывацца ў часе ўрачыстых зборак (прынящце новага кандыдата, складанне прырачэння, уручэнне зорак, адзнакаў спраўнасцей і г. д.), а таксама ў тых выпадках, калі лік хлопцаў невялікі або месца не дазваляе ўтварыць поўнае кола. Важакі заўсёды знаходзяцца пры сваіх шостках.

**Шосткамі — зборка**

§ 114. Каманда «Шосткамі — зборка!» падаецца ў тых выпадках, калі хочам правесці з хлопцамі гульні і іншыя заняткі шосткамі. На гэтую каманду хлопцы становяцца ў шэраг шосткамі з важакамі на чале, адна шостка за другой або на вызначаным месцы.

**У рад — зборка**

§ 115. «У рад — зборка!» падаецца, калі хочам паставіць хлопцаў у адзін рад для правядзення гульняў ці іншых заняткаў. Хлопцы становяцца адзін за другім.

**Марш**

§ 116. Спецыяльных камандаў для фармавання маршавых калонаў не падаецца. Калі хочам паставіць хлопцаў у маршавую калону, то падаем каманду: «Да маршу — зборка!». Хлопцы становяцца па трох (тройкамі) адны за другімі паводле ўзросту або шосткамі. Важакі пры сваіх шостках на правым баку калоны.

На каманду «Грамада — марш!» хлопцы адначасова пачынаюць ісці з левай нагі спакойным роўным крокам, свабодна махаючы рукамі. У маршы хлопцы абавязаны стрымлівацца ад крыкаў і смеху, пакуль не дазволіць праваднік. У маршавай калоне абавязковае раўненне і крыццё (відаць, галаўны ўбор.— *А. Л.*).

**Стой!**

§ 117. Для спынення маршу падаецца каманда: «Грамада — стой!» На «Стой» хлопцы адначасова спыняюцца і становяцца на «Вольна».

**Звароты**

§ 118. Падаюцца звароты: «Управа — фронт!», «Улева — фронт!», «У тыл — фронт!». Спосаб выканання, як у скаўцкім страявым статуце, ч. 1.

У маршы падаецца: «Кірунак — управа!», «Кірунак — улева!».

§ 119. Іншыя каманды, як «Сядай!», «Устань!», «Кладзіся!», падаюцца ў меру патрэбы. Не вымагаецца (патрабуецца.— *А. Л.*) дакладнасці і адначасовасці выканання. Да сяброўскага кола падаецца каманда: «Сяброўскі круг!». Хлопцы становяцца ў кола і падаюць накрыж сабе рукі (правая наверсе).

§ 120. Праваднік можа пазнаёміць хлопцаў з іншымі відамі муштры павярхоўна, прадбачанай для скаўтаў, як, напрыклад, пры здаванні рапарту, пры падыманні і апусканні сцягу, не павінен толькі бачыць у муштры ваўчанятаў больш, чым гэта неабходна для арганізавання хлопцаў у грамадзе.

§ 121. Некаторыя формы муштры ваўчанятаў пададзены пры розных цырымоніях і ўрачыстасцях.

**Пачатак зборкі**

§ 122. Зборкі ваўчанятаў пачынаюцца традыцыйным спосабам пры захаванні ўрачыстых формаў. Хлопцы становяцца ў вялікае кола (або паўкола), падаюць скрыжаваныя рукі і спяваюць песню ваўчанятаў. Пасля сядаюць на зямлю і прыступаюць да звычайных заняткаў. Пасля песні можа праваднік спраўдзіць (праверыць.— *А. Л.*)



чысціню цела, вопраткі і абутку, не павінен гэтага, аднак, рабіць паводле вайсковых формаў «перагляду».

**Канец зборкі**

§ 123. Хлопцы ўтвараюць вялікае кола, пасярэдзіне — праваднік. Усе прысядаюць са спушчанымі рукамі і паднесенымі (узнятымі.— *А. Л.*) галовамі (як ваўкі). Праваднік паднесеным (урачыстым.— *А. Л.*) голасам: «Пастарайцеся, хлопцы, добра запомніць, што наступная зборка адбудзецца ў чацвер а трэцяй гадзіне!».

Хлопцы працяжна тройчы адказваюць: «Пастараемся!».

Праваднік: «Пастарайцеся, хлопцы, зрабіць (заданне)».

Хлопцы працяжна і тройчы: «Пастараемся!».

Праваднік падае вывадныя думкі з дня зборкі, напрыклад «Пастарайцеся, хлопцы, зрабіць вялікую прыемнасць сваім бацькам!», «Зрабіць добры ўчынак для іншых», «Быць паслухмяным сваім настаўнікам!».

Хлопцы працяжна і тройчы: «Пастараемся!».

Увага! На кожнай зборцы падаюцца новыя клічы, адпаведна да зместу праведзеных заняткаў. Пасля спяваецца песня. Пры вогнішчы «Ноч ідзе». Праваднік развітваецца з хлопцамі клічам «Напагатове!». Хлопцы адказваюць «Заўсёды!» (адзін раз) і з крыкам разбягаюцца дадому.

## Раздзел XIV. Канцылярыя грамады

§ 124. Канцылярыя грамады ваўчанятаў складаецца:

а) з кнігі праваднікa;

б) хронікі грамады.

§ 125. Кніга праваднікa павінна змяшчаць:

1) імянны спісак хлопцаў грамады (нумар, прозвішча, імя, клас, школа, дата нараджэння, адрас, прафесія бацькоў, дата ўступлення ў грамаду, даты: прырачэння, атрымання зорак, спраўнасцей і адыходу). Да спіску далучаюцца пісьмовыя згоды

бацькоў на прыналежнасць іх дзяцей да арганізацыі ваўчанятаў;

2) месячную справаздачу аб складках і адбытай дзейнасці (што зроблена.— *А. Л.*) паводле ўзору рапарту;

3) касавую кніжку* (паводле агульнапрынятых узораў запрыходвання і выдаткавання грошай, балансаваць раз на месяц);

4) інвентар грамады* (назоў прадметаў, дата атрымання, цана, дзе знаходзіцца);

5) бібліятэчны спісак* (назоў кніжкі, каму пазычаная);

6) дзённік працы, праваднік запісвае ў яго штодзённа такія даныя:

а) месячны план заняткаў;

б) справаздачы з адбытых зборак, экскурсій, урачыстасцей і г. д. (справаздачы пісаць з кожнай зборкі асобна);

в) пратаколы з адбытых пробаў на зоркі і спраўнасці, а таксама пратаколы з пераходу ваўчанятаў у скаўцкую дружыну;

г) заўвагі скаўцкага інспектара;

д) важнейшыя здарэнні з жыцця грамады і інш.

7) **дзённік карэспандэнцыі**, дзе ўпісваецца пад нумарам кожнае пісьмо, якое прыходзіць і выходзіць з грамады.

§ 126. Хроніку грамады вядзе праваднік разам з хлопцамі. Яна павінна адлюстроўваць жыццё і настрой усіх хлопцаў і змяшчаць апісанні зборак, экскурсій, лагераў, урачыстасцей; малюнкі і карыкатуры, выразкі з часопісаў, фотаздымкі, вершыкі, арыгінальныя помыслы (думкі.— *А. Л.*), аўтографы скаўцкіх кіраўнікоў і г. д.

---

* Пры самастойных грамадах. Калі грамада існуе пры сцягу, то гэтыя справы належаць да яго. Тут упісваецца акт заснавання грамады, падпісаны ўсімі заснавальнікамі яе. У хроніцы знаходзіцца таксама спісак тых, хто прысутнічаў на зборках і лісток аплачаных складак.





## Нацыянальнае свята

§ 127. а) дзень 24 сакавіка — дзень беларускіх герояў, загінуўшых за вольнасць нашага народа. У гэты дзень ваўчаняты дакажуць свой патрыятызм, выконваючы розныя работы, напрыклад прынясуць зеляніну, сплятуць вянкі, прыбяруць школу, упрыгожаць скаўцкую святліцу, магілы загінуўшых герояў, зробяць нейкі добры ўчынак і г. д. У гэты дзень складаецца прырачэнне і 11-гадовыя хлопцы пераходзяць (пасля 3-яй зоркі) у скаўцкую дружыну;

б) 25 сакавіка ваўчаняты прымаюць удзел ва ўрачыстасцях і павінны самі паказаць гістарычныя сцэнкі з гісторыі нашага вызвалення 1918 г.

§ 123. Апрача 24 і 25 сакавіка ваўчаняты адзначаюць вялікія гістарычныя дні, як угодкі нашых вялікіх герояў, дзяржаўных мужоў, паэтаў, культурных дзеячаў, гістарычныя даты, а таксама нашы народныя святы: Каляды, свята вясны (Вялікдзень), Купалле, Дажынкі, Дзяды і інш. Асобную нізку твораць вялікія скаўцкія святы: Дзень святога Юр'я (24 красавіка), угодкі заснавання грамады, ЗБСЧ і інш. Дакладны спісак урачыстых дзён для скаўтаў і ваўчанятаў глядзі ў дзённіку загадаў Галоўнай кватэры.

§ 129. У часе вялікіх нацыянальных або скаўцкіх урачыстасцей ваўчаняты таксама прымаюць удзел у дэфілядзе (ад фр. defiler — урачыста ісці) (праходзіць.— *А. Л.*). Дэфіляда ваўчанятаў не павінна быць вайсковага тыпу, яна выражае настрой і фантазію дзяцей. Ваўчаняты выступаюць у маршы зусім асобна і то са сваімі помысламі, напрыклад з лукамі і стрэламі, на хадулях, са «змеямілетунамі», у экзатычных строях і г. д.

Могуць быць застасаваныя і гэткага тыпу помыслы, як бег, напамінаючы кавалерыю, парамі: конь і яздок або шасцёркамі на квадрыгах (лац. quadriga — каляска-двухколка, у якую запрагалі 4 коней у адзін рад; вазец кіраваў стоячы.— *А. Л.*) на ўзор рымскіх паказаў у цырку: пяцёра цягнуць

з палак збіты квадрат непасрэдна і на лінках (за вяроўкі.— *А. Л.*). Важак стаіць на задняй палцы і кіруе «Коньмі». Могуць быць і іншыя помыслы, і аб гэтым павінен паруціцца праваднік з хлопцамі, падрыхтоўваючыся да дэфіляды.

## Раздзел XVI. Прынцыпы супрацоўніцтва кіраўніцтва ваўчанятаў

§ 130. Калі грамада ваўчанятаў існуе пры сцягу, устанаўліваюцца наступныя прынцыпы размежавання кампетэнцыяў паміж праваднікам і сцяжным:

1) грамада з выхаваўчага гледзішча (пункту гледжання.— *А. Л.*) з'яўляецца аўтаномнай адзінкай у сцягу, якому падлягае толькі арганізацыйна;

2) праваднікa грамады — малодшага — вызначае штандаровы на прапанову сцяжнога, праваднікa і старшага праваднікa — галоўнае кіраўніцтва на прапанову штандаровага;

3) сцяжны можа заснаваць грамаду толькі са згоды кіраўніцтва штандару і Галоўнай кватэры;

4) праграму працы падпісвае разам з праваднiком сцяжны, зацвярджае рэферэнт ваўчанятаў пры штандары;

5) інспекцыя грамады праводзіцца з ведама сцяжнога;

6) дапускаюцца магчымасці непасрэдных дачыненняў вышэйшых уладаў ваўчанятаў з праваднiком і наадварот;

7) сцяжны абавязаны сачыць, каб праваднік прымаў удзел у зборках, курсах, нарадах сцягу і г. д.;

8) дачыненні са школай і бацькамі ўтрымоўвае праваднік сам;

9) каса і інвентар грамады належаць да агульнай гаспадаркі;

10) сцяжны аказвае ўсю магчымую падтрымку грамадзе, асабліва пры наладжванні летніх лагераў для ваўчанятаў;



11) за грамаду нясуць адказнасць праваднік і сцяжны.

## Раздзел XVII. Рапарты

§ 131. Праваднік абавязаны штомесячна дасылаць рапарты кіраўніцтву штандару ў двух экземплярах (адзін экземпляр штандар высылае ў Галоўную кватэру). Рапарты павінны быць падпісаны, калі грамада пры сцягу, праваднікoм і сцяжным.

§ 132. У рапарце павінны быць наступныя даныя:

Назоў грамады ________, мясцовасць _______,
сцяг ________________, штандар ______________,
лік (колькасць.— *А. Л.*) _______________________,
шостак ______________, праваднік ______________

**1. Лічбовы стан** (колькасны састаў.— *А. Л.*)

Малодшы праваднік __________________________
Заступнік ____________________________________
Праваднік ____________________________________
Старшы праваднік ____________________________
Ваўчанятаў: 1-ай зоркі _______________________
2-ой " _______________________
3-яй " _______________________
Кандыдатаў __________________________________

**2. Здабытыя спраўнасці**

| дата | назоў спраўнасці | лік |
|---|---|---|
| ________ | ______________ | ____ |
| ________ | ______________ | ____ |

**3. Зборкі, заняткі, урачыстасці, імпрэзы**

а) колькі праведзена зборак і на якія тэмы
б) якія праводзіліся гульні
в) якія адбыліся экскурсіі, куды
г) якія адбыліся ўрачыстасці і калі
д) якія наладжаныя імпрэзы і калі

ж) нацыянальныя ўрачыстасці і гістарычныя даты.

4. **Стан здароўя**

а) нармальна развіваецца ____________

б) ненармальна (вага, узрост)____________

в) хворых (на якія хваробы) ____________

г) агульная характарыстыка фізічнага развіцця хлопцаў.

5. **Школьнае навучанне**

а) наведвае I клас ____________бел. школы

б) " II клас ____________ " "

в) " III клас ____________ " "

г) " IV клас ____________ " "

Увага: у выпадку наведвання небеларускай школы, указваюць таксама класы і нацыянальнасць школы.

д) не наведвае зусім школы ..... і з якіх прычынаў?

6. Прароблены месячны план заняткаў (так або не). Калі не, то якія тэмы не прароблены і з якіх прычынаў?

7. **План працы на наступны месяц.**

8. **Даты намечаных урачыстасцей грамады** (прырачэнне, пробы, святкаванні, угодкі і г. д.).

Заўвага. Месячны рапарт праваднік абавязаны дасылаць кіраўніцтву штандару не пазней 25-га кожнага месяца.

**Рапарт кіраўніцтва штандару**

§ 133. Рапарт кіраўніцтва штандару:

Назоў штандару ____________

Рэферэнт ваўчанятаў ____________

1. **Лічбовы стан**

Агульная колькасць грамадаў

ваўчанятаў ____________

З гэтага ваўчанятаў 1-ай зоркі ____________

2-ой " ____________

3-яй " ____________



2. **Спраўнасці**

Назоў спраўнасці ________лік хлопцаў ________

3. **Стан здароўя**

Агульная характарыстыка стану здароўя.

4. **Школьнае навучанне**

а) ваўчанятаў I класу ____II ____ III ____IV ___

б) ________ вучыцца ў іншых школах.

в) ________ зусім не вучыцца.

5. **Выкананая праграма**

а) поўнасцю ў грамадах ____________

б) часткова " ____________

в) прычыны невыканання:

6. **Планаванне кіраўніцтва штандару** на наступны месяц (план заняткаў, курсы, нарады, злёты і інш.).

7. **Апінія (звесткі.— *А. Л.*) аб паасобных правадніках.**

§ 134. Кожныя тры месяцы праваднік высылае фінансавую і гаспадарчую справаздачу ў 2 экземплярах кіраўніцтву штандару, у якой павінен быць пададзены баланс касы, спіс інвентара, стан бібліятэкі і інш.

§ 135. У рапарце новазарганізаваных грамадаў трэба падаць: дату пачатка працы, назоў грамады, колер хустак і сцягоў, герб, лік хлопцаў, іх век (узрост.— *А. Л.*), даныя аб малодшым праваднiку і ягоным заступніку (імя, прозвішча, век, ступень, прафесія, падрыхтоўка да працы, адбытыя курсы і пробы, адрас), асяроддзе і ўмовы працы, школа, якую наведваюць хлопцы, і якія класы. Адначасова падаць ці грамада самастойная ці пры сцягу і далучыць (прыкласці.— *А. Л.*) праграму працы на 3 месяцы.

## Раздзел XVIII. Пераход ваўчанятаў у скаўцкую дружыну

§ 136. Ваўчаняты, якім споўнілася 11 гадоў, пераводзяцца ў скаўцкія дружыны. Урачыстасць

5. Зак. 210.

пераходу адбываецца раз на год 24 сакавіка — у дзень беларускіх герояў. Урачыстасць наладжваецца пры ўдзеле ваўчанятаў і скаўтаў.

§ 137. Урачыстасць адбываецца наступна:

1) Зборка скаўцкіх дружын і грамады ваўчанятаў.

2) Вялікі паказ грамады, напрыклад конкурс вышыні лёту змеяў-летуноў, эстафета, бег на хадулях, стралянне з лукаў, скаўцкі бег з перашкодамі і г. д.

3) Скаўты паказваюць сваю спраўнасць у бегу, спартовых спаборніцтвах.

4) Спаборніцтвы скаўтаў і ваўчанятаў.

5) Гутарка скаўтмайстра аб рыцарах і іх дапаможніках, аб урачыстасці прымання ў рыцары, дапасуючы (прымяркоўваючы) да дня герояў.

6) Сігнал. Зборка. Скаўты ў шэрагу па трое са сцягамі. Ваўчаняты ў паўколе са сваімі сцяжкамі і гербамі.

7) Сцяжны прамаўляе: «Ваўчаняты да прамоцыі (пераходу.— *А. Л.*) на скаўтаў — выступ!». А калі выступяць, кажа: «За хвіліну вы будзеце прамованыя (пераведзеныя.— *А. Л.*) на скаўтаў. Перад гэтым вы павінны даказаць, чаму вы навучыліся, будучы ваўчанятамі». Ваўчаняты (кандыдаты) кажуць, чаму навучыліся (якую здабылі спраўнасць, колькі зорак і г. д.).

Праваднік: «Хлопцы, паўтарыце права, якое вас дасюль абавязвала».

Хлопцы адказваюць хорам права ваўчанятаў.

Сцяжны: «Хлопцы, паслухайце права, якое вас ад гэтага часу будзе абавязваць». Адзін скаўт моцным голасам рэцытуе (урачыста чытае.— *А. Л.*) скаўцкае права.

Сцяжны: «Зважай! Ваўчаняты, у гэты момант прымаю вас у рады скаўтаў. Будзьце вернымі скаўцкаму праву і служыце Богу, Бацькаўшчыне і бліжнім!». Наступна (пасля.— *А. Л.*) у асысце (у суправаджэнні.— *А. Л.*) праваднікa падыходзіць да хлопцаў; начапляе ім наплечнікі і скаўцкія лілейкі і падае ім левую руку.

Скаўты і ваўчаняты на знак сцяжнога ўзносяць



воклiч у чэсць (у гонар.— *А. Л.*) новых скаўтаў тройчы «Жыве!». Усе твораць сяброўскае кола: скаўты і новапрынятыя. Ваўчаняты меншае кола ў сярэдзіне. Скаўты, а потым ваўчаняты спяваюць вясёлыя песні.

У канцы развітанне. Праваднік: «Пастарайцеся, хлопцы, добра займацца, каб быць добрымі скаўтамі!». Хлопцы: «Пастараемся!». Сцяжны: «Напагатове!». Усе: «Заўсёды!».

## ЛЮБОЎ ДА БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

Гутарка з кнігі скаўтмайстра В. Пануцэвіча «Праца ў Зьвязе» 1949 года

Навучэньне: Наш нацыянальны сьцяг.
Практыкаваньне: Аддаваньне пашаны перад сьцягам.
Гульня: Вёска.
Заданьне: Рысаваньне карты Беларусі.
Сьпеў: «Люблю наш край». Паўтарэньне песьняў ранейшых.
Заканчэньне.

**Пачатак зборкі.** Зборку пачынаем пры ўрачыстым падняцьці сьцягу і песьняй «Беларусь, наша маці-краіна».

**Гутарка.**

1. Спраўджэньне выкананага заданьня.

2. Паўтарэньне папярэдняй гутаркі*. Аб чым гутарылася на апошняй зборцы? Якія прыклады падае Б. П.? Па чым можна пазнаць розныя прафесіі людзей? Прыклады. Якія прыблізныя прыметы характару чалавека? Выгляд чалавека, ягоная паходка, абутак. Якое мае значэньне сьлед адцісненых пальцаў? На што трэба зьвяртаць увагу пры выпадках забойства? Як правільна рабіць вывады?

3. Сёньня пагутарым на іншую тэму: як любіць сваю Бацькаўшчыну. Памятайце аб тым, што мы вучымся розным ведам, разьвіваем пачуцьці, свой розум і сілу, вырабляем моцную волю па-тое, каб як найлепш служыць сваёй Бацькаўшчыне. Вось і хачу я вам паказаць прыклады, як вялікія сыны

* У папярэдняй, 4-ай, зборцы ішла гутарка аб вывадах з назіранняў (*А. Л.*).



сваёй Бацькаўшчыны з любові да яе не шкадавалі нічога, нават свайго маладога жыцьця, каб толькі яна жыла і была слаўнай. З часоў панаваньня рымскага караля Тулія Гостылія была вайна з Альбаніяй. Калі ніводная з старон не магла нанесьці свайму праціўніку пераможнага ўдару, абодвыя ваюючыя бакі згадзіліся пераказаць далейшы лёс вайны і перамогу той ці іншай стараны ў залежнасьці ад выніку дуэлю трох блізнюкоў рымскіх з трыма гэткімі блізьнюкамі альбанскімі. Перамога мела быць па той старане, чые прадстаўнікі будуць пераможцамі.

Пасьля падпісаньня ўмовы блізьнюкі хапаюць за зброю. І адным і другім іх суродзічы прыпаміналі, што на іх зброю, на іх мужнасьць глядзіць Бацькаўшчына, народ, войска і багі. І браты з гэтага добрага здаюць справу, што ад іх перамогі залежыць перамога ўсяго народу. Выходзяць яны на сярэдзіну паміж баёвых шыхтаў. Па абодвых бакоў пасядалі жаўнеры, пільна прыглядаючыся дуэлю: кожны з іх хацеў бы быць удзельнікам гэтага гераічнага бою за Бацькаўшчыну, ад якога залежыць будзе лёс усіх грамадзянаў.

На дадзены знак выступаюць браты-блізьнюкі супроць сябе з паднятаю зброяй. У вачох іх гарыць адвага, гатовасьць на ўсё, каб толькі перамагчы. Пры першым наступе братоў непакой агарнуў гледачоў, сьціхлі гутаркі і спынілася дыханьне, перамога не перахілялася ані на адну ані на другую старану. Урэшце сутыкнуліся ў беспасрэдным змаганьні на мячы. Жаўнеры цяпер прыглядаюцца, як ударaюць мячы, зьвіняць шчыты, ломяцца копіі ў надчалавечым высілку. Сэрца іх замірае, калі палілася першая кроў. Вось два рымляне паранілі трох альбанцаў, але самі палі адзін пры другім трупамі. Альбанскае войска адказала на гэта радасным воклічам у чэсьць пераможцаў, рымскіх жаўнераў ахапіла безнадзейная трывога, цяпер адзін рымлянін супроць трох альбанскіх братоў. Вось яны акружылі яго. Рымскі жаўнер бачыць, што адзін не зможа супрацьстаяць адначасна тром праціўнікам, дык карыстаецца хітрась-

цю. Кідаецца быццам уцякаць, ведаючы, што яны раненыя і не змогуць аднолькава бегчы. Калі адбег на некаторую адлегласьць і аглянуўся, пабачыў, што браты-альбанцы бягуць за ім у розны адлегласьці, а адзін з іх зусім недалёка. Тады яго заатакаваў з вялікай зацятасьцю. І калі альбанскае войска крычала на братоў, каб хутчэй беглі на дапамогу заатакоўванаму, рымлянін ударам мяча палажыў трупам яго на месцы і заатакаваў наступнага альбанца. Рымляне раднымі воклічамі заахвочваюць свайго суродзіча, іх сэрца б'ецца мацней. Вось паваліўся на зямлю ад удару мяча другі альбанец.

Падбягае трэці. Цяпер бой пры роўных сілах, бо праціўнікаў толькі двух. Але дух змагаючыхся быў няроўны. Рымлянін падбадзёраны быў перамогай над двума альбанцамі, альбанец змучаны быў бегам і бачыў паўшых толькі што сваіх братоў. Магутным ударам мяча ў горла паваліў рымскі жаўнер праціўніка і з паваленага зьняў зброю.

Як гром па небе загрымелі радасныя воклічы рымскага войска на знак сваёй перамогі над праціўнікам. Пасьля пахаванаў паўшых у бойцы рымскае войска пераможна вярталася да дому. На чале яго ішоў геройскі рымлянін з трыма здабытымі зброямі. Выканаў ён свой вялікі абавязак адносна Бацькаўшчыны, абараніў гонар і вольнасьць свайго народу, не шкадуючы найбольшых ахвяраў.

Шмат прыкладаў вялікай любові да Бацькаўшчыны знойдзем у гісторыі кожнага народу. Вялікім патрыятызмам асабліва адзначаюцца японцы. У часе японска-расейскай вайны ў 1904—1905 гадах некалькі японскіх сапэраў атрымала загад узарваць браму расейскага форту, каб аблегчыць уваход аблозе. Аднак амаль усе былі забітыя, пакуль змаглі падыйсці да брамы з дынамітам для яе ўзарвання. Нарэшце тром удалося падпаўсьці да вызначанага месца, але тут спаткала іх неспадзявана новая перашкода. Нельга было марнаваць ані хвілінкі часу, а тут няма чым прыцiснуць порах да брамы, каб ён выбух. Доўга ня думаючы прыцiснулі яго собскімі целамі і падпалілі, узрываючы браму і саміх сябе. Гэты гераічны чын японскіх жаўнераў даў магчымасьць іхнім сябрам увайсьці і заняць горад.



У Японіі, калі народзіцца дзіця, бацькі вывешваюць перад сваім домам або ляльку або рыбу. Гэта знак для суседзяў: лялька абазначае, што нарадзілася дзяўчынка, якая ў будучыні мае няньчыць і выхоўваць свае дзеці, рыба зноў сымбаль цяжкасьцяў і небясьпекаў, з якімі нованароджаны хлопец прымушаны будзе змагацца.

Чулі вы хіба аб т. зв. «жывых тарпэдах» у японскай арміі ў часе апошняй вайны. Гэта былі тарпэды, кіраваныя жаўнерамі. Каб нанесьці ўдар непрыяцелю і гэтым наблізіць перамогу для свайго народу, кіруючыся любоўю да Бацькаўшчыны, дабравольна пасьвячаліся японскія жаўнеры на сьмерць, сядалі ў тарпэду і кіравалі ёй на непрыяцельскі параплаў і разам з ёй разрываліся на кавалкі.

І ня толькі японскі народ меў тысячы гэтакіх бясстрашных людзей, гатовых аддаць усё і сваё жыцьцё за Бацькаўшчыну. І наш народ меў іх нямала, адважных і мужных, ня ведаючых страху ў змаганьні і не шкадуючых свайго жыцьця, каб толькі жыла і квітнела Бацькаўшчына.

Такімі былі нашыя продкі слаўныя Крывічы. Не баяліся яны сьмерці ні найдужэйшага ворага. Яны былі вернымі свайму князю-правадыру. «Дзе твая, княжна, галава ляжа, там і мы свае зложым»,— казалі яны. Нашых адважных Палачан-Крывічоў суседнія народы называлі «грознымі палачанамі», крывіцкіх ваякаў — «тур-зубрамі», бо яны ў сваёй сіле і адвазе былі падобныя да гэтых грозных зьвяроў. Таму нашага народу даўней ніхто ня мог перамагчы, хоць нападаў з вялікім войскам. Уся Ўсходняя Эўропа доўгія вякі стагнала пад татарскім ярмом, толькі адна Крывіччына, дзякуючы мужнасьці сваіх сыноў, здолела абараніцца ад татарскага ярма. Два разы былі Крывічы ў Маскве, білі немцаў пад Грунвальдам, швэдаў пад Кіргольмам. І толькі тады наш народ даўся паняволіць, калі забыўся аб славе сваіх

дзядоў і прадзедаў, калі перастаў горача любіць сваю Бацькаўшчыну і быць гатовым аддаць усё для яе славы і магутнасьці.

Успомнім яшчэ аб Кастусю Каліноўскім, нашым нацыянальным героі, які жыў каля ста год таму назад... Як зьверска ня мучыў нашага народу кат Мураўёў, прысланы для ліквідацыі паўстаньня, паўстанцы з сваім правадыром мужна змагаюцца за вольнасьць Бацькаўшчыны. Каліноўскага асабліва шукалі царскія жандары. Ён прыходзіў на кожную экзэкуцыю ў Вільні пад браму Дамініканскіх муроў і бачыў тых, якіх вялі на сьмерць ды ня траціў ані на часіну энергіі да далейшага змаганьня. Меў сотні магчымасьцяў уцякаць, аднак заставаўся на становішчы. У канцы 1863 году на падставе даносу былі схоплены тры сябры Віленскага Паўстанчага Камітэту: Дылеўскі, Здановіч і Дарміноўскі. Першы быў памочнікам Каліноўскага, другі загадчыкам гаспадарчых справаў і касай паўстаньня, апошні паўстанскім камісарам Віленшчыны. Але ніводным словам заарыштаваныя не выдалі арганізацыі і з вераю ў сьвятасць сваёй справы загінулі на шыбеніцах. Каліноўскі цяпер сам праводзіў усю працу, арганізоўваў новыя аддзелы, вышукваў новых супрацоўнікаў, пісаў і пашыраў адозвы. Кожны тыдзень прыходзілася зьмяняць прозьвішча, кажны дзень вопратку і кватэру. Людзі давалі яму прыпынак і сховішча. Ён спадзяваўся, што з надыходам вясны яму ўдасца зноў распачыць паўстаньньне, ужо чыста сялянскае.

Але ў студзені 1864 года Мураўёў, мяркуючы, што Цэнтральны Паўстанскі Камітэт знаходзіцца ў Менску, паслаў туды адумысную камісію на чале з жандарам Лосевым. Там яна лучыла на сьлед арганізацыі і арыштавала шмат ейных сяброў. Сярод іх знайшоўся здраднік, які выдаў Каліноўскага.

Каліноўскі знаходзіўся ў гэтым часе ў Вільні, у Сьвятаянскіх мурох. Паліцыя аблажыла ўвесь квартал, не дазваляючы нікаму выйсьці. Гэтак



29 студзеня 1864 года быў арыштаваны і пасаджаны ў турму Кастусь Каліноўскі.

Больш месяца трывала сьледзтва, але ён нікога не выдаў. Як ні дамагаліся ад яго паказаньняў адносна арганізацыі, абяцаючы нават даравань яму жыцьцё, ён з пагардай адкінуў усе маскоўскія прапановы.

Седзячы ў турме, Каліноўскаму ўдалося напісаць да народу некалькі лістовак пад назовам «Лісты з-пад шыбеніцы», у якіх заклікае народ да далейшага змаганьня з маскоўскай няволяй за вольнасьць і свабоду.

«Беларусы, браты мае родныя!

З-пад шыбеніцы маскоўскай прыходзіцца мне пісаць да вас і можа астатні раз. Грудзі застогнуць, забаліць сэрца, але ня жаль загінуць за тваю праўду. Прымі, народзе, па шчырасьці мае слова прадсьмертнае, бо яно як бы з таго сьвету толькі для твайго дабра напісана...

Ваюй, народзе, за сваё чалавечае і народнае права, за сваю веру, за зямлю родную. Бо я табе з-пад шыбеніцы кажу, народзе, што толькі тады зажывеш шчасьліва, калі над табой маскаля ўжо больш не будзе».

Вайсковы палявы суд прысудзіў Каліноўскага расстраляць. Гэта не спадабалася Мураўёву, ён патрабаваў кары сьмерці праз павешаньне. Суд перагледзеў сваю прапанову і згодна наказаў Мураўёва прысудзіў Кастуся Каліноўскага павесіць.

У дзень кары Каліноўскага 10 сакавіка 1864 года была ясная халодная раніца. Каліноўскі сьмелым, цьвёрдым крокам ішоў на месца казьні — на Лукіскі пляц у Вільні. Узышоўшы на падвышэньне, стаў тварам да шыбеніцы і сьмелым поглядам абвёў прысутны натоўп. Калі чытач прысуду назваў яго шляхціцам, Каліноўскі мужна крыкнуў: «Няпраўда, у нас няма шляхты, у нас усе роўныя». Жандар грозна паківаў яму пальцам.

А дзесятай з паловай гадзіне на шыі вернага сына нашага народу і няўтамнага змагара зацiснулася шыбянічная вяроўка і назаўсёды спыніла ягонае сэрца, бязьмежна кахаючае Бацькаўшчыну.

Але не прапала дарма сьвятло распаленых Каліноўскім яркіх зьніччаў народнага руху. Наш народ ня спыніў барацьбы, астаўшыся верным наказу Каліноўскага: новыя змагары далейшае змаганьне. Слуцкія паўстанцы, Юры Лістапад, Лёсік, Ігнатоўскі, кс. Гадлеўскі і сотні іншых герояў не шкадавалі, як Каліноўскі, свайго жыцьця, ні высілку, каб толькі народ наш не загінуў.

І мы маладыя і верныя сыны нашага народу павінны старацца быць падобнымі да вялікіх і гераічных патрыётаў. Будзьма такімі, як былі найлепшыя рымляне, як адважныя японцы, як слаўныя Крывічы, як Кастусь Каліноўскі ды ягоныя пасьлядоўцы каліноўцы.

Вы, напэўна, хочаце спытацца, якім спосабам вы, як юнакі, можаце служыць свайму народу.

Да слаўнага грэчаскага вучонага прыйшоў раз юнак і прасіў яго рады, што ён мае рабіць, каб служыць Бацькаўшчыне.

— Дык, пэўна ты хочаш паступіць у войска,— запытаўся вучоны.— Ты хіба добра ведаеш наша войска, яго зброю, ведаеш, як яго вышкаліць і прыгатовіць да бою?

— Не, я гэтага ня ведаю,— запярэчыў юнак.

— Ах, так — то ты пэўна думаеш пра марскую службу? Ведаеш нашы вадаплавы, прыстані, мора і вятры?

— На жаль, я гэтага ня ведаю.

— А можа хочаш быць вучоным? Ведаеш нашы школы, акадэміі, бібліятэкі, творы нашых філёзафаў?

Юнак зноў запярэчыў.

— А можа будзеш праўнікам? Ведаеш нашае права пісанае і звычаёвае, судаўніцтва?

— Не, ня ведаю,— быў адказ.

— Дык якім чынам хочаш служыць Бацькаўшчыне? — запытаў Сакрат.

І юнак зразумеў, што служыць Бацькаўшчыне можна толькі тады, калі зможаш нешта карыснае для яе зрабіць. А каб нешта карыснае зрабіць, трэба самому ўмець, трэба самому раней навучыцца.



Грэчаскі юнак, вярнуўшыся дадому, стаў працаваць над сабою, вучыцца розным навукам.

Бацькаўшчына ад нас патрабуе перш за ўсё выпрабленьня моцнага характару, фізычнага і духоўнага гарту.

Усё, што нашае, роднае, мусіць быць для нас дарагім, якога ніколі не зрачэмся. Наша мова, звычаі, гісторыя, культура, нашае імя, эмблемы: гэрб, сьцяг, гімн, нашы гарады і вёскі, лясы і пушчы, рэкі і вазёры, нашы песьні і танцы, казкі і легенды, наша нацыянальная вопратка, наш увесь народ — павінны быць неразьдзельнай часткай нашага сэрца, нашых думак і нашых імкненьняў. І гэтая вялікая любоў да Бацькаўшчыны мусіць у нас праявіцца не ў словах, але ва ўчынках, штодзённай працы над сабой, для грамадзтва і бліжніх.

**Павучэньне. Наш нацыянальны сьцяг***. Скажыце, які наш нацыянальны сьцяг? Якія сьцягі іншых народаў, як ангельцаў, амэрыканцаў, французаў, немцаў, палякаў, украінцаў, краін надбалтыцкіх? Што абазначае нацыянальны сьцяг?

Нацыянальны сьцяг абазначае колернае выяўленьне нацыянальнай ідэі, на аснове чаго адрозьніваем адзін народ ад другога.

Нацыянальны сьцяг, як сымбаль нашай нацыі, ёсць для нас вялікай сьвятасцю, якой належыцца асаблівая пашана. Кожны скаўт, як малады абаронца нацыянальных сьвятасьцяў, павінен ведаць, у які спосаб аддаецца пашана перад нацыянальным сьцягам.

**Практыкаваньне. Аддаваньне пашаны перад сьцягам.** А цяпер практычна праробім, як аддаецца пашана перад сьцягам.

а) Пры падняцьці і апушчэньні сьцягу скаўцкая адзінка ўстанаўляецца ў два або тры шэрагі. Падаюцца каманды: «Зважай!», «Харужы (або

---

* Пры правядзенні гутаркі цяпер варта нагадаць і аб дзяржаўным сцягу, значэнні яго колераў (*А. Л.*).

сьцяговая тройка) — выступ!», «У кірунку сьцягу — глянь! Чэсьць дай!».

На каманду: «Харужы (або сьцяговая тройка) — выступ!» выступае харужы (сьцяговая тройка) і становіцца каля машту (пры сьцяговай тройцы два прыбочныя на два крокі на права і лева ад машту (пры сьцяговай тройцы два прыбочныя на два крокі на права і лева ад машту, фронтам па аддзелу). На каманду: «У кірунку сьцягу — глянь, чэсьць дай!» — харужы падносіць або апускае сьцяг. Усе салютуюць. Калі сьцяг падняты (або апушчаны), падаецца каманда: «Зважай!» — усе апускаюць рукі; на каманду «Харужы (сьцяговая тройка) уступі!» — названыя ўступаюць на сваё месца, пасьля чаго даецца каманда «Вольна!».

б) У часе маршу з нацыянальным сьцягам аддаецца пашана паваротам галавы ў кірунку сьцягу з адначасным салютам.

## ГУЛЬНІ

### Вёска

Гуляючыя выбіраюць гаспадара, анёла і чорта. Анёл і чорт адыходзяць, а гаспадар дае ўсім гуляючым назоў беларускіх вёсак і гарадоў.

Падыходзіць чорт:
— Бум, бум!
— Хто ідзе?
— Сам чорт!
— Чаго?
— Па вёску!
— Па якую?
— Па .........., называе вёску.

Калі паміж гуляючых знаходзіцца такі назоў, ён замяняе чарта, а чорт сядае на яго месца. Калі не адгадае, тады падыходзіць анёл і звоніць:
— Дзынь, дзынь!
— Хто ідзе?
— Анёл!
— Чаго?
— Па горад!
— Па які?
— Па .......... (Менск, Вільню, Магілёў і г. д.).



## ЗБОРКІ І ЛЯГЕР

З кнігі скаўтмайстра В. Пануцэвіча «Праца ў Зьвязе»

### Зборкі Зьвязу

Зборкі Зьвязу праводзіць зьвязовы або ягоны заступнік. Мэтай зборкі могуць быць розныя: гутаркі, экскурсіі, спатканьні, фізкультурныя практыкаваньні, гульні, спаборніцтвы між Дружынамі, урачыстасьці, вогнішчы і г. д.

Зборкі Зьвязу заўсёды праводзяцца Дружынамі (дружынная сыстэма). Дружынамі праводзяцца ўсякія заняткі, гульні, спаборніцтвы і жыцьцё ў табары.

Зборкі Зьвязу пачынаюцца звычайна зборкамі Дружынаў і рапартам дружыновых службоваму Зьвязу або заступніку зьвязовага. Гэты апошні здае рапарт зьвязоваму, які робіць агляд Зьвязу, спраўджаючы паставу хлопцаў, іх вопратку, чысьціню, строй, дысцыпліну і г. д., і вітаецца з імі.

Пасьля рапарту і прывітаньня наступае агульная скаўцкая песьня, а пасьля яе занятка паводле праграмы. Зборкі Зьвязу канчаюцца агульным строем, скаўцкай песьняй і разьвітаньнем зьвязовага.

Зборкі Зьвязу праводзяцца згодна з плянам зьвязовага, узгодненым з нармальнай працай Дружынаў на Радзе Зьвязу.

### Зборкі Дружыны

Кожная зборка Дружыны павінна пачынацца традыцыйным спосабам пры захаваньні ўрачыстых формаў. Гэта самае адносіцца і да заканчэньня зборкі.

Ніжэй падаецца прыкладная схэма зборкі:

а) перш падаюцца страявыя каманды: «увага — у кругу, паўколе, шэрагу, двушэрагу (дзве шарэнгі.— *А. Л.*) — зборкі!» (у залежнасьці ад жаданьня дружыновага). Гэтыя каманды маюць прывесьці хлопцаў з стану расьцярушанасьці ў стан сканцэн-

траванасьці. Пасьля ўстаўленьня Дружыны і спраўджаньня акуратнасьці ў выглядзе наступае;

б) урачыстая скаўцкая песьня, або малітва (найлепш сьпяваная), прытым можа быць вынесены сьцяжок Дружыны на чало.

в) пасьля ўрачыстай часткі скаўты сядаюць на зямлю колам, або вакруг стала і адбываецца **Рада Дружыны**. Сакратар спраўджае прысутнасьць, скарбнік зьбірае сяброўскія складкі, дружыновы паведамляе аб новых распараджэньнях, пляне працы на найбліжэйшыя дні, адбываюцца гутаркі над рознымі арганізацыйнымі пытаньнямі, разглядаюцца новыя кандыдаты, жадаючыя ўступіць у скаўтынг і г. д. Нарада Дружыны трывае 10—15 мінут;

г) наступны пункт зборкі — праграмовыя заняткі, паўтарэньне старога і вывучэньне новага матэрыялу. Заняткі гэтыя трываюць (працягваюцца.— *А. Л.*) 25—30 мінут;

д) гутарка на выхаваўчую тэму — 20 мінут;

з) гульні і песьні на перамену 40—45 мінут;

ж) заканчэньне зборкі. Кожная зборка канчаецца традыцыйнай формай. Дружына ўстаўляецца ў кола, дружыновы пасярэдзіне. Дружыновы прыпамінае дакладны тэрмін наступнай зборкі. Усе паўтараюць: «Наступная зборка 25 ліпеня а гадзіны 3 па паўдні». Наступна скаўты, узяўшыся за рукі, хорам паўтараюць дэвіз, аснаўную думку праведзенай зборкі. Напрыклад, калі гаварылася аб адвазе, дэвізам можа быць: «скаўт ёсьць мужны і адважны і гаворыць заўсёды праўду!». Даецца таксама канкрэтнае заданьне паасобным хлопцам да наступнай зборкі.

З а ў в а г а. 2—3 зборкі ў месяцы павінны быць прысьвечаны ручной працы, майстраваньні розных прадметаў, цацак. На такіх зборках побач песьняў і гульняў адводзіцца больш часу на ручную працу.



**Надзвычайныя зборкі**

Апрача звычайных зборак могуць быць надзвычайныя:

а) у р а ч ы с т а я  з б о р к а, прысьвечаная памятнаму дню Дружыны (Дзень заснаваньня Дружыны, Дзень Патрона Зьвязу, Дзень Бі Пі, Дзень Нацыянальнага сьвята і інш.). Уся зборка павінна быць авеяна паднятым настроем, традыцыйнасьцю, цэраманіяльнымі формамі. Урачыстасьць пачынаецца падняцьцём сьцягу на машце, канчаецца яго апушчэньнем. У часе такіх урачыстых зборах праводзіцца: прыймо (прыём.— *А. Л.*) кандыдатаў, складаньне прысягі, прызнаньне ступеняў і адзнакаў;

б) р о з н ы я  э к с к у р с і і: краяведныя для наведаньня і вывучэньня цікавых мясцовасьцяў, навуковыя для вывучэньня аб'ектаў, як, напрыклад, гістарычных стаянак, геалагічных напластаваньняў, фабрыкаў і г. д.; прыродаведныя — у заалагічныя і батанічныя паркі, лясы; тапаграфічныя; пагулянкі — для адпачынку, гульняў, спорту і іншыя, у залежнасьці ад мэты.

Экскурсіі могуць быць на некалькі гадзін і трываючыя цэлы дзень. Прысьвячаюцца яны па прынцыпу адной тэме, але ў часе маршу могуць быць розныя заданьні, як практыкаваньні з назіраньня, хуткай арыентацыі, сыгналізацыі, сьледаходзтва, спасьцярагаўчасьці, ацэнка адлегласьці і г. д. Экскурсіі пачынаюцца і канчаюцца так, як звычайныя зборкі;

в) з б о р к і  з  з а д а н ь н я м і. Дружыновы на пачатку зборкі (пасьля ўрачыстай часткі) дае ўсім або парамі нечаканае заданьне, аблічанае на выяўленьне розных скаўцкіх спраўнасьцей. Скаўты разыходзяцца і на азначаны час вяртаюцца, выканаўшы свае заданьні.

г) с п а б о р н і ц т в ы, як скаўцкія бегі з рознымі перашкодамі, індывідуальныя змаганьні скаўтаў у Дружыне і між Дружынамі ў Зьвязе для выяўленьня розных спраўнасьцей. Зборкі такія

трэба праводзіць раз на месяц, каб магчы скантралёваць дасягненьні скаўтаў;

д) фізкультурныя практыкаваньні. Уся зборка прысьвячаецца гімнастычным і спартовым практыкаваньням, лёгкай атлетыцы і спартовым гульням.

Зборкі па прынцыпу праводзяцца на вольным паветры і ў кантакце з прыродай ( у полі, у лесе, парку) і толькі ў неспрыяючых умовах (дождж, мароз, холад) у зале.

### Тыднёвы расклад працы

Скаўцкая праца, калі мае даць сапраўдныя вынікі, мусіць праводзіцца сыстэматычна і кожны дзень, а не толькі час ад часу. Уся Кніжка Дружыновага і Дзеньнік Зьвязу дапасаваны да гэткай сыстэматычнай тыднёвай працы.

Апрача сталай тыднёвай зборкі на выхаваўчыя тэмы найменш адна гадзіна прызначаецца на фізкультурныя практыкаваньні, 2—3 гадзіны на рознага тыпу гульні і гадзіна на навуку сьпеву, 3—4 гадзіны раз у тыдзень на надзвычайныя зборкі (напрыклад, экскурсіі, кароценькія лягеры). Не меньш 2 гадзін у месяц павінна быць прызначана на ручную працу. Летам кожны дзень можна купацца, праводзіць рухавыя гульні. Апрача гэтага, у часе летніх канікулаў кожны скаўт павінен адбыць прынамсі 14-дзенны скаўцкі лягер, дзе зможа практычна замацаваць усе веды, набытыя раней, ды навучыцца новым карысным у жыцьці спраўнасьцям.

Прыкладова гэта выглядае наступна:

| | | |
|---|---|---|
| Верасень 6 панядзелак | 13 гадзін<br>14 -"-<br>19 -"- | Купаньне<br>Спартовыя практыкаваньні<br>Гульня ў мяч |
| Верасень 7 аўторак | 15 гадзін | Тыднёвая зборка дружыны. Санітарная дапамога Практыкаваньні Песьні да вогнішча |
| Верасень 8 серада | 15 гадзін | Надзвычайная зборка. Індывідуаль-ныя заданьні на 1 гадзіну, потым зборка ў лесе Кухарэтва |
| Верасень 9 чацьвер | 14 гадзін | Экскурсія тапаграфічная. Шкіцаваньне. Сьпеў |
| Верасень 10 пятніца | 13 гадзін | Купаньне, гімнастыка, спартовыя гульні |
| Верасень 11 субота | 19 гадзін<br>21 гадзіна | Зборка Рады Зьвязу<br>Скаўцкае вогнішча |
| Верасень 12 нядзеля | 10 гадзін<br>15 гадзін | Удзел у Божай службе<br>Паход у лес. Бівак |



### Нядзельны лягер Зьвязу

Прынамсі, што 2 тыдні Зьвяз павінен наладзіць нядзельны лягер у мясцовасьці, распаложанай недалёка ад сталага месца жыхарства хлапцоў. Лягер такі пачынаецца ў суботу папаўдні, а канчаецца ў нядзелю вечарам.

Прыкладная праграма гэткага нядзельнага лягеру.

Субота 15.30 Прыбыцьцё ў лягер. Будова прыбіральняў, наладжваньне кухні
17.00 Падвячорак
19.30 Далейшае ўладжваньне лягеру
20.30 Вогнішча або начныя заняткі
21.00 Вячэра, мыцьцё і падрыхтоўка да спаньня
21.45 Гашэньне сьвятла
Нядзеля 7.00 Уставаньне, гімнастыка, мыцьцё, парадак
8.00 Падняцьце сьцягу і малітва
8.10 Сьнеданьне
10.00 Інспекцыя лягеру. Набажэнства
13.00 Абед
13.30 Адпачынак
15.00 Скаўцкія практыкаваньні
17.00 Падвячорак. Ліквідацыя лягеру

## Зборка Рады Зьвязу

Як ужо было ўспомнена вышэй, кожны тыдзень у суботу мусіць адбыцца зборка Рады Зьвязу. Бяз гэтай зборкі будзе немагчымая праца на наступны тыдзень. Да зборкі зьвязовы павінен належна падрыхтавацца, улажыць падробную праграму заняткаў для ўсіх Дружынаў.

**Плян гэткай зборкі наступны:**

1. Рапарт з працы за прошлы тыдзень
2. Абмеркаванне практыкаванняў і зборак
3. Праграма працы на наступны тыдзень
4. Падробнае абмеркаваньне заняткаў
5. Зьмест гутаркі на наступную зборку
6. Гаспадарчыя справы
7. Арганізацыйныя справы
8. Пэрсанальныя справы і новыя кандыдаты.

1. Рапарт здаюць чаргова ўсе дружыновыя, стоячы на «зважай» і чытаючы з сваёй службовай кніжкі. Зьвязовы запісвае ўсе даныя, дае розныя пытаньні і робіць патрэбныя заўвагі. Пасьля рапарту зьвязовы праглядае Кніжкі Дружыновых і іх падпісвае за пройдзены тыдзень.

2. Абмяркаваньне практыкаваньняў і зборак. Дружыновыя даюць свае заўвагі, як прайшлі зборкі, гульні і практыкаваньні, якія цікавілі хлопцаў, якія не. Выяўляюць усе цяжкасьці ў працы, падаюць свае помыслы, якімі яны карысталіся. На аснове гэтага матэрыялу зьвязовы пазнае ўсе недахопы працы і паасобных дружыновых і стараецца іх пазбыцца ў наступным тыдні.

3. Праграма працы на наступны тыдзень. Тут трэба ўзгодніць з дружыновымі, дзе і а каторай гадзіне адбудзецца тыднёвая зборка паасобных Дружынаў, які будзе зьмест зборкі, якія будуць надзвычайныя зборкі (экскурсіі, паходы, начныя практыкаванні, спаборніцтвы), што будзе ў нядзелю — лягер ці скаўцкая імпрэза або іншыя заняткі. Як прынцып мусіць быць прыняты парадак, што ня можа быць змарнованы ані водзін дзень, у якім не праводзілася б выхаваўчай працы. Так, напрыклад, калі нельга наладзіць зборкі або іншыя заняткі, то даецца загад, каб кажны скаўт у азначаным часе выканаў азначанае заданьне, як, напрыклад, грамадзкую дапамогу іншым арганізацыям ці ўстановам, навука рамясла, пісаньне на машынцы, індывідуальнае практыкаваньне ў сыгналізацыі.

4. Абмяркаваньне заняткаў. Скончыўшы абмяркаваньне праграмы на наступны тыдзень, неабходна прарабіць практычна з дружыновымі і іх заступнікамі ўсе практыкаванні, гульні і заняткі, якія яны будуць праводзіць у Дружынах.

5. Зьмест гутаркі на наступную зборку. Зьвязовы выкладае цікавы матэрыял для тыднёвых гутарак дружыновых і гэты матэрыял стараецца вобразна прадставіць, каб потым дружыновыя маглі перадаць сваім хлопцам. Часам прыдзецца склікаць яшчэ раз дружыновых, каб ім на сьвежую памяць нанова прадставіць зьмест выхаваўчай гутаркі. Гэтыя гутаркі павінен потым кантраляваць сам зьвязовы ў Дружынах.

6. Гаспадарчыя справы. Касу Зьвязу вядзе скарбнік Зьвязу, які выдае грошы на аснове запіскі кіраўніка Зьвязу. Сяброўскія складкі плацяць дружыновыя на Радзе Зьвязу скарбніку, які выстаўляе адпаведны квіток. Аб выдатках вырашае зьвязовы.

7. Арганізацыйныя справы. Сюды адносяцца розныя арганізацыйныя справы, водпускі, просьбы, экзамены, пасьведкі і г. д.

8. Пэрсанальныя справы і новыя кандыдаты. На Радзе Зьвязу абгаварваюцца паводзіны паасобных хлапцоў і спосабы ўзьдзеяньня на цяжкіх з выхаваўчага пункту гледжаньня, новых кандыдатаў прадстаўляюць дружыновыя, якіх прымае зьвязовы адумысным загадам.

## Назоў, гэрб, сьцяг і патрон

Кожная Дружына на Радзе Дружыны выбірае назоў Дружыны. Назоў Дружыны бярэцца ад назову аднаго з зьвяроў або птушак (дрэваў), знаходзячыхся на Беларусі (Дружыны Зуброў, Мядзь-

ведзяў, Рысяў, Барсукоў, Арлоў, Сокалаў, Дубоў і г. д.).

Кожны скаўт у Дружыне мае свой сталы нумар, прычым дружыновы мае № 1, заступнік № 2 і г. д.

Кожная Дружына мае свой гэрб і сьцяжок.

Гэрб прадстаўляе сабой шчыток з рысункам зьвяра ці птушкі, іменем якога называецца Дружына. Гэрб вешаецца на ганаровым месцы скаўцкай сьвятліцы, а таксама рысуецца ў Дзённіку і Хроніцы Дружыны, на аб’явах, насьценнай газэтцы. Могуць яго насіць скаўты на сваіх блюзках на левым рукаве, вышэй локця.

Сьцяжок Дружыны мае выгляд трыкутніка, падстава якога — 25 см, вышыня 40 см. Колер сьцяжка такі самы, як скаўцкай хусткі. На адным баку сьцяжка вышываецца гэрб Дружыны, на другім — назоў Дружыны. Даўжыня палкі 150 см, таўшчыня — 3,5 см.

Кожны скаўт у Дружыне павінен умець падрабляць голас свайго зьвяра або птушкі і выкарыстоўваць яго для паразумленьня між сабой у часе заняткаў, асабліва ўначы. Вобраз зьвяра рысуецца пры арыентацыйных знаках у выпадку патрэбы азначэньня сваёй Дружыны. Кожны скаўт абазначае сябе рысункам зьвяра і сваім нумарам.

Кожны скаўт павінен добра ведаць жыцьцё, звычаі, дадатнія і адмоўныя прыметы зьвяра, імям якога называецца Дружына, каб мог у сабе выпрабляць адпаведнія дадатнія прыметы характару ды высьцярагацца благіх.

Рада Зьвязу выбірае патрона Зьвязу з пасярод нацыянальных беларускіх герояў або знамянітых культурных дзеячоў, паэтаў, мастакоў, вынаходцаў і г. д. Іменем патрона называецца ўвесь Зьвяз (напрыклад, імя Усяслава Чарадзея, імя Льва Сапегі, імя Фр. Багушэвіча). Кожны скаўт павінен ведаць жыцьцё, дзейнасьць і скаўцкія прыметы характару свайго патрона, каб у жыцьці старацца быць падобным да яго духовага аблічча.

Сьцяг Зьвязу мае форму трыкутніка, падстава якога — 35 см, вышыня 55 см. Колер такі самы, як скаўцкай хусткі. На адным баку сьцяга вышываецца назоў Зьвязу (напрыклад, ЗБСЧ Зьвяз ім. Усяслава Чарадзея), на другім скаўцкая лілейка з літарамі МС (Малодшыя Скаўты). Дрэўца сьцягу 160 см даўгое і 3,5 см таўшчыні.



Сьцяг Зьвязу носіць харужы, вызначаны зьвязовым з пасярод найлепшых юнакоў, заслугоўваючых на такі высокі гонар. Сьцяг Зьвязу ўжываецца ў часе скаўцкіх урачыстасьцяў паходаў, лагераў, вогнішчаў. Сьцяжок Дружыны — на звычайных зборках і занятках.

## НАЗІРАНЬНЕ І АСЬЦЯРОЖЛІВАСЬЦЬ

*Гутарка з кнігі скаўтмайстра В. Пануцэвіча «Праца ў Зьвязе»*

Сёньня, хлопцы, пагутарым аб вельмі важнай справе ў жыцці і дзейнасці кожнага чалавека, а скаўта ў асаблівасьці, аб назіраньні і спасьцярагаўчасьці. Кожны чалавек, праўда, мае вочы, вушы і іншыя ворганы, але ня кожны бачыць ці чуе, што навокал адбываецца: толькі найбольш важныя рэчы кідаюцца яму ў вочы, толькі больш рэзкія гукі даходзяць да ягонай сьведамасьці. Тое самае дзеіцца з намі. Калі б нехта запытаў: які нумар тваёй легітымацыі, які разьмер тваёй нагі, які нумар лягернага тэлефону, твайго самакату, дзе жыве, скажам, настаўнік (назоў вуліцы, № дома) — цяжка было б адказаць. А гэтыя справы вельмі важныя і скаўт мусіць ведаць больш ад іншых, мусіць умець бачыць і чуць больш чымсі звычайны чалавек. Чаму? Бо скаўт — гэта жаўнер на службе. А добры жаўнер на сваім адрэзку павінен бачыць найменшыя рухі і зьявы, з якіх можна зрабіць патрэбныя вывады. Скаўт павінен запамятаць нумар праязджаючага самаходу, ведаць, дзе знаходзіцца найбліжэйшая аптэка, доктар, паліція, пажарная ахова, дзяржаўныя і самаўрадавыя ўстановы, каб мог служыць сваімі інфармацыямі іншым.

Бадэн Пауэл — заснавальнік скаўтынгу, апавядае аб такім выпадку. Раз ішоў скаўт вуліцай рана,

калі шмат людзей сьпяшаліся да працы. На скрыжаваньні вуліцаў спыніў яго паліцыянт і спытаў: «Ці ня бачылі Вы чалавека ў гранатовай вопратцы, з чорнымі зьвісаючымі брывямі, які ішоў вуліцай уніз?». Скаўт адказаў: «Так, ішоў, пакульгваючы трохі на левую нагу, меў на нагах абутак, здаецца, замежнай маркі, нёс у руках пакет і павярнуў на Залатую вуліцу, другую налева адсюль, якіх мінут тры таму назад». Паліцыянт пайшоў у паказаным напрамку і злавіў злодзея. Як бачым, гэты скаўт, ідучы, бачыў дакладна кожнага чалавека і памятаў, як выглядае. У іншым месцы апісвае цікавую гісторыю аб мардэрцы з Эльсдон.

«Перад многімі гадамі ў паўночнай Англіі разбойнічаў страшны забойца. Забойцу гэтага злавілі, асудзілі і павесілі галоўным чынам дзякуючы скаўцкай спраўнасьці аднаго пастуха. Гэты пастушок пасьвіў сваё стада ў гарах на верасе. Дамоў вяртаўся дзікай сьцежкай між гарамі. Аднаго разу пабачыў ён валацужніка, які сядзеў на зямлі з выцягнутымі перад сабой нагамі і еў. Праходзячы, хлопец прыкмеціў яго выгляд, а асабліва дзіўныя цвікі на падэшвах. Не спыніўся, каб прыгледзецца, але схапіў усё адным поглядам, не зьвяртаючы на сябе зусім увагі гэтага чалавека, які ў выніку гэтага прызнаў за звычайнага хлопца, не заслугоўваючага на ўвагу. Калі прайшоў хлопец 5 ці 6 міляў ад таго месца і наблізіўся да свае хаты, заўважыў натоўп людзей, сабраўшыхся каля хаты. Жыхарку яе знайшлі замардованай. Гэта была старая жанчына, і ўсе ставілі сабе пытаньне, хто яе мог бы забіць. Найбольш было падазрэньняў на банду трох цыганоў, якія бадзяліся ў ваколіцы і рабавалі, пагражаючы сьмерцяй кожнаму, хто адважыўся б павядоміць улады аб іх. Хлопец раптам пабачыў дзіўныя сьляды ног у малым агародчыку пры хатцы — знакі, якія маглі паходзіць ад гэных цьвікоў, якія бачыў у абутку чалавека на верасе. Адсюль ясная рэч, зрабіў вывад, што гэты чалавек мусіць нешта мець супольнае з забойствам. Дух рыцара ўзбудзіўся ў хлопцу супраць забойцы безабароннай старой жанчыны. Не баяўся, што прыяцелі забойцы могуць яго забіць за паведамленьне. Адкінуў страх на бок і зараз жа зьвярнуў увагу паліцыянта на сьляды ў агародзе і сказаў яму, дзе можна знайсьці гэтага чалавека, калі зараз жа пойдзем з ім.

Чалавек, які знаходзіўся ў гарах паміж верасу, адышоў далёка ад месца забойства нікім ня прыкмечаны (апрача малога хлапца), думаў, што знаходзіцца ў зусім бясьпечным месцы і не прышло зусім яму ў галаву, што хлопец можа так далёка зайсьці і вярнуцца назад з паліцыяй. Таму нічога яму не рабіў. Але хлопец быў моцным, здаровым горнікам і хутка прайшоў дарогу назад, так што знайшлі гэтага чалавека і яго злапалі».

У адным і другім выпадку скаўт і пастух нават ня думалі, што сваімі назіраньнямі могуць добра паслужыць іншым і даць важную інфармацыю.

Людзі, якія не навучыліся асьцярагацца і назіраць, часта вельмі нешчасьлівыя і незарадныя ў жыцьці, хоць могуць быць і вучонымі. Апавядаюць аб вялікім нямецкім вучоным Канту, які рэдка выходзіў з свайго памяшканьня ў Кэнігсбэргу, што ён часта быў растропаны. Раз злавіў жабу і нёс яе дадому дзеля досьледаў. Праходзячы праз мост, надумаўся яе пусціць у ваду. Замест жабы кінуў у ваду гадзіньнік, а жабу палажыў у кішэню. Толькі дома, калі хацеў глянуць, каторая гадзіна, выцягнуў жабу і заўважыў, што памыліўся. Падобна і вялікі ангельскі вучоны фізык Ньютан належаў да гэткіх людзей. Любіў ён недаваранымя яйкі і заўсёды варыў іх з гадзіньнікам у руках. Раз здарылася, што гадзіньнік кінуў у вар, а на яйко прыглядаўся.

Падобныя рэчы здараюцца часта. Шматлікія людзі не памятаюць, дзе яны пакінулі свае шапкі, рукавіцы, дзе палажылі кніжку. (А ці ты належыш да іх?) Гэта ўсё сьведчыць, не практыкаваліся ў сваім жыцьці ў назіраньні, не выраблялі добрай памяці.

У Італіі існавала згуртаваньне рэвалюцыянераў, якое называлася «Камора» і якое выпрабляла ў сваіх хлопцаў здольнасьць хуткага прыкмячань-

ня і памяць бачанай рэчы. Ідучы вуліцай гораду гэткі рэвалюцыянер раптам затрымоўваўся і пытаўся хлопца: «Як была апранута жанчына, якая сядзела ў дзьвярах чацьвёртага дому па правым баку на папярэдняй вуліцы» або «куды паехаў звошчык і які нумар павозкі?», «якая вышыня гэтага дому і як шырокае акно першага паверху?». Або трэба было мінуту глядзець хлопцу на выстаўку у акне, а потым дакладна расказаць, што бачыў.

Скаўт ня можа быць растропаным ці ня зоркім. Яго вочы мусяць заўсёды быць адкрытымі і бачыць, што дзеецца навокал і пад нагамі, вушы настарожанымі, увага здольная да хуткай канцэнтрацыі і ўспрыманьня. Каб такім быць, трэба ўсьцяж практыкавацца і працаваць над выпрабленьнем у сабе зоркасьці, чуткасьці, добрай памяці, хуткай арыентацыі і ўмеласьці спасьцяраганьня.

Чаму патрэбны гэткія практыкаваньні?

Яны патрэбныя з прычыны самай пабудовы чалавечага вока. Нашае вока ад першага погляду ўспрыймае і даводзіць да сьведамасьці толькі найбольш істотныя, важныя прыкметы бачанага прадмету, а ўсе драбнейшыя заціраюцца або праходзяць міма нашай увагі. Вось гляньце на абраз на сьцяне, на шафу, на дрэва, а потым зачыніце вочы. Ці можаце прадставіць сабе дакладна ў драбніцах, як выглядае бачаны прадмет? Не. Нават, калі будзем агульна некалькі разоў глядзець на той самы прадмет, нашае вока ловіць найбольш яркія і істотныя прыметы, як велічыню, колер, вонкавую форму, а ўсе іншыя дэталі твораць неакрэсьлены фон. Толькі, калі мы сканцэнтруем на гэтых дэталях вока і зьвернем на іх сваю ўвагу, тады вобраз зарысуецца ў нашым уяўленні больш дакладна. (Можна тут расказаць шырэй аб будове вока, ілюструючы рысункамі.) Гэта абазначае, што вока скаўта павінна быць у руху, калі ён назірае або глядзіць, каб сярэдзіна вока падала на ўсе важнейшыя драбніцы, словам, каб усё бачыла. Вы хіба чулі ад старэйшых, што «ў яго круцяцца



вочы, як у злодзея». Вось і трэба выпрабіць у сабе гэткую рухавасьць вачэй і гэткую зоркасьць, каб магчы ў патрэбе прыкмеціць злодзея, які ў назіраньні, спасьцярагаўчасьці і хуткай арыентацыі асабліва выспэцыялізаваны.

**Запамятай:** калі глядзіш, вочы мусяць быць у руху і бачыць усе драбніцы назіраных прадметаў.

Трэба памятаць наступнае пры назіраньні.

1. Не заўсёды бачанае адказвае сапраўднасьці. Кожны з вас, едучы цягнікам, заўважыў такое зьявішча: цягнік бяжыць, а нам здаецца, гледзячы праз акно, што ён стаіць на месцы, а лятуць тэлефонныя слупы, дрэвы і г. д. Нарысуйце два роўныя квадраты, адзін замалюйце чорным у сярэдзіне, а другі пакіньце белым, а вакол яго зрабіце чорны фон. Каторы з гэтых квадратаў выглядае большым? Нарысуйце дзьве аднолькавыя лініі, адну гарызантальна, а другую простападаючы. Каторая з гэтых ліній выглядае даўжэйшай? А можа ведаеце іншыя прыклады?

2. Прадметы могуць быць вялікія і малыя. Вялікія ўжо сваёй масай кідаюцца ў вочы, на малыя трэба зьвяртаць большую ўвагу. (Боты і гвазды ў забойцы.) Прадметы ў руху лягчэй заўважыць, чымся ў супачынку. Таму жывыя стварэньні ў руху больш відавочныя, як нярухомыя.

Вы хіба бачылі, як некаторыя жучкі, казяўкі, чарвякі, калі знойдуцца ў небясьпецы, прымаюць нерухомую паставу, быццам мёртвыя. Чаму гэта робяць? Якія яшчэ стварэньні падобна захоўваюцца? Бачылі вы хіба вожыка, які ў страху прымае нерухомую паставу. Заяц часта спыняе свой бег і робіцца нерухомым. Так сама робяць паляўнічыя і выведнікі, калі назіраюць або падыходзяць да дзікіх зьвяроў. Яны падыходзяць асьцярожна, а калі зьвер на іх зьверне ўвагу, тады прымаюць зусім нярухомую паставу.

3. Важнай справай пры назіраньні ёсьць фон, на якім знаходзіцца дадзены прадмет. Вы, думаю, заўважылі, што птушкі і зьвяры, а таксама і розныя кузуркі маюць колер, дапасаваны да асяродзьдзя, дзе прабываюць. Чаму? Каб магчы лёгка

схавацца на фоне такім, як колер цела. Некаторыя нават дапасоўваюцца да пораў году. Якія? Чаму вавёрка мае чырвонае хутра? Чаму матылькі маюць прыгожыя рознакалёрныя крыльлі? Чаму птушкі трапікальных краінаў маюць яркія і розныя колеры? А якія нашыя?

Вы бачылі хіба чарвякоў зусім падобных да сухіх галінак (добра было б мець гэткія для паказу). Есьць матылькі, якіх трудна адрозьніць ад сухіх лісткоў — усё таму, каб маскавацца перад сваімі ворагамі.

Вывад адсюль просты: колеры падобныя малабачныя, колеры кантрасныя, зусім непадобныя, больш прыкметныя. Чорны прадмет на белым фоне, ясны на цёмным здалёк кідаецца ў вочы.

Таму паляўнічыя, лясьнікі і жаўнеры носяць вопратку, дапасаваную да акружаючай прыроды. Войска носіць зялёную вопратку і на зялёным малюе сваё прыладзьдзе (або ў зялёна-жоўтыя плямы), калі дзейнічае на фоне расьліннасьці. Зімой зноў дапасоўваецца да сьнегу, надзяваючы белую вопратку. У пустынях, дзе кругом жоўты пясок, патрэбная жоўтая вопратка. Чаму лётчыкі носяць шэрую, сталёвага колеру вопратку, а маракі — нябесную (сінюю)?

Уніформа скаўта мае таксама ахоўны колер. Бо скаўт жаўнер мае дзейнічаць на фоне прыроды, падрыхтоўваючыся да службы. Бацькаўшчыне. Але і ў гэткай уніформе будзе ён бачны, калі ня будзе прасьцярагаць правілаў скаваньня.

Яшчэ аб адным трэба памятаць.

Прадметы кідаюцца ў вочы, калі яны ў аколіцы рэдка сустракаюцца. Напрыклад, цэглы ў полі адразу прыкметныя, а на нападворку не зьвяртаюць на сябе ўвагі. Пень на лугу, вялікі камень на адкрытым полі кожны здалёк заўважыць. Ці за гэтыя прадметы можна хавацца? Не, бо лёгка здрадзіцца. Таксама кідаюцца ў вочы прадметы, калі яны ўложаны ў кучы, або ў парадку, напрыклад куча каменьняў у полі.

Адсюль вывад такі: зьвяртаюць увагу і на дробныя прадметы, бо яны могуць быць маскаваньнем для праціўніка.



Як вялікае значэньне ў жыцьці маюць усе на першы погляд дробныя і малаважныя рэчы, можа паслужыць наступны выпадак, які я меў у сваім жыцьці. Едучы з Вялейкі да Маладэчна выскачыў на адной з станцыі, каб напіцца вады. У міжчасе цягнік пайшоў і я не пасьпеў сесьці. Разам з цягнікам паехалі мае рэчы, дакументы і грошы. Я зараз жа пайшоў да дыжурнага кіраўніка станцыі і яго паведаміў аб здарэньні. Ён адразу мяне спытаўся: які нумар вагону, у якім прадзеле я сядзеў, як выглядалі мае рэчы. Добра, што я, сядаючы на цягнік, кінуў вокам і на нумар вагону, і як далёка быў ён ад паравозу, які прадзел займаў і якія там сядзелі людзі. Усё гэта было дапаможным, каб знайсьці на наступнай станцыі мае рэчы і іх забясьпечыць да майго прыезду.

Каб лягчэй можна было запамятаць розныя прадметы, трэба некалькі разоў на іх глянуць, а потым замкнуць вочы і прадставіць іх у сваім ваабражэньні. Калі прадстаўляюцца недакладна — паўтарыць назіраньне. Калі вочы прызвычаюцца да гэткага назіраньня, тады ўжо аўтаматычна будуць больш бачыць чымсі цяпер. Вялікія лічбы добра падзяліць на 2, 3, 4, 8, каб лепш запамятаваць. Прыраўноўваць да гістарычных датаў, напр. 191825 (1918 г., 25 сакавіка), 1810 — два гады перад паходам Напалеона на Маскву і г. д. Аднак найважнейшым ёсьць штодзённае практыкаваньне. Ці знаходзішся ў школе, дома, на вуліцы, у лесе — усюды вывучай прадметы, старайся ахапіць сваім узрокам як найбольшы круг і добра запамятаць бачанае. Зьвяртай увагу і на розныя драбніцы, як колер валасоў, вачэй, на паходку, рысы твару, на абутак, на сьляды, вопратку, на назовы вуліцаў, нумары плякатаў — усё гэта будзе табе дапаможным для выпрацаваньня здольнасьці спасьцяраганьня і назіраньня. Бадэн Пауэл вучыць: скаўт мусіць усё бачыць і спасьцярагаць перад іншымі і сорамна яму, калі нехта іншы перад ім нешта спасьцеражэ!

## ПРАВІЛЫ ВЯЛІКАЙ СКАЎЦКАЙ ГУЛЬНІ

З кнігі «Вялікая скаўцкая гульня»

1. Усе зьвязы, сьцягі і штандары ЗБСЧ знаходзяцца між сабой у стане бесперапыннай Вялікай Скаўцкай Гульні.

2. Бяз усякага папярэджаньня або папярэдняй умовы дазваляецца высочваць, падкрадацца і нападаць на лягеры-стаянкі іншых адзінак.

3. Напады на сталыя Штабы забараняюцца. Таксама забараняюцца напады на Лягеры і стаянкі свайго зьвязу (сьцягу, штандару) бяз папярэджаньня і дазволу кіраўніка.

4. Нападаць дазваляецца на сабе роўных або старэйшых узростам. Напады, бяз папярэдняй умовы, на лягеры і стаянкі маладзейшых забараняюцца. Такім чынам, напрыклад, юнакі могуць бяз ніякага папярэджаньня нападаць на лягеры старэйшых скаўтаў і лягеры юнакоў, але ня маюць права нападаць на лягеры ваўчанятаў. Калі лягер мяшаны, то напад дазваляецца, калі ў ім знаходзіцца ня менш як адно поўная дружына роўных нападаючых або старэйшых скаўтаў.

5. Узаеманапады на лягеры і стаянкі мужчынскай і жаночай часткі ЗБСЧ бяз папярэдняй згоды забараняюцца.

6. Кіраўнікі ня маюць права непасрэдна ўдзельнічаць у нападзе, але могуць кіраваць дзеяньнямі нападаючых, калі самі знаходзяцца па-за атакаваным лягерам і яго бліжэйшымі аколіцамі (не бліжэй як 50 м ад мяжы лягеру).

7. Кіраўнікі атакаванага лягеру таксама могуць удзельнічаць у яго абароне, але толькі ў межах свайго лягеру і ягоных бліжэйшых аколіцах (не далей як 50 м ад межаў лягеру).

### Нападаючыя

8. Нападаючым пры высочваньні дазваляецца карыстацца рознымі ваеннымі хітрасьцямі. Напрыклад, яны могуць быць не ў скаўцкай вопратцы і маюць права паўторна пераапранацца.



9. У часе самага нападу (на тэрыторыі лягеру) нападаючыя павінны быць у скаўцкай уніформе. Дазваляецца толькі ня мець на сабе скаўцкай хусткі. Апрача таго, той, хто нападае, мусіць мець на левай руцэ аранжовую (або цёмна-жоўтую) павязку ня менш як 3 см шырынёю. Калі няма спэцыяльнай павязкі, можа быць выкарыстаная скаўцкая хустка, завязаная на левай руцэ, вышэй локця.

10. Дазваляюцца наступныя варожыя дзеяньні;

а) палохаць вартавых і рабіць спалох у лягеры;

б) прабірацца ў лягер і рабіць там беспарадак, як, напрыклад, апусьціць палаткі (не перарэзваючы вяровак), пераблытваць вопратку або абутак жыхараў лягеру і г. д.;

в) рабіць крэйдай надпісы на палатках. Напрыклад, знак: «скончыў працу і пайшоў дамоў», а пад ім могуць знаходзіцца нумар свайго зьвязу і ініцыялы;

г) прымацоўваць плякаты або сьцяжкі з гумарыстычнымі надпісамі;

д) забіраць (выносіць за межы лягеру) сьцяг, дружынныя сьцяжкі, рэчы лягернага інвэнтару (палаткі, лапаты, пілы, сякеры, кацялкі) і рэчы скаўцкай уніформы (кашулі, хусткі, капелюшы, наплечнікі і інш.).

11. Усе рэчы, за выняткам дружынных сьцяжкоў, павінны не пазьней як за 24 гадзіны пасьля таго, як яны былі забраныя, быць зьвернены за пасрэдніцтвам парлямэнтараў.

12. Забраныя дружынныя сьцяжкі не зьвяртаюцца і затрымоўваюцца як здабыча ў тых, якія іх здабылі. Яны могуць быць выкарыстаныя для ўпрыгожаньня штабу пераможцаў.

13. Калі два зьвязы на працягу двух тыдняў узаемна забяруць адзін у аднаго дружынныя сьцяжкі, то робіцца іх вымена (сьцяжок за сьцяжок).

14. Калі здабыцьцё і контрздабыцьцё дружынных сьцяжкоў адбылося з перапынкам, не перавышаючым двух тыдняў, то вымена сьцяжкоў

абавязковая. Калі контрздабыцьцё адбылося больш чым праз два тыдні, то вымена робіцца толькі пры згодзе абодвух бакоў.

15. Дружына, што страціла свой сьцяжок, пасьля двух тыдняў ад страты траціць права на свой папярэдні назоў і павінна выбраць сабе новы. Калі дружыне ўдасца атрымаць свой сьцяжок па двух тыднях, то яна мае права або ізноў называцца сваім старым імям, або астацца пры новым.

### Абарона

16. Як вартавыя, так і ўсе жыхары атакаванага лягеру бяруць у палон тых, што нападаюць, простым дотыкам рукі, але толькі ў межах лягеру і яго бліжэйшых аколіцах (не далей як 50 м ад мяжы лягеру). Узятыя ў палон абавязаны бяз супраціву ісьці з тым, хто яго ў палон узяў да кіраўніка атакаванага лягеру.

17. Той, хто трапіць у палон, мае права выбіраць для сябе тры розныя віды палону:

а) узяты ў палон дае чэснае слова не ўдзельнічаць на працягу 24 гадзін у Вялікай Скаўцкай Гульні. Ён адразу ж адпускаецца на волю. На працягу 24 гадзін ён ня мае права ўдзельнічаць ні ў нападзе, ні ў абароне (быць вартавым, браць у палон, нападаць). На працягу 24 гадзін ён абавязаны мець на левым рукаве шырокую белую павязку;

б) узяты ў палон дае чэснае слова не ўцякаць з палону. Ён ня мае права пакідаць лягеру без дазволу каманданта лягеру, дзе лучыў у палон. У межах самага лягеру ён абсалютна вольны, але да яго павінен быць прыдзелены вартаўнік, які сочыць за тым, каб палоннага ня вызвалілі ягоныя сябры. Палонны можа быць вызвалены скаўтамі ягонага зьвязу, калі ім удасца дастацца ў лягер і дакрануцца палоннага рукой. Гэткі дотык можа наступіць у межах самага лягеру, а не па ім (напрыклад, па дарозе ў прыбіральню);

в) узяты ў палон адмаўляецца даць чэснае слова. У гэткім выпадку ён мае права вызваліцца ўсімі



магчымымі спосабамі. З другога боку, тыя, што ўзялі яго ў палон, маюць права ўжываць усялякія сродкі, каб перашкодзіць вызваленьню палоннага (напрыклад, зьвязаць, прывязаць да ложка, да дрэва).

18. Па-за мяжою лягеру і яго бліжэйшых аколіц (50 м ад межаў лягеру) як нападаючыя, так і тыя, што бароняцца, маюць роўныя правы. Мацнейшыя бяруць у палон слабейшых, але пры гэтым ня можа паўстаць ніякая бойка, а змаганьне праводзіць чэснымі сродкамі. Абодва бакі ў гэтым выпадку павінны мець на нарукаўніку павязку Вялікай Скаўцкай Гульні.

19. Палонныя ня могуць быць затрыманыя больш як 24 гадзіны. На працягу гэтага часу тыя, якія ўзялі ў палон, клапоцяцца аб харчаваньні палоннага.

20. Калі нападаючым удалося забраць што-колечы з лягеру, то іх дазваляецца прасьледваць на неабмяжаваную адлегласьць. Прасьледваньне канчаецца, калі «рабаўнік» дасягнуў свой лягер або кватэру штабу. На працягу ўсяго гэтага часу (уцёкаў) «рабаўнік» абавязаны быць у скаўцкай уніформе і мець аранжовую павязку на нарукаўніку (увесь час пакуль пры ім знаходзіцца забраная рэч).

21. Усе ўдзельнікі Вялікай Скаўцкай Гульні абавязаны поўнасьцю выконваць правілы гэтай гульні і пры ўсялякіх магчымых выпадках паступаць як чэсныя рыцары-скаўты.

22. Кожны год (за месяц перад канцом году) да першага сьнежня ўсе скаўцкія адзінкі паведамляюць Галоўнае Кіраўніцтва аб выніках (посьпехах і няўдачах), дасягнутых у Вялікай Скаўцкай Гульні.

23. Галоўнае Кіраўніцтва прызнае тытул «Пераможца ў Вялікай Скаўцкай Гульні на ... год». Пры гэтым прымаюцца пад увагу і асягнутыя вынікі, ініцыятыва, памысловасьць, чэснасьць і прасьцяраганьне правілаў.

24. Адзінка, якая атрымала тытул «Пераможца ў Вялікай Скаўцкай Гульні», мае права зрабіць і

насіць аддзельны сьцяжок. Сьцяжок гэты мае форму трыкутніка і памеры 35 на 50 см, колер дадзенай адзінкі. З аднаго боку сьцяжка вышываецца назоў і нумар зьвязу, гэрб, а з другога скаўцкая адзнака, год, калі заваяванае пяршынства і надпіс «Мы мацнейшыя ад ворага».

Галоўная Кватэра,
7 ліпеня 1948 г.

Галоўны Кіраўнік

## СКАЎТЫНГ — ГЭТА...

*З дакументаў Сусветнай арганізацыі скаўцкага руху*

**Адукацыя для жыцця**
Скаўтынг дапаўняе школу і сям'ю ў рэалізацыі пазнавальных патрэб дзяцей і моладзі. Скаўтынг развівае самапазнанне, жаданне даследваць, адкрываць, пазнаваць.
Скаўты адкрываюць свет за сценамі школы, засвойваючы і перадаючы веды і навыкі іншым.
**Рух моладзі**

**Скаўтынг** — гэта рух... у развіцці і адаптацыі. Ён развіваецца, прыстасоўваецца і дзейнічае ўсюды з улікам мясцовых умоў і патрэб.

**Міжнародны рух**
Прызнаныя скаўцкія арганізацыі і аддзяленні дзейнічаюць больш чым у 150 краінах і тэрыторыях свету.

**Растучы рух**
Скаўтынг з моманту свайго заснавання ніколі не спыняўся ў росце. Цяпер у скаўцкім руху больш 16 мільёнаў сяброў — хлопчыкаў і дзяўчынак, юнакоў і дзяўчат.

**Рух адкрыты для ўсіх**
Скаўцкі рух у адпаведнасці з мэтай, прынцыпамі і метадам, распрацаванымі яго заснавальнікам Робертам Бадэн Пауэлам, адкрыты для ўсіх, незалежна ад расы або веры.



**Забава з мэтай**
Скаўтынг праз дзейнасць у вольны час дасягае сваёй мэты дапамагчы людзям развівацца фізічна, інтэлектуальна, грамадска і духоўна.

**Поле дзейнасці дарослых**
Гэта шанец дапамагчы маладым. Гэта шлях да паляпшэння ўзаемаразумення пакаленняў. Дзякуючы сваёй дзейнасці ў скаўцкім руху, дарослыя атрымліваюць карысную падрыхтоўку і вопыт, якія становяцца рухавіком іх асабістага развіцця.

**Добраахвотнасць**
Скаўты і кіраўнікі павінны самастойна прымаць рашэнне аб паступленні ў скаўты.

**Непалітычны, няўрадавы рух**
Скаўцтва не прадстаўляе і не павінна прадстаўляць якую-небудзь палітычную партыю або арганізацыю. Разам з тым, скаўты робяць пасільны канструктыўны ўклад у развіццё свайго грамадства, сваёй краіны.

**16 мільёнаў скаўтаў дзейнічаюць больш чым у 150 краінах і тэрыторыях свету**

**Метад:**
**Рабіць асабісты ўклад у выкананне**
— простага кодэкса жыцця — Скаўцкага Прырачэння і Права.

**Вучоба праз справу**
— актыўна ўдзельнічаць у сумеснай працы з іншымі.

**Праца ў малых групах**
— у коп'ях, развіваючы навыкі лідарства, зносіны ў малых групах і індывідуальную адказнасць.

**Стымулюючыя праграмы:**
— прагрэсіўныя мерапрыемствы, заснаваныя на інтарэсах моладзі: мерапрыемствы ў кантакце з прыродаю, акаляючым асяроддзем, дзе прастата, стваральнасць і адкрыццё злучаны разам, уяўля-

6. Зак. 210.

юць прастору творчасці, рамантыкі, прыгодам і выклікам.

**Закон жыцця:**

**Духоўны аспект**

— адданасць пошуку духоўных каштоўнасцей жыцця, больш вышэйшай, чым матэрыяльны свет.

**Грамадскі аспект**

— удзел у развіцці грамадства, паважаючы годнасць іншых, а таксама цэласць прыроднага свету;

— развіццё свету, узаемаразумення і супрацоўніцтва на мясцовым, нацыянальным і міжнародным узроўнях.

**Асабісты аспект**

— развіццё пачуцця асабістай адказнасці і стымуляванне імкнення адказнага самавыражэння.

**Задавальненне асабістых патрэб:**

скаўты ўдзельнічаюць у рэалізацыі вялікага ліку праблемаў, якія стаяць перад насельніцтвам па месцу іх пражывання;

скаўты працуюць разам з іншымі для дасягнення ўзаемных мэтаў. Яны супрацоўнічаюць з сябрамі, суседзямі, кіраўнікамі арганізацый і групамі насельніцтва;

многія скаўты ўдзельнічаюць у двухбаковых праектах паміж скаўтамі развіваючых і індустрыяльных краін.

**Скаўцтва — гэта праграмы:**

— дзіцячае здароўе
— прафілактыка наркаманіі
— экалогія
— выкарыстанне сучасных тэхналогій
— будаўніцтва жылля з мясцовых матэрыялаў
— ліквідацыя непісьменнасці
— урокі міру
— трэнінг па аказанню першай дапамогі
— сацыяльная інтэграцыя запушчаных дзяцей
— сацыяльная рэабілітацыя дзяцей і моладзі з недахопамі ў развіцці
— правы дзіцяці



— сямейная асвета
— абарона акаляючага асяроддзя
— выкарыстанне альтэрнатыўных крыніц энергіі
— пасадка зялёных насаджэнняў, агракультур
— прафесіянальнае майстэрства
— маладзёжнае беспрацоўе
— праца з сем'ямі імігрантаў і бежанцаў
— адукацыя для развіцця

**Сусветная арганізацыя скаўцкага руху** — міжнародная няўрадавая арганізацыя, якая аб'ядноўвае прызнаныя скаўцкія арганізацыі. Кіруючым органам з'яўляецца Сусветная канферэнцыя, якая склікаецца кожныя тры гады. Выканаўчы орган — Сусветны камітэт, абраны з ліку добраахвотнікаў.

Сусветнае скаўцкае бюро з'яўляецца сакратарыятам Руху. Яно абслугоўвае нацыянальныя скаўцкія арганізацыі і дзейнічае стала, маючы штаб-кватэру ў Жэневе (Швейцарыя), і свае пяць прадстаўніцтваў — у Коста-Рыка, Егіпце, Кеніі, Філіпінах і Швейцарыі.

Дзейнасць Сусветнага скаўцкага бюро фінансуецца з ліку складак нацыянальных скаўцкіх арганізацый, вылічаных на аснове колькасці іх сяброў і ў адпаведнасці з даходамі на душу насельніцтва гэтых краін. Паступленні ў бюджэт ідуць таксама ад укладаў і ахвяраванняў фондаў, карпарацый, агенцтваў і прыватных асобаў. Значная падтрымка маецца ад Сусветнага скаўцкага фонду.

**Сусветны скаўцкі фонд**

Сусветны скаўцкі фонд актыўна шукае і атрымлівае ўклады, якія стала ідуць у капітал для забеспячэння рэгулярнага даходу Сусветнага скаўцкага руху. Фонд таксама прыцягвае грашовыя дараванні, ахвяраванні для спецыяльных праектаў Сусветнага Скаўцтва.

Ганаровым Прэзідэнтам Сусветнага скаўцкага фонду з'яўляецца Яго Вялікасць Кароль Швецыі.

# СТАТУТ АБ'ЯДНАННЯ БЕЛАРУСКІХ СКАЎТАЎ

Скаўтынг як лад жыцця і рух заснаваны ў Англіі Робертам Стэфенсанам Бадэн Пауэлам у 1907 годзе. Існаваў у Беларусі, а таксама паміж беларусаў-эмігрантаў у выглядзе Згуртавання Беларускіх Скаўтаў Чужыны (ЗБСЧ). Установчы Сойм 21 сакавіка 1992 года аднавіў дзейнасць беларускіх скаўтаў, як дзіцячы і маладзёжны нацыянальны рух.

## 1. Агульная частка і прававы статус

1.1. Аб'яднанне беларускіх скаўтаў (далей АБС) — самастойная непалітычная добраахвотная арганізацыя дзяцей, моладзі і дарослых без абмежаванняў у паходжанні і нацыянальнасці, поле і веравызнанні.

1.2. АБС з'яўляецца пераемнікам сусветнага скаўцкага вопыту, а ў прыватнасці беларускіх скаўцкіх суполак і ЗБСЧ.

1.3. АБС з'яўляецца юрыдычнай асобай, мае пячаткі, штампы, бланкі, разліковыя рахункі ва ўстановах банкаў Рэспублікі Беларусь і замежных краін. (У рэдакцыі рашэння Трэцяга Сойма Аб'яднання беларускіх скаўтаў ад 25 сакавіка 1997 г.)

1.4. АБС і яго структуры дзейнічаюць на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь у адпаведнасці з Канстытуцыяй Рэспублікі Беларусь, дзеючым заканадаўствам, дадзеным статутам і падстатутнымі актамі.

1.5. АБС можа ўступаць у міжнародныя неўрадавыя арганізацыі, падтрымліваць міжнародныя кантакты, удзельнічаць у міжнародных акцыях, што не супярэчаць міжнародным абавязкам Рэспублікі Беларусь. (У рэдакцыі рашэння Трэцяга Сойма Аб'яднання беларускіх скаўтаў ад 25 сакавіка 1997 г.)



1.6. Рабочая мова АБС — беларуская.

1.7. Месцазнаходжанне кіраўнічых органаў — Мінск.

1.8. Поўная назва арганізацыі

— на беларускай мове Аб'яднанне беларускіх скаўтаў;

— на рускай мове Объединение белорусских скаутов;

— на англійскай мове Belarusian Scout Association;

— на французскай мове Association des Scouts Bielorusses. (У рэдакцыі рашэння Трэцяга Сойма Аб'яднання беларускіх скаўтаў ад 25 сакавіка 1997 г.)

1.9. Юрыдычны адрас: 220116, г. Мінск, пр. газеты «Праўда», 58/2-40.

## 2. Мэты, задачы, прынцыпы, метад дзейнасці

2.1. Асноўнай мэтай дзейнасці АБС з'яўляецца дапамога малодшаму пакаленню ў інтэлектуальным, грамадскім і фізічным развіцці; у духоўным развіцці на падставе хрысціянскай маралі; удзел у сусветным скаўцкім руху і інтэграцыя ў Сусветную Арганізацыю Скаўцкага Руху.

2.2. Задачамі АБС з'яўляецца:

— спрыянне рэалізацыі праграм Сусветнай Арганізацыі Скаўцкага Руху (здароўе дзяцей; экалогія; барацьба за нераспаўсюджанне і неўжыванне наркатычных сродкаў, тытуню і алкаголю; правы дзяцей; развіццё прафесійных навыкаў; праца з дзецьмі-інвалідамі і «цяжкімі падлеткамі»; сацыяльная праца на карысць грамадства ды інш.);

— усебаковае развіццё дзяцей і моладзі;

— выхаванне нацыянальна свядомай асобы праз гісторыю, краязнаўства, народную культуру і мастацтва, фальклор, этнаграфію і інш.

2.3. Выхаваўчая праца АБС засноўваецца на прынцыпах скаўтынгу: абавязак перад Богам і Бацькаўшчынай, адданасць духоўным пачаткам;

абавязак перад іншымі, узаемапаразуменне і супрацоўніцтва з усімі; абавязак у адносінах да сябе, адказнасць за асабістае развіццё, адданасць скаўцкаму прырачэнню і праву.

2.4. Вынік дзеянняў у скаўтынгу дасягаецца метадам прагрэсіўнага самавыхавання праз:

— прырачэнне і скаўцкае права;

— набыццё ведаў праз дзейнасць;

— сяброўства ў малых групах, якое ўключае адказнасць і падрыхтоўку да самакантролю, накіраванага на развіццё характару, набыццё ведаў, упэўненасці ў сабе і надзейнасці, здольнасці як да супрацоўніцтва, так і да кіраўніцтва;

— прагрэсіўныя і заахвочвальныя праграмы розных мерапрыемстваў, заснаваныя на інтарэсах удзельнікаў, уключаючы карысныя навыкі, службу грамадству і гульні (рэалізуюцца пераважна на адкрытым паветры).

## 3. Сяброўства і абавязкі

3.1. Сяброўства ў АБС фіксаванае індывідуальнае. Сябры АБС маюць сяброўскія кніжкі.

3.2. Скаўты паводле ўзросту падзяляюцца на:

— ваўчкоў — 7—11 год;

— малодшых скаўтаў — 11—15 год;

— скаўтаў — 15—18 год;

— праваднікоў і аніматараў — 18—26 год;

— лідэраў — з 26 год.

Узрост валанцёраў, што дапамагаюць ажыццяўляць працу са скаўтамі і з'яўляюцца сябрамі АБС, не абмежаваны.

Асобы, што не дасягнулі ўзросту 16 гадоў, павінны мець пісьмовы дазвол на ўдзел у арганізацыі ад сваіх законных прадстаўнікоў.

3.3. Асоба, што жадае ўступіць у АБС, мусіць падаць пісьмовую заяву на імя Скаўт-канцлера свайму кіраўніку.

Прыём у сябры АБС адбываецца на ўрачыстым сходзе адзінкі арганізацыі праз складанне прырачэння: «На мой гонар прыракаю, што паводле маёй



добрай волі і старанняў буду верны Богу і Бацькаўшчыне, пільнавацца правоў скаўта, дапамагаць кожнаму чалавеку ва ўсякім часе і штодзённа рабіць добры ўчынак».

3.4. Сябрамі АБС могуць быць грамадзяне Рэспублікі Беларусь, а таксама іншаземныя грамадзяне і падданыя, асобы без грамадзянства, якія прытрымліваюцца скаўцкага прырачэння, абавязкаў скаўта і прымаюць удзел у дзейнасці АБС.

3.5. Скаўцкае права:

— гонару скаўта трэба давяраць;

— скаўт адданы, служыць Бацькаўшчыне і свайму народу;

— скаўт добразычлівы, ветлівы, сяброўскі, дапамагае іншым;

— скаўт — сябра ўсім і брат любому скаўту;

— скаўт загартоўвае моцны характар, адвагу і мужнасць;

— скаўт любіць прыроду і імкнецца яе пазнаць;

— скаўт падпарадкоўваецца сваім бацькам і куратару;

— скаўт жыццярадасны і не губляе настрою;

— скаўт ашчадны;

— скаўт чысты ў думках, словах і справах.

3.6. У АБС існуе градацыя па рангах у адпаведнасці са скаўцкім досведам.

3.7. Скаўт мае права свабоднага выхаду з АБС. Рашэнне па пісьмовай заяве аб выхадзе з арганізацыі прымаецца кіраўніком або старэйшым па рангу на працягу месяца, пра што паведамляецца ў Канцылярыю АБС.

## 4. Структура і выбарныя органы АБС

4.1. Структура АБС будуецца па тэрытарыяльным прынцыпе.

4.2. Першаснай арганізацыяй АБС з'яўляецца кап'ё (да 7 сяброў).

Не менш за чатыры кап'і ўтвараюць звяз.

Харугва ўключае не менш двух звязаў у адным населеным пункце (ці раёне ў сельскай мясцовас-

ці), яна з'яўляецца асноўнай тэрытарыяльнай адзінкай і атрымлівае назву мясцовасці.

4.3. У структурных фарміраваннях абіраюцца адпаведныя кап'ёвыя, звязовыя, харунжыя і іх заступнікі — падкап'ёвыя, падзвязовыя, падхарунжыя, а таксама скарбнікі. Працу са скаўтамі ажыццяўляюць куратары з ліку дарослых.

4.4. Вышэйшым кіраўнічым органам АБС з'яўляецца Сойм скаўтаў, які склікаецца кіруючым органам не менш як адзін раз на тры гады і на які дэлегуюцца прадстаўнікі ўсіх харугваў.

4.5. Сойм скаўтаў:

— забяспечвае выкананне рашэнняў Сусветнай Арганізацыі Скаўцкага Руху ў накірунках, што датычацца Беларусі;

— вырашае асноўныя пытанні дзейнасці АБС: прымае Статут, уносіць у яго змяненні і дапаўненні, вызначае памер уступных і сяброўскіх складак, зацвярджае асноўныя напрамкі развіцця АБС, выбірае Скаўт-канцлера, Скаўт-падканцлера, Раду, Старшыню Рады і Рывізійную камісію, зацвярджае іх справаздачы, разглядае іншыя пытанні статутнай дзейнасці;

— зацвярджае сімволіку АБС.

4.6. Сойм скаўтаў лічыцца правамоцным, калі на ім прысутнічае больш паловы прадстаўнікоў усіх харугваў. Рашэнні на Сойме прымаюцца больш чым паловай галасоў прысутных. Змены і дапаўненні ў Статуце АБС могуць выносіцца на абмеркаванне і зацвярджацца больш чым дзвюма трэцямі прысутных прадстаўнікоў харугваў на Сойме.

4.7. Рада скаўтаў з'яўляецца кіраўнічым органам АБС паміж Соймамі і збіраецца не менш як адзін раз на тры месяцы.

Па рашэнні Рады на месцах могуць быць створаныя арганізацыйныя структуры АБС з утварэннем альбо без утварэння юрыдычнай асобы.

Структура выбарных органаў і формы працы арганізацыйных структураў вызначаюцца іх вышэйшым органам — Сходам. Арганізацыйныя структуры маюць тыя ж мэты і задачы, што і АБС,



але дзейнічаюць у межах сваёй кампетэнцыі і ў адпаведнасці дадзенаму Статуту. (У рэдакцыі рашэння Трэцяга Сойма Аб'яднання беларускіх скаўтаў ад 25 сакавіка 1997 г.)

4.8. Рада:

— ажыццяўляе вымаганні гэтага Статута;

— дзейнічае як дарадчы орган ад АБС у адносінах да Сусветнага Скаўцкага Камітэта;

— прымае рашэнні аб стварэнні і ліквідацыі арганізацыйных структур і наданні ім правоў юрыдычнай асобы;

— ажыццяўляе кантакты са святарамі розных канфесій, прызначаных вышэйшымі рэлігійнымі ўладамі для пастаяннай душпастырскай дзейнасці сярод скаўтаў;

— зацвярджае кіраўнікоў аддзелаў Канцылярыі;

— склікае Сойм скаўтаў;

— прымае рашэнні аб набыцці або адчужэнні ўласнасці;

— мае права пазбавіць скаўта сяброўства ў АБС на падставе несумяшчальнасці яго дзеянняў са Статутам АБС, яго прынцыпамі і традыцыямі скаўцкага руху;

— вырашае іншыя пытанні дзейнасці АБС. (У рэдакцыі рашэння Трэцяга Сойма Аб'яднання беларускіх скаўтаў ад 25 сакавіка 1997 г.)

4.9. Дзейнасць Рады каардынуе Старшыня Рады.

4.10. Канцылярыя АБС з'яўляецца выканаўча-распарадчым органам па выкананні рашэнняў Сойма, Рады і ажыццяўленні статутных мэт і задач. Канцылярыя складаецца з шэрагу аддзелаў, колькасць якіх вызначае Рада. Канцылярыя вядзе рэестр скаўцкіх адзінак (харугваў і звязаў). Кіруе дзейнасцю Канцылярыі Скаўт-канцлер, у адсутнасці яго — адзін са Скаўт-падканцлераў.

4.11. Скаўт-канцлер, а ў яго адсутнасці адзін са Скаўт-падканцлераў, валодае правамі і паўнамоцтвамі кіраўніка юрыдычнай асобы ў межах сваёй кампетэнцыі. Скаўт-канцлер вызначае шэраг абавязкаў Скаўт-падканцлераў і сяброў Кан-

цылярыі. Скаўт-канцлер прадстаўляе інтарэсы Канцылярыі на паседжаннях Рады.

4.12. Паўнамоцтвы Скаўт-канцлера, Скаўт-падканцлераў, сяброў Рады і Канцылярыі працягваюцца не больш за два трохгадовыя тэрміны запар. Склад Рады і Канцылярыі абнаўляецца на кожным Сойме не менш як на палову сяброў.

4.13. Паседжанні Рады і Канцылярыі лічацца правамоцнымі, калі ў іх прымае ўдзел больш паловы сяброў, а іх рашэнні прымаюцца простаю большасцю галасоў прысутных. Паседжанні Канцылярыі праходзяць па меры патрэбы, але не менш як адзін раз на два месяцы.

4.14. Рэвізійная камісія з'яўляецца кантрольна-рэвізійным органам АБС і збіраецца не менш як адзін раз на тры месяцы.

Рэвізійная камісія:

— кантралюе выкананне дадзенага Статута, рашэнняў Сойма, Рады і Канцылярыі;

— кантралюе дзейнасць выбарных органаў, Канцылярыі, створаных прадпрыемстваў і гасразліковых структур АБС;

— кантралюе фінансава-гаспадарчую дзейнасць АБС;

— трымае справаздачу перад Соймам і Радай.

4.15. Рэвізійная камісія абірае са свайго складу старшыню і сакратара. Рэвізійная камісія прымае рашэнні большасцю галасоў.

4.16. Ганаровым Скаўт-канцлерам можа быць абраны адзін з кіраўнікоў Рэспублікі Беларусь, які спрые скаўцкаму руху, ганаровым сябрам — вядомы грамадскі дзеяч, які сваёй бескарыслівай працай дапамагае вырашэнню статутных мэт і задач АБС, а таксама былы скаўт. Рашэнне аб прызначэнні прымаецца Соймам АБС.

4.17. Паседжанні і рашэнні органаў АБС афармляюцца пратаколамі.



## 5. Сімволіка

5.1. Сябры АБС карыстаюцца сімволікай, адпаведнай гістарычным традыцыям скаўцкага руху і беларускага народа.

5.2. Сябры АБС маюць скаўцкія гальштукі, значкі, эмблемы, форму. Эмблема АБС зарэгістравана адпаведным чынам.

5.3. Кліч сяброў АБС «Напагатове!», адказ «Заўсёды!», у асабліва ўрачыстых момантах можа выкарыстоўвацца вокліч «Жыве Беларусь!», з адказам «Жыве!».

## 6. Сродкі і маёмасць

6.1. Сродкі і маёмасць складаюцца з:

— уступных і сяброўскіх складак;

— дабрачынных ахвяраванняў;

— паступленняў ад латарэяў; лекцыяў; маёмасці, атрыманай ў спадчыну; адлічэнняў з прыбытку створаных прадпрыемстваў, гасразліковых структураў, а таксама з іншых не забароненых заканадаўствам крыніц.

6.2. АБС можа мець ва ўласнасці будынкі і іх частку, жыллёвы фонд, акцыі і іншыя каштоўныя паперы.

6.3. АБС не адказвае за даўгі сваіх сяброў і арганізацыйных структураў, таксама як і яны не адказваюць за яе даўгі. (У рэдакцыі рашэння Трэцяга Сойма Аб'яднання беларускіх скаўтаў ад 25 сакавіка 1997 г.)

6.4. Маёмасць і фінансавыя сродкі АБС не могуць пераразмяркоўвацца паміж сябрамі і выкарыстоўваюцца толькі для выканання статутных задач.

## 7. Спыненне дзейнасці

7.1. АБС можа быць ліквідаванае па рашэнні Сойма, калі за гэта прагаласавала больш двух

трэцяў прадстаўнікоў; ці па рашэнні суда. Пытанне аб маёмасці і сродках вырашаецца ліквідацыйнай камісіяй у парадку, прадугледжаным дзеючым заканадаўствам.

7.2. Пасля ліквідацыі АБС дакументы здаюцца ва ўстановы дзяржархіва паводле ўсталяванага парадку.

## МАЛІТВА ГАСПОДНЯЯ

Ойча наш, каторы ёсць у небе, святым будзь імя Тваё, прыйдзі валадарства Тваё, будзь воля Твая як у небе, так і на зямлі; хлеба нашага штодзённага дай нам сёння; і адпусці нам грахі нашы, як і мы адпускаем вінаватым нашым; і не ўводзь нас у спакусу, але збаў нас ад злога. [Тваё бо ёсць валадарства і сіла, і слава на вякі вякоў]. Амін.

## МАГУТНЫ БОЖА

*Н. Арсеннева*

Магутны Божа, Уладар сусветаў,
Вялікіх сонцаў і сэрц малых:
Над Беларусяй, ціхай і ветлай,
Рассып праменні свае хвалы.

Дай спор у працы, штодзённай, шэрай.
На лусту хлеба, на родны край.
Павагу, сілу і веліч веры
У нашу праўду, у прышласць дай.

Дай урадлівасць жытнёвым нівам,
Учынкам нашым пашлі ўмалот.
Зрабі свабоднай, зрабі шчаслівай
Краіну нашу і наш народ!

## МЫ ВЫЙДЗЕМ ШЧЫЛЬНЫМІ РАДАМІ

*Словы М. Краўцова*
*Музыка У. Тэраўскага*

Мы выйдзем шчыльнымі радамі
На вольны родны свой прастор;
Хай воля вечна будзе з намі,
А гвалту мы дамо атпор!
Дамо атпор!
Няхай жыве магутны, сьмелы
Наш беларускі вольны дух,
вольны дух,
Штандар наш бел-чырвона-
белы,
Пакрый сабой народны рух.
На бой! За шчасьце і за волю
Народу слаўнага свайго!
Браты, цярпелі мы даволі...

На бой! — усе да аднаго!
Да аднаго!
Імя і сілу беларуса
Няхай пачуе і бачыць той,
бачыць той.
Хто сьмее нам нясьці прымусы
І першы выкліча на бой.
Браты, да шчасьця мы
падходзім;
Хай гром грыміць яшчэ мацней!
У крывавых муках мы народзім
Жыцьцё Рэспублікі сваей!
Жыцьцё Рэспублікі сваей!



Мы выйдзем шчыльны - мі ра - да - мі на вольны родны
свой пра - стор; хай во - ля веч - на бу - дзе з на - мі, а
гвал - ту мы да - мо ад - пор, да - мо ад - пор. Ня -
хай жы - ве ма - гут - ны, сьме - лы наш бе - ла - ру - скі воль - ны
дух, воль - ны дух, штандар наш бел - чыр - во - на - бе - лы па -
крый са - бой на - род - ны рух. Бра - ты, да шчасьця мы пад -
хо - дзім, хай гром гры - міць я - шчэ маць - ней, у кры -
ва - вых му - ках мы на - ро - дзім жыцьцё баць - коў - шчы - ны сва -
ей, жыць - цё баць - коў - шчы - ны сва - ей

# ПАГОНЯ

*Словы М. Багдановіча*
*Музыка М. Шчаглова*

Толькі ў сэрцы трывожным пачую
За краіну радзімую жах,—
Успомню Вострую Браму Сьвятую
І ваякаў на грозных канях.

Ў белай пене праносяцца коні,—
Рвуцца, імкнуцца і цяжка хрыпяць.
Старадаўняй Крывіцкай Пагоні
Ні разьбіць, ні спыніць, ні стрымаць.

У бязьмерную даль вы ляціце,
А за вамі, прад вамі — гады.
Вы за кім у пагоню сьпяшыце?
Дзе шляхі вашы йдуць і куды?

Мо яны, Беларусь, панясьліся
За тваімі дзяцьмі уздагон,
Што забылі цябе, адракліся,
Прадалі і аддалі ў палон?

Бійце ў сэрцы іх,— бійце мячамі,
Не давайце чужынцамі быць!
Хай пачуюць як сэрца начамі
Аб радзімай старонцы баліць...

Маці родная, Маці — Краіна!
Ня ўсьцішыцца гэтакі боль...
Ты прабач, Ты прыймі свайго сына,
За Цябе яму ўмерці дазволь!..

Усё лятуць і лятуць тыя коні.
Срэбнай збруяй далёка грымяць...
Старадаўняй Крывіцкай Пагоні,
Ні разьбіць, ні спыніць, ні стрымаць.



Allegretto
mf
Толь - кі ў сэр - цы тры - вож-ным па - чу - ю за кра-
і - ну ра - дзі - му - ю жах: ўспо-мню Во - стру - ю
бра - му Сьвя - ту - ю і ва - я - каў на
гроз- ных ка - нях. У бе - лай пе - не пра - но - сяц - ца
f Хор
ко - ні, рвуц - ца, ім - кнуц - ца і цяж - ка хры-
пяць, ста - ра - даў - няй кры - віц кай Па - го-
ні ні разь - біць, ні спы - ніць, ні стры -
1 маць, ста - ра - 2 маць — 3 маць —

## МЫ — МОЛАДЗЬ

*Словы Н. Арсеневай*
*Музыка М. Шчаглова*

Мы — праўда,
Мы — сіла,
Мы — радасьць,
Мы — рух!
Выцягваем крылы
Мы ў сонца і ў зару
Мы імкнемся на ўзвышшы,
Нам межаў няма,
Здаецца нам прышласьць
Праменнай, як май.
Мы імкнёмся на ўзвышшы,
Нам межаў няма,
Здаецца нам прышласьць
Праменнай, як май.
Мы — шчырасьць, сваволя,
Мы — песьня, мы — сьмех,
Вітае нас доля
Мільёнамі ўцех.
Бядзе, гураганам
Сьмяёмся мы ў твар.
Нам сполахі граюць,
Нам зоры гараць.

Ніхто нас ня спыніць
У лёце да зор.
Мы імпат няўпынны,
Мы — моц, мы — віхор
Мы вышлі з народу,
З крывіцкай сям'і.
У кожнай нагодзе
З ім побач стаім.

Мы з краем каханым
Расьцём угару.
Мы — сьвежасьць,
Мы — раньне,
Мы — радасьць,



*Tempo di marcia*

Мы праў - да, мы сі - ла, мы радасьць, мы рух! Вы-
цяг - ва - ем кры - лы мы ў сон - ца, ў за - ру. Мы
імкнём - ся на ўз - выш - шы, нам ме - жаў ня - ма, зда-
ец - ца нам прышласьць пра - мен - най, як май. Мы
імкнём - ся на ўз - выш - шы, нам ме - жаў ня - ма, зда-
ец - ца нам прышласьць пра - мен - най, як май

Мы — рух.
Мы — імкнём на ўзвышшы.
Нам межаў няма.
Здаецца нам прышласьць.
Праменнай, як май.

# ГІМН ВАЎЧАНЯТАЎ

*Словы В. Пануцэвіча*
*Музыка М. Равенскага*

Адважныя мы ваўчаняты,
Наперад ідзём грамадой.
Ня страшны нам вецер зацяты,
Ні тайніцы цемры лясной.

Прыпеў:
Кліч наш баёвы, напагатове,
Заўсёды гатовы
За Край, за народ свой
На ўсё гатовы.

Гартуемся ў гульнях воўчых,
Гадуемся ў людскіх правох.
Штодзённы наш добры ўчынак
Вядзе нас на шлях перамог.

Прыпеў

Мы любім бацькоўскія гоні,
Дзе Нёман, Дзьвіна і Дняпро,
Дзе сьцяг старадаўняй Пагоні
Нясе ў змаганьні народ.

Прыпеў

## ВАЛАЦУГІ

*Аўтар слоў невядомы*
*Музыка Зм. Еўтуховіча*

Не за Нёмнам, не за Бугам
Гучыць песня валацугаў.
Ты ваўчок і я ваўчок.
Не за Нёмнам, не за Бугам
Гучыць песня валацугаў.
Шэры воўк нам дасць урок.
Калі ты ваўчком завешся,
Асцярожным будзь у лесе.

Прыпеў:
Замест манной крупкі
Мяса хай рвуць зубкі.
Не хавайся ў жыце,
А паказвай кіпці.
Замест маннай крупкі
Мяса хай рвуць зубкі.
Не хавайся ў жыце,
А паказвай кіпці.

А за Прыпяццю ды Сожам
Валацуга спець не зможа.
Ты ваўчок і я ваўчок.
Ды за Дзіснай, ды Дзвіною
Валацугі, гэй за мною.
Шэры воўк нам дасць урок.
Калі ты ваўчком завешся,
Смелым будзь у сваім лесе.

Прыпеў

## ЛІТАРАТУРА


Асновы скаўцкай методы. Выданьне Згуртаваньня Крывіцкіх Скаўтаў. 1947.

Бадэн Пауэл Р. С. Скаўтынг для хлапцоў ЗБСЧ. 1946.

Баркоўскі А. «Гайсакі», «Сёстры Вогнішча» і іншыя // Чырвоная змена. 1991. 28 кастр.

Беларускія народныя гульні / Уклаў Пануцэвіч В. ЗБСЧ, 1948.

Беларускі скаўт. ЗБСЧ, 1946.

Белая лилия скаутизма / Сост. Носенко А. Г. Мн., 1990.

Бондарь Л. Скаутинг: Книга для скаута. Женева, 1993.

Бондарь Л. А. Что есть скаутинг: Книга для скаутского лидера. Оксфорд, 1992.

Бюлетэнь Скаўцкай Інфармацыйнай Службы. ЗБСЧ, 1950. № 21.

Вініцкі А. Матар'ялы да гісторыі беларускага скаўтынгу. Лос-Анжэлес, 1972.

Вялікая скаўцкая гульня. Фленсбург, 1948.

Герасімава А. В., Рычагоў А. Х., Піёнава Р. С. Наш шлях: Нарысы па гісторыі піянерскай арганізацыі Беларусі. Мн., 1962.

Грушэцкі А. Рыцарскі турнір // Настаўніцкая газета. 1993. 17 ліп.

Грушэцкі А. Што такое скаўтынг? // Першацвет. 1994. № 3. С. 58—60.

Гульні ў летніку // Роднае слова. 1992. № 4.

Да мэты. Бістрэр, 1948.

Детский мир скаутов и гайд: Спецвыпуск № 1 // Мир и дом. 1992. Сент.

Детский пролеткульт. Тула, 1919. № 1—2.

Дитрих Г. Конец и начало. М./Л., 1929.

Жан Аліўе. У краіне індзейцаў. Мн., 1973.

Жуков И. Спутник сибирского скаута. Чита, 1921.

Зважай: Часапіс / Ворган Першага Зьвязу Беларускіх Скаўтаў імя К. Каліноўскага. Рэгенсбург, 1946.
Канспект да 10 зборак для Ваўчанятаў. ЗБСЧ, 1946.
Катэнка Н., Лукашэнка Т. Праз ваду, агонь і медныя трубы // Раніца. 1995. 31 жн.
Кіпель В. Беларусы ў ЗША / Пер. С. Шупы. Мн., 1993.
Крупская Н. К. РКСМ и бойскаутизм. М., 1921.
Крэнь І. Беларускім шляхам у эміграцыі // Наша слова. 1996. № 13.
Кудинов В. А. Большие заботы маленьких граждан. М., 1990.
Лозка А. Па ахвоце і здольнасцях. Няхай асвеціць паходня. Статут і асноўныя напрамкі дзейнасці дзіцяча-юнацкага згуртавання // Настаўніцкая газета. 1991. 13 сак.
Лозка А. Скаўтынг у летніку «Грунвальд» // Роднае слова. 1992. № 3.
Лозка А. Трывогі і надзеі беларускага скаўтынгу // Народная газета. 1992. 11 лют.
Лозка А. Мы ступаем на забыты шлях // Пачатковая школа. 1992. № 7.
Лозка А. Хто такія скаўты? // Настаўніцкая газета. 1993. 6 студз.
Лозка А. Ці далучыцца моладзь Беларусі да сусветнай супольнасці? // Звязда. 1995. Чэрв.
Лозка А. Не трэба расколу ў дзіцячых арганізацыях // Наша слова. 1997. № 11.
Максімюк Ян. Беларуская гімназія імя Янкі Купалы ў Заходняй Нямеччыне. Нью-Ёрк/Беласток, 1994.
Миронов Н. Из истории детского движения. Харьков, 1926.
Міхно У. Скарынічы // Чырвоная змена. 1991. 1 сак.
Напагатове!: Часапіс беларускіх скаўтаў. Міхельсдорф, 1947.
Наперад: Часапіс беларускай моладзі. Мюнстэр—Амстэрдам—Эдынбург—Фолькірк—Стырлінг, 1948.
Нашыя Ветразі: Часапіс марскіх скаўтаў дружыны «Пірат». Ватэнштэт, 1949.
Отчет ЦК РКСМ V съезду. М., 1922.
О состоянии РКСМ к VI съезду. М., 1924.
Организация российских юных разведчиков. Нью-Йорк, 1990.
Пакульніцкі Б. Любоў да Бацькаўшчыны выяўляецца ў адносінах да традыцый і сімвалаў нашых продкаў // Настаўніцкая газета. 1995. 4 ліст.
Панада У. Скаўты: служба любові і абавязку перад Богам і людзьмі // Наша слова. 1995. 1 сак.
Пануцэвіч В. Вытычныя для кіраўнікоў скаўтаў. ЗБСЧ, 1949.
Пануцэвіч В. Праца ў Зьвязе. Ч. 1. ЗБСЧ, 1949.
Пастановы першага з'езду ЗБСЧ. Ватэнштэт, 1946.
Полочанинов Р. 80 лет российского разведчества. Нью-Йорк, 1990.
Пранчак Л. Беларуская Амерыка. Мн., 1994.
Рагуля Б. Беларускае студэнцтва на чужыне. Лёндан (Канада)—Нью-Ёрк, 1996.
Рэгулямін скаўцкіх спраўнасьцяў. Ватэнштэт, 1946.
Сборник документов Всемирной организации скаутского движения. Женева, 1991.
Сетон-Томпсон Э. Полное собр. соч. Т. 1—10. М., 1910.
Сетон-Томпсон Э. Рассказы о животных. М., 1966.
Скаутинг в СССР: Информация о современной ситуации и перспективах. Женева, 1991.
Скарынічы, каліноўцы, талакоўцы...: Статут і асноўныя праграмныя напрамкі дзейнасці дзіцяча-юнацкага згуртавання // Чырвоная змена. 1991. 14 кастр.
Скаўцкі бюлетэнь штандару «Гарц»: Орган беларускіх скаўтаў ангельскай зоны. Ватэнштэт, 1948. № 1—11.
Скаўцкі веснік: Часапіс Аб'яднання беларускіх скаўтаў. Мн., 1966. № 1.
Скаўцкі Рэгулямін. Ч. 1. Ваўчаняты / Уступ А. Лозкі, апрац. Н. Палсцюк // Настаўніцкая газета. 1991. 27 ліст.
Скаўцкі Рэгулямін. Ч. 1. Ваўчаняты. ЗБСЧ, 1947.
Скаўцкі Рэгулямін. Ч. 2. Малодшыя Скаўты. ЗБСЧ, 1948.
Скаўцкі Спадарожнік / Уклад. А. Бута. Міхельсдорф, 1947.
Скаўцкі Спадарожнік / Пер. з англ. ЗБСЧ, 1948.
Спадарожнік скаўта / Уклад. В. Акімаў. Мн., 1993.
Скаўцкі шлях: Інфармацыйны бюлетэнь Аб'яднання беларускіх скаўтаў. Мн., 1995.
Скаўт: Часапіс крывіцкіх скаўтаў. Ватэнштэт, 1946. № 1—8.
Скаўцкі страявы Рэгулямін. Ватэнштэт, 1946.
Статут ЗБСЧ. ЗБСЧ, 1949.

Чарняўскі А. Летнік на Блакітных азёрах // Наш дзень. 1992. 13 кастр.

Юнак. Скаўцкі часапіс (з 1946 г. у Нямеччыне, з 1951 г. у Чыкага).

Скаўцкая інфармацыйная служба. Ватэнштэт, 1948.

Kazloŭščyk Ul. Ab fizičnym wychawańni ŭ Bielarusaŭ // Bielaruskaja krynica, 1928. № 33—53.

Praleski. Пралескі. Miesiačny časapis dla bialaruskich dzietah. Biasplatny dadatak da «Bialaruskaj krynicy». № 23. Krasavik, 1936 h.

Robert Baden-Pawell. Scouting and Vouth Movements. London, 1929 edition.

Robert Baden-Pawell. Scouting for Boys. 1908 edition.

Scouting Round the World. Geneva, 1990 edition.

Newsletter. Published by WOSM Officce for the C. J. S. and related countries and WOSM Information Centre, Moscow.

ЗМЕСТ

Ад аўтара 3
З гісторыі скаўтынгу 8
Што такое «скаўтынг»? 8
Хто ж ён — Бі Пі? 9
Лёс скаўтынгу ў Расіі 12
Пасля роспуску скаўтаў 14
Скаўтынг і беларуская ментальнасць 16
Скаўтынг у Заходняй Беларусі 20
Беларускія скаўты пасля вайны 25
Дзейнасць ЗБСЧ. Зборкі ў звязе 32
Скаўтынг у сучаснай Беларусі 35
Пачатак адраджэння нацыянальнага скаўтынгу 36
Летнік «Грунвальд» 38
Арганізацыйнае афармленне беларускага скаўцкага руху 46
Сусветная арганізацыя скаўцкага руху 52
Развіццё джэмбары 54
Прынцыпы, метад, сімвалы, атрыбуты... 59
Прынцыпы скаўцкага руху 59
Прырачэнне 61
Права скаўтаў 62
Скаўцкі метад 65
Гульні скаўтаў 68
Падзел у скаўтынгу. «Ваўчаняты» 72
Галоўныя скаўцкія сімвалы 74
Вітанне скаўтаў 76
Атрыбуты і уніформа 78
Пробы і спраўнасці 81
Што чытаюць і спяваюць скаўты? 84
Дакументы. Дапаможны матэрыял 91
Скаўцкі Рэгулямін. Частка І. Ваўчаняты (*Выданне галоўнага кіраўніцтва ЗБСЧ*. 1947) 91

Любоў да Бацькаўшчыны. *Гутарка з кнігі скаўтмайстра В. Пануцэвіча «Праца ў Зьвязе»* 132
Зборкі і лягер. *З кнігі скаўмайстра В. Пануцэвіча «Праца ў Зьвязе»* 141
Назіраньне і асьцярожлівасьць. *Гутарка з кнігі скаўтмайстра В. Пануцэвіча «Праца ў Зьвязе»* 149
Правілы вялікай скаўцкай гульні. *З кнігі «Вялікая Скаўцкая Гульня»* 156
Скаўтынг — гэта... *З дакументаў Сусветнай арганізацыі скаўцкага руху* 160
Статут Аб'яднання беларускіх скаўтаў 164
Малітва Гасподняя 173
Магутны Божа. *Н. Арсеннева* 173
Мы выйдзем шчыльнымі радамі. *Словы М. Краўцова. Музыка У. Тэраўскага* 174
Пагоня. *Словы М. Багдановіча. Музыка М. Шчаглова* 176
Мы — моладзь. *Словы Н. Арсенневай. Музыка М. Шчаглова* 178
Гімн вавучанятаў. *Словы В. Пануцэвіча. Музыка М. Равенскага* 180
Валацугі. Аўтар слоў невядомы. *Музыка Зм. Еўтуховіча* 182
Літаратура 183

*Навукова-папулярнае выданне*

**ЛОЗКА Аляксандр Юр'евіч**

**БЕЛАРУСКІ СКАЎТЫНГ**

Загадчык групы *В. В. Лапцік*
Рэдактар *С. М. Дзерангоўская*
Мастацкі рэдактар *Л. И. Мялоў*
Тэхнічны рэдактар *Л. В. Сторажава*
Карэктары *Л. А. Адамовіч, А. В. Алешка, Л. І Жылінская, Л. К. Сямёнава*

Набор і вёрстка выкананы на камп'ютэрнай тэхніцы Дзяржаўнага прадпрыемства «Выдавецтва «Полымя». Падпісана ў друк з арыгінал-макета 22.10.97. Фармат 84 × $108^1/_{32}$. Папера афсетная. Гарнітура школьная. Афсетны друк. Ум. друк. арк. 10,08. Ум. фарб.-адб. 10,5. Ул.-выд. арк. 8,3. Тыраж 2500 экз. Выд. № 69. Зак. 210

Дзяржаўнае прадпрыемства «Выдавецтва «Полымя» Дзяржаўнага камітэта Рэспублікі Беларусь па друку. Ліцэнзія ЛВ № 432 ад 17.03.1993 г. 220600, Мінск, пр. Машэрава, 11

Мінская фабрыка каляровага друку. 220115, Мінск, вул. Каржанеўскага, 20

**Лозка А. Ю.**

Л72 Беларускі скаўтынг.— Мн.: Полымя, 1997.— 188 с.: іл.

ISBN 985-07-0213-3.

Кніга распавядае аб дзейнасці дзіцячых скаўцкіх арганізацый. Акрамя гісторыі беларускага скаўтынгу коратка падаецца методыка прагрэсіўнага міжнароднага руху, што паспяхова дзейнічае больш чым у 215 краінах свету. Кніга ставіць перад грамадскасцю мэту далучэння дзяцей і моладзі да сусветнай супольнасці.

Выданне будзе карысным педагагічным работнікам, навукоўцам, дзецям і ўсім, хто цікавіцца гісторыяй Беларусі, праблемамі выхавання.

**ББК 66.75(4Беи)**